ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

17 - 23 ЛІПЕНЯ 1993г № 29 (3699)

## МОЎНАЯ РЭФОРМА 1933 ГОДА

***Расціслаў ПЛАТОНАЎ: «26 жніўня 1933 года Савет Народных Камісараў БССР прыняў дэкрэт «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу» — у такім напісанні ён быў апублікаваны 28 жніўня. З таго дня прайшло 60 год. Аднак спрэчкі аб накіраванасці і мэтазгоднасці рэформы, ахапіўшай не толькі правапіс, а і мову ўцэлым, яе вынікаў, не сціхаюць і сёння».***

**СТАРОНКІ 5, 12**

## СЦЮЖА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

***Іван ШТЭЙНЕР пра новую аповесць Васіля БЫКАВА і праблемы вандроўніцтва ў беларускай літаратуры.***

**СТАРОНКІ 6—7**

## БЫЛІЧКІ—НЕБЫЛІЧКІ

***Кароткія апавяданні Уладзіміра ЯГОЎДЗІКА.***

**СТАРОНКІ 8—9**

## СТАЛІН І РЭПАТРЫЯНТЫ

***Уладзімір СНАПКОЎСКІ: «Пад маскай «добраахвотнага» вяртання савецкіх людзей у «камуністычны рай» сталінскае кіраўніцтва жадала набыць сабе ў свеце вобраз дэмакратычнага і гуманнага ўрада, пад апеку якога быццам бы жадаюць з усіх сіл вярнуцца добрасумленныя грамадзяне, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны».***

**СТАРОНКІ 14—15**

## «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» НА ЧУЖЫНЕ

***Да 70-х угодкаў з дня выхаду ў свет кнігі Якуба Коласа.***

**СТАРОНКА 16**



# ЗАСТАНУСЯ НАЗАЎЖДЫ

## КРЭСКІ З ЖЫЦЦЯ КУПАЛАЎЦА УЛАДЗІМІРА КІН-КАМІНСКАГА

**— Уладзімір Тадэвушавіч! Мне не забыцца на свае студэнцкія гады і на курсавыя работы, якія раз-пораз прысвячаліся вашым ролям. Вы зазвычай мелі некалькі выхадаў у першым акце, у другім на сцэне не з'яўляліся і на апладысменты не выходзілі... Як высветлілася потым, вы спяшаліся на трэніроўку, — мала хто можа пахваліцца такою колькасцю пазасцэнічных перамог на кілімах ды рынгах...**

— Я ў тэатры з маленства, бацька з маці — таксама купалаўцы. У касцюмерным цэху калісьці працавала старэнькая цётка Хая, якая рабіла маленькі такі загончык для дзетак артыстаў, пакуль тыя былі на сцэне. Час майго дзяцінства быў складаны, і таму з загончыка цёткі Хаі я патрапіў на вёску да дзеда з бабцяй у Лідскі раён. Дзед працаваў дырэктарам школы, а бабця — выкладчыцай пачатковых класаў. Памятаю наш мінскі дом у Спартыўным завулку, яму цяпер, напэўна, ужо за дзвесце гадоў, — будаваў дом мой прадзед! Калі я пераехаў туды пасля вёскі, дык аказалася, што ніякай іншай мовай, акрамя беларускай, не валодаю. Суседскія дзеці з мяне смяяліся і нават кпілі. Праўда, па-руску я

*(Працяг на стар. 12)*

## Кола дзён

***Нядаўнія падзеі на таджыкска-афганскай мяжы не пакінулі каменя на камені ад запэўніванняў Кебіча і ягонай каманды, што «пасля падпісання дагавора аб калектыўнай бяспецы беларускія хлопцы не будуць гінуць за межамі Беларусі». І не таму, што сярод забітых 25-ці расейскіх памежнікаў ёсць і беларус, дваццацігадовы Сяргей Сыч з Рэчыцы, а найперш таму, што ва ўрадавах і ваенных колах Масквы ўжо адкрыта гавораць пра неабходнасць замены расейскіх войск у Таджыкістане на войскі «саюзнікаў»: Казахстана, Узбекістана, альбо — Беларусі... Але ці адпусцяць на гэты раз бацькі сваіх дзяцей на смерць дзеля геапалітычных і эканамічных інтарэсаў чужой дзяржавы? У іх саміх пра гэта пакуль не спыталі. Бо ці не той гэта выпадак, калі бязмежныя цярплівасць і талерантнасць беларускага народа могуць скончыцца?***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

21 ліпеня пачаўся афіцыйны візіт дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам у Злучаныя Штаты Амерыкі. У склад дэлегацыі ўваходзяць намеснік Старшыні Саўміна Міхаіл Мясніковіч, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета Уладзімір Гаркун, Ніл Гілевіч, Леанід Козік, Іван Цярэшка, міністр абароны Павел Казлоўскі, старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі, старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, старшыня Мінскага гарвыканкама Аляксандр Герасіменка і іншыя афіцыйныя асобы. Трохдзённая праграма візіту вельмі насычаная. Акрамя перагавораў з прэзідэнтам Білам Клінтанам, адбудуцца сустрэчы з сенатарамі, кангрэсменамі, бізнесменамі, міністрамі абароны, фінансаў, гандлю...

### АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

На вуліцах сталіцы з'явіліся міліцыянеры ў новай форме — беларускай. Яна не толькі больш сучасна, «модна», выглядае ў параўнанні з былой савецкай, але і мае свае асаблівасці. Зменена форма пагонаў, на рукавах — нашыўкі: герб «Пагоня» і надпіс «Міліцыя». Падобна на тое, што Міністэрства ўнутраных спраў найбольш паслядоўна і рашуча праводзіць беларусізацыю свайго /і нашага/ жыцця. Чым не прыклад для іншых?.. Стала вядома таксама, што зацверджаны ўзоры параднай і спартыўнай формы беларускіх алімпійцаў, што выступяць у Лілехамеры. Строі і паліто, скроеныя і аздобленыя ў нацыянальным стылі, будзе шыць сумесная беларуска-амерыканска-польская фірма.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

У Германіі выйшаў «Атлас аўтамабільных дарог свету». Упершыню ў ім усе назвы беларускіх населеных пунктаў дадзены ў транскрыпцыі з беларускай, а не расейскай мовы. Ці не час і нам самім пісаць назвы сваіх гарадоў і вёсак не на мовах суседзяў, а на роднай: Горадня, Берасце, Менск, Гомля?..

### СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

У Беларусь для заключэння дамовы ад дапамозе падчас уборкі збожжа прыбыла дэлегацыя Кустанайскай вобласці Казахстана. Складанасць і тонкасць сітуацыі ў тым, што Казахстан па сёння не разлічыўся з намі зернем за падобную мінулагоднюю дапамогу. Пра выніку візіту кустанайцаў да Вячаслава Кебіча паведамленняў у прэсе пакуль няма. Затое ёсць паведамленні іншага парадку: Міністэрства хлебапрадуктаў Беларусі не можа выкупіць нават збожжа, вырашчанае на палях нашае рэспублікі. Вызначаныя папярэдне цэны не задавальняюць, як казалі раней, хлебаробаў.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

75—80 працэнтаў вучняў першых класаў сёлета пачнуць вучыцца па-беларуску. У другіх класах на роднай мове будуць навучацца 67 працэнтаў школьнікаў, у трэціх — крыху менш. Хоць мы і ведаем адноснасць і сапраўднае значэнне гэтых лічбаў, аднак, памятаючы нядаўняе мінулае, вымушаны канстатаваць: пэўныя зрухі ў беларусізацыі беларускіх школ усё ж ёсць. Ды і не ўсё адразу.

### КАНФУЗ ТЫДНЯ

У Мінску на картаграфічнай фабрыцы, што на вуліцы Валадарскага, аддрукавана першая партыя беларускіх ваўчараў. Але — ваўчараў-паўфабрыкатаў. Бо на гэтым прадпрыемстве няма абсталявання для набіўкі нумароў. На браніраваным аўтамабілі «ваўчары» возяць у Маладзечна на сумеснае прадпрыемства, дзе іх «даводзяць да кандыцыі» і адпраўляюць назад у Мінск у сховы Нацыянальнага банка. Калі мы гэтак будзем працаваць і далей, то ніколі не станем багатымі.

### КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Сталіцу Беларусі наведала выканаўца галоўнай ролі ў мексіканскім тэлесерыяле «Мачыха» Марыя Сортэ. Сам па сабе факт з разраду звычайных. І нічога дзіўнага ў тым, што зала Дома афіцэраў, дзе адбылася сустрэча з ёю, была перапоўнена. Прэм'ер-міністр Беларусі, які зусім нядаўна не знайшоў вольнай хвіліны, каб сустрэцца з нашымі суайчыннікамі, што прыехалі на З'езд беларусаў свету, прыняў М.Сортэ. Што ж, мажліва водсвет той надзвычайнай папулярнасці мексіканскай актрысы сярод тэлегледачоў Беларусі ўпадзе і на яго. Аднак аднаму з лідэраў дзяржавы варта было б падумаць не толькі пра сябе, але і пра прэстыж сваёй краіны.

### ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

Пры нявысветленых пакуль, а дакладней — невытлумачаных, абставінах загінуў начальнік упраўлення знешняй разведкі КДБ Беларусі Міхаіл Жукавец. Вярнуўшыся дадому позна ўвечары, пасля непрацяглай размовы з жонкай, ён выйшаў на балкон сваёй кватэры на дзесятым паверсе дома на Нямізе... Што стала прычынай яго падзення — зараз высвятляецца: вядзецца следства.

Кола дзён

# МЫ МАЕМ САЮЗНІКАМ БОГА...

## 27 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Не так ужо рэдка здараецца, што падзеі эпахальнага, лёсавызначальнага для народаў і краін характару здзяйсняюцца тымі, хто для гэтай справы найменей падыходзіць. Кіеўскі князь Уладзімір /той, што спаліў Полацак, згвалтаваў Рагнеду на вачах яе бацькоў і братоў, а потым забіваў іх на вачах Рагнеды/ нават на фоне свайго далёка не гуманнага часу вылучаўся жорсткасцю і цынізмам. Але менавіта гэты гвалтаўнік і забойца ўвёў на ўсходнеславянскіх землях Хрысціянства. Цар Пётр І, тыповы азіяцкі сатрап, далучае Масковію-Расію да ліку еўрапейскіх краін. Пад кіраўніцтвам тырана Сталіна Савецкі Саюз перамог фашысцкую Германію. Генсек Гарбачоў, чыноўнік, які ўсім, што меў і мае, абавязаны бальшавіцка-таталітарнай сістэме, ставіць подпіс пад пастановай аб роспуску КПСС. Пералік гэтых парадоксаў можна доўжыць і доўжыць... Але, мабыць, у гэтай прадаксальнасці ёсць свая логіка. Бо калі закаранелы язычнік вымушаны ўводзіць у сваёй дзяржаве Хрысціянства, калі духоўны нашчадак Чынгіс-Хана вучыцца розуму ў Еўропы; калі людзі, якія не маюць Бога ў душы, усё ж вымушаны падпарадкоўвацца Боскай волі і гістарычнай неабходнасці, — гэтым падкрэсліваецца непазбежнасць той ці іншай з'явы, падзеі, незалежнасць яе ад волі асобных людзей.

Тры гады назад Вярхоўны Савет Беларусі /тады яшчэ БССР/, які на дзевяць дзесятых складаецца з камуністаў, ветэранаў і інвалідаў, прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэту падзею можна паставіць у шэраг з пералічанымі вышэй. Нібыта нейкая вышэйшая сіла прымусіла іх галасаваць «за», калі розум і сэрца крычалі «не!». Гэткая ж сітуацыя паўтарылася двойчы ў 1991 годзе. Спачатку, калі яны галасавалі за наданне Дэкларацыі сілы Асноўнага закона, за новую назву дзяржавы, за бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». І потым, калі зацвердзілі Белавежскае пагадненне, паставіўшы такім чынам крыж на савецкай імперыі.

Мяркуючы па тым, як цяжка ідзе напаўненне Дэкларацыі рэальным зместам, Вярхоўны Савет стаміўся. Столькі разоў дзейнічаць супраць уласных жаданняў — цяжкае выпрабаванне для псіхікі дэпутатаў ветэранскага ўзросту. Ды і іхнія маладыя калегі не лепшыя. Прыгадаем істэрычны выбрык т. Булахава /нагі маёй, маўляў, у гэтай зале не будзе!/, калі яму далікатна параілі не вытокрквацца наконт маралі, маючы на сумленні дарожны інцыдэнт са смяротным вынікам.

Я па-свойму спачуваю дэпутатам, якія па-ранейшаму лічаць сябе грамадзянамі СССР, ненавідзяць незалежную Беларусь і разам з тым вымушаны працаваць на ўмацаванне Беларускай дзяржавы. Спачуваю, як хворым, якія пакутуюць ад страшэнных псіхалагічных нагрузак. Але хворым — месца ў шпіталі, а не ў парламенце. У цывілізаваных краінах, дарэчы, чалавек з кепскім здароўем не будзе дапушчаны да высокай дзяржаўнай пасады.

Памятаю, як на пазамінулай сесіі ВС РБ перад дэпутатамі выступаў высокі госць са Швейцарыі. Трэба было бачыць твары «народных абраннікаў», калі той віншаваў іх з набыццём Рэспублікай Беларусь дзяржаўнай незалежнасці, наданнем нацыянальным сімвалам — бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня» — статуса сімвалаў дзяржаўных, з дзяржаўнасцю беларускай мовы, і нарэшце — з паразай камунізму ў сусветна-гістарычным маштабе! Яны былі вымушаны пляскаць у далоні. Усё ж — замежны госць!

Як бы ні рабілі яны выгляд, што дзейнічаюць ад імя народа і ў імя народа, большасць з іх добра ўсведамляе, што Вярхоўнаму Савету і ўраду Беларусі з народам не пашчасціла. Нездарма, калі ў падкантрольных Саўміну газетах і іншых сродках масавай інфармацыі распачалася кампанія за далучэнне Беларусі да «коллективной безопасности», у адным з інтэрв'ю т. Данілаў, які ў ведамстве т. Кебіча займаецца пытаннямі нацыянальнай бяспекі, назваў ці не галоўнай прычынай далучэння РБ да ваенна-палітычнага блока неабходнасць захавання сацыяльнай стабільнасці на Беларусі. Мабыць, на Беларускае войска Саўмін спадзявацца не можа.

А вось узор стаўлення да Расіі. На той сесіі ВС РБ, дзе камуністы забаранілі рэферэндум, мне запомнілася выступленне галоўнага банкіра рэспублікі сп. Багданкевіча. Ён гаварыў, што Беларусь павінна дамагчыся ад Захаду крэдыту ў канвертуемай валюце, каб мець магчымасць расплаціцца з Расіяй, якая... вінна Беларусі сто мільярдаў рублёў /у тых яшчэ цэнах/. На пытанне аб тым, каб Расія найперш вярнула нам грошы, Багданкевіч адказаў, што гэту тэму нават не варта ўздымаць, бо Расія ўсё роўна плаціць не будзе. Гэтым сказана многае. Атрымліваецца, што мы маем не ўрад, а каланіяльную адміністрацыю, якой ніколі ў галаву не прыйдзе чагосьці патрабаваць ад метраполіі.

Можа, галоўны вынік гэтых трох гадоў, якія прайшлі з прыняцця Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, у тым, што само слова «незалежнасць» стала для нас звыклым, што пра Савецкі Саюз гаворка ідзе выключна ў мінулым часе /«на пpосторах бывшего Советского Союза...», «у рэспубліках былога Савецкага Саюза...» і г. д./. Неяк мой сямігадовы сын, пабачыўшы салдата, у якога на пагонах чамусьці захаваліся літары «СА», пацікавіўся, што яны азначаюць. Пачуўшы, што «СА» — гэта «Савецкая Армія», ён са здзіўленнем запытаў: «А што робіць на Беларусі Савецкая Армія?» І гэта пры тым, што з аздаблення дзіцячых садкоў і школ толькі зусім нядаўна знікла савецкая сімволіка, і, здаецца, яшчэ ўчора дзяцей прымушалі вучыць вершыкі пра «дзядулю Леніна».

Хай бы гэтае дзіцячае пытанне «Што робіць на Беларусі Савецкая Армія?» пачулі ў Вярхоўным Савеце РБ. Але «сляпы той, хто не хоча бачыць, і глухі той, хто не хоча чуць...»

Трэцюю гадавіну Незалежнасці Беларусь сустракае ва ўмовах пагрозы страты Незалежнасці. На тэрыторыі нашай краіны стаяць замежныя войскі, прычым урад хацеў бы пакінуць іх тут надоўга. Вярхоўны Савет РБ цягне краіну ў пашчу «коллективной безопасности». Яшчэ няма подпісу сп. Шушкевіча пад адпаведнай паперай, якая б паставіла пад сумненне наш нейтралітэт, а з Беларусі ў Таджыкістан ужо ідзе баявая тэхніка. Нехта вельмі спяшаецца прадэманстраваць Маскве сваё лакейства. Не выключана, што прамаскоўскія артадоксы ў бліжэйшы час зноў распачнуць наступ на адзін з асноўных інстытутаў дзяржаўнасці — беларускае грамадзянства. Ім было б лепей, каб грамадзянства было падвойным. Тады мы «на законнай падставе» дазволім сумежным краінам /найперш Расіі/ лезці ў нашыя ўнутраныя справы.

Асобная гаворка — пра эканоміку. Тут ва ўрада адзін кірунак — на Усход: Расія, маўляў, нам дапаможа! Хай бы сёння хто Расіі дапамог...

Беларускаму грамадству яшчэ далёка да згоды. Адна з умоў згоды — пакаянне. Але калі хто бачыў, каб бальшавік каяўся?

Палітычная сітуацыя на Беларусі не спрыяе аптымізму, але... Быць ці не быць Беларусі незалежнай, вырашае не Вярхоўны Савет і не ўрад. Незалежнасць — гэта стан душы, а значыць у барацьбе за свабоду Беларусь мае саюзнікам Бога.

**Магутны Божа! Уладар сусветаў,**
**Вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**Над Беларусяй ціхай і ветлай**
**Рассып праменне Свае хвалы.**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ГРАМАДА ЗАКЛІКАЕ ДАЛУЧЫЦЦА...

***15 ліпеня адбылося пасяджэнне Выканкама Цэнтральнай Рады БСДГ. Выканкам прыняў заяву аб выніках XII сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. У ёй гаворыцца:***

«Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ адзначае, што вынікі XII Сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз пацвердзілі вывад аб тым, што ўлада ў краіне належыць блоку камуністычна-наменклатурных сіл.

Выканкам канстатуе, што ва ўмовах катастрафічнага стану эканомікі, які ў хуткім часе можа прывесці да сацыяльнага выбуху, імкненне кіруючых колаў да ўвядзення дыктатуры відавочнае. Парламенцкая большасць нават учыніла спробу надаць гэтай уладзе абсалютны характар. Але падпарадкаваць КДБ Саўміну і замяніць С. Шушкевіча на стаўленіка камуністаў не ўдалося — дыктатура не ажыццявілася.

Лічым, што настаў час, каб сп. Шушкевіч заняў больш акрэсленую пазіцыю ў адносінах да шырокага дэмакратычнага руху. Бо як паказала тая ж сесія, менавіта дзякуючы намаганням дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі, у тым ліку і фракцыі Грамады, прыняты, нарэшце, законы аб імянных прыватызацыйных чэках, аб уласнасці на зямлю, экалогіі ды інш.

Беларускія сацыял-дэмакраты лічаць, што імкненне камуністычна-наменклатурных сіл да абсалютнай улады /пра што сведчаць апошнія структурныя змены ва ўрадзе/ робяць надзвычай актуальнай праблему каардынацыі намаганняў усіх дэмакратычных партый, рухаў і прафсаюзаў. Грунтам для супрацоўніцтва могуць быць рэзалюцыі III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі «Аб унутрыпалітычным становішчы Беларусі» і «Аб дзяржаўна-канстытуцыйным ладзе Рэспублікі Беларусь».

Грамада падзяляе пазіцыю Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі аб неабходнасці правядзення датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь не пазней як у сакавіку 1994 года.

Выканкам ЦР БСДГ заклікае сяброў і прыхільнікаў Грамады далучыцца да збору подпісаў, які арганізуе ФПБ, аб прызначэнні датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

Фестывалі

# НЕ ЗНЯВЕРЫЛІСЯ МЫ...

Гляджу на гэты здымак... І ўспамінаецца легендарная скрыпка Міколы Равенскага. Да скону не разлучаўся з ёю аўтар музыкі гімна-малітвы «Магутны Божа», які загучаў, нарэшце, на зямлі беларускай — як спадзеў, як вера ў шчасце краіны нашай і нашага люду. І ўспамінаецца цуд нядаўніх ліпеньскіх дзён, калі, адухоўлены двума гэтымі святымі словамі, зажыў-загучаў у Магілёве «Магутны Божа» — Першы Міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі ды песні. Успамінаюцца добрыя, ветлыя, натхнёныя, радасныя твары: удзельнікаў канцэртных праграм, слухачоў, паломнікаў /з 15 краін свету!/, арганізатараў фестывалю і тых, каго называлі коратка й строга: «журы».

Успамінаюцца і многія імёны. А найперш — імёны людзей, ад якіх зыходзіла ініцыятыва гэтага жыццёва неабходнага для духоўнага ачышчэння народа, для адраджэння незалежнай Беларусі, фэсту: пробашча касцёла св. Станіслава ў Магілёве ксяндза Уладзіслава Бліна ды ксяндза Романа Факсінскага, дырэктара фестывалю. Міжнароднае, міжканфесійнае музычнае свята, арганізаванае недзяржаўнымі структурамі, падтрымлівалі, дапамагалі ладзіць аднадумцы з аблвыканкама, гарадскія ўлады, Беларуская каталіцкая грамада, Магілёўская філія БНФ, мясцовыя музыканты, шматлікія спонсары, прамыслоўцы, журналісты...

А вось і асноўныя вынікі конкурсных праслухоўванняў, абвешчаныя журы на чале з прафесарам Віктарам Роўдам. Лаўрэатамі названы: мужчынскі камерны хор «Унія» з Мінска, Полацкі камерны хор, пратэстанцкі ансамбль «Рэма» з Жытоміра /усе — 1-е месца/; Мінскі абласны камерны хор /Маладзечна/, Магілёўскі камерны хор, украінская група «Крэда» /2-е месца/; мінскі маладзёжны хор «Сонейка», хор педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі /які працуе ў Магілёве/, польскія гурты «Бялы квят» і «Спэс» /3-е месца/.

Больш падрабязны расказ пра фестываль будзе ў бліжэйшых нумарах «ЛіМа». Пакуль жа — знамянальны факт, які паведаміў адзін з арганізатараў фестывалю вядомы журналіст-магілёвец Анатоль Шпількоў: з наступнага тыдня Магілёўскае абласное радыё па рашэнні рэдакцыйнага калектыву выходзіць у эфір з новымі пазыўнымі. Імі стане музычная эмблема фестывалю — першая фраза гімна «Магутны Божа». Самое ж свята вернецца на благаславёную магілёўскую зямлю роўна праз год. І атуліць цёплай хваляй яднання вернікаў розных канфесій, дый проста — людзей з добрым сэрцам і чыстым сумленнем.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**




*На здымку: сімвалічнае імгненне ўрачыстага адкрыцця фестывалю «спыніў» фотакарэспандэнт Валеры САЎЧАНКА.*

З нагоды

# ЦІ ПАТРЭБНА ГЭТА НЕЙТРАЛЬНАЙ КРАІНЕ?

У канцы мінулага — пачатку гэтага месяца на працягу чатырох дзён у Салоніках праходзіла міжнародная канферэнцыя, арганізаваная міжпартыйным праваслаўным камітэтам парламента Грэцыі. Мэта канферэнцыі — вызначыць ролю Праваслаўнай царквы ў новай Еўропе. Удзел бралі делегацыі шэрагу еўрапейскіх краін, дзе праваслаўе альбо дамінуе, альбо ўваходзіць у лік найбольш уплывовых канфесій. Беларусь на канферэнцыі прадстаўлялі дэпутаты Вярхоўнага Савета Р. Вячэрскі і А. Лябедзька /апошні з'яўляецца намеснікам старшыні камісіі ВС па справах моладзі/.

14 ліпеня адбылася сустрэча названых дэпутатаў з прэсай. Па іх словах, сёння існуе пагроза злучэння так званых «зялёнай ісламскай дугі» і «Рыма-каталіцкага фронту», якое мае мэтай задушыць праваслаўе, узяць уладу над Еўропай, а ў перспектыве над усім светам.

«Усе беды, усе войны — ад іслама і каталіцызму», — сказаў дэпутат Р. Вячэрскі. У той час, як праваслаўныя краіны, на яго думку, ніколі не здзяйснялі агрэсій. А. Лябедзька выказаў меркаванне, што з каталікамі ашчэ неяк можна дамовіцца, а вось Унія для Беларусі — «вредное і противоестественное явление», занесенае на нашу зямлю «польскими и литовскими феодалами». Ліквідацыя Уніі ў 1839 годзе, лічыць дэпутат, акт аднаўлення гістарычнай справядлівасці. Магчыма, дадаў ён, каб супрацьстаяць Уніі, мы нават будзем вымушаны пайсці на аўтакефалізацыю Беларускай праваслаўнай царквы.

На прамое пытанне, ці не ішла ў Салоніках гаворка аб стварэнні «Праваслаўнага фронту» ў Еўропе, дэпутаты адказалі, што такі тэрмін не ўжываўся. Яны лічаць вялікай палітычнай памылкай Міністэрства замежных спраў Беларусі тое, што наша краіна афіцыйна прызнала Македонію, але не спяшаецца раскрываць абдымкі для Сербіі.

Складвалася ўражанне, што дэпутаты лічаць праваслаўе дзяржаўнай рэлігіяй Рэспублікі Беларусь, і хацелі б ужо сёння далучыць Беларусь да еўрапейскага «Праваслаўнага фронту». Але ці трэба гэта нейтральнай дзяржаве, якая знаходзіцца на памежжы Праваслаўя і Каталіцызму?

**П. В.**

# БЧС: СУПОЛЬНЫ ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ КРАІН БАЛТЫЙСКА-ЧАРНАМОРСКАГА РЭГІЁНА

У палітычнай палеміцы даволі часта скарыстоўваецца такі прыём: прыпісаць апаненту словы, якіх той не гаварыў, а потым гэтыя словы абвергнуць. Да інсінуацый звяртаецца той, хто не падрыхтаваны да спрэчкі, не мае аргументаў, якія маглі б пераканаць апанента, і, галоўнае, сам добра ведае, што не мае рацыі, але — амбіцыі не даваляюць прызнаць сваю паразу.

Прыблізна так дзейнічаюць крытыкі эканамічнай праграмы Беларускага народнага фронту, абвінавачваючы Фронт і саюзныя з ім партыі ў няздольнасці рэальна ацаніць сітуацыю на Беларусі і вакол яе. Калі пачытаеш газеты, накшталт «Фемиды», «Мы и время», «Политика. Прогноз. Позиция», а таксама развагі прамаскоўскіх бальшавіцкіх артадоксаў у больш сур'ёзных выданнях /тыя ж «Звязда» і «Народная газета» даюць сваё старонкі для самых розных аўтараў — плюралізм?../, дык можа скласціся ўражанне, нібыта БНФ і ўвогуле дэмакраты маюць намер парваць з Расіяй эканамічныя стасункі, адмежавацца ад яе калючым дротам, кінуцца ў абдымкі Захаду. Але хацелася б запытаць паважаных «товарищей», дзе і калі яны такое чулі ад дэмакратаў?

БНФ і ягоныя саюзнікі не супраць эканамічных стасункаў з Расіяй. Але яны — за стасункі цывілізаваныя. Між тым, ці можна назваць цывілізаванай дзяржаву, якая пазірае на «ближнее зарубежье» з нафтавай вышкі і з гэтай вышыні дае суседзям парады, як ім ладзіць жыццё ў сваіх краінах, на сваёй зямлі, пагражаючы ў выніку чаго перакрыць для «непаслухмяных» вентыль?

Тут міжволі пачнеш глядзець у супрацьлеглы бок. Ды не трэба вялікай мудрасці, каб зразумець, што ў бліжэйшы час нас на Захадзе не чакаюць. Сітуацыя, нібыта, безвыходная. Але, як вядома, безвыходнымі называюць тыя сітуацыі, у якіх не хочуць шукаць выйсця. Між тым, выйсце ёсць. Яно — у аб'яднанні вытворчых патэнцыялаў і каардынацыі эканамічных праграм краін Балтыйска-Чарнаморскай дугі. Эстонія, Латвія, Жамойць /Летува/, Беларусь, Украіна ў роўнай ступені падвяргаюцца эканамічнаму шантажу з боку Расіі, і ў роўнай ступені нежаданыя госці ў Еўрапейскім /дакладней, заходнееўрапейскім/ доме. Калі нават заходнія немцы часам памінаюць нядобрым словам канцлера Коля, які «прышчапіў» да ФРГ Усходнюю Германію і прымусіў грамадзян ФРГ ахвяраваць дзеля сваіх адзінакроўных братоў з ГДР /пасля ўз'яднання ў Заходняй Германіі ўзняліся падаткі і запаволіўся рост жыццёвага ўзроўню/, дык няцяжка ўявіць, як ставіцца багатыя краіны нашага кантынента да імклівага «вяртання ў Еўропу» былых савецкіх рэспублік.

Сама гісторыя ставіць народы Балтыі, Беларусі і Украіны перад неабходнасцю эканамічнага саюза, каб супрацьстаяць шавіністычным памкненням Усходу і ігнараванню іх суверэнных дзяржаў з боку Захаду. Сур'ёзны крок да стварэння такога саюза быў зроблены 14—15 ліпеня, калі ў Менску адбылася Міжнародная канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна «Шляхі выйсця з паліўна-энергетычнага крызісу». У ёй бралі ўдзел ад Беларускага народнага фронту — З.Пазняк, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — А.Трусаў, ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — А.Дабравольскі, ад Сялянскага Саюза Латвіі — А.Прыедытыс, ад Саюза Айчыны /кансерватараў Летувы/ — С.Малькявічус, ад Народнага Руху Украіны — М.Байчышын, ад Хрысціянска-дэмакратычнай партыі Украіны — В.Жураўскі. Былі таксама тэхнічныя эксперты ад названых вышэй краін.

У Звароце Канферэнцыі да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Латвіі, Летувы і Украіны гаворыцца:

«Паліўна-энергетычны крызіс, які ахапіў краіны Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна /БЧР/, прыняў такія маштабы, што стаў пагрозай для незалежнасці і цэласнасці гэтых дзяржаў.

Галоўныя прычыны крызісу былі закладзены ў нетрах каманднай, экстэнсіўнай эканомікі і каланіяльнай палітыкі былога СССР. Гэта аднабокая арыентацыя на пастаўкі, варварская эксплуатацыя прыродных багаццяў, у выніку чаго настала іх спусташэнне, дэфармаванае развіццё эканомікі рэгіёна без уліку сыравіннай базы, нацыянальных інтарэсаў і традыцый, тэхнічнае адставанне і нізкая эфектыўнасць выкарыстання паліва.

Канферэнцыя лічыць развіццё паліўна-энергетычнага комплексу, інжынерных камунікацый, якія забяспечваюць магчымасць пастаўкі нафты з розных крыніц, неабходнай умовай развіцця эканомікі і станаўлення дзяржаўнай незалежнасці краін рэгіёна. Гэта будзе садзейнічаць магчымасці атрымліваць дадатковую нафту, захаваць рабочыя месцы, папярэдзіць спад эканомікі.

Канферэнцыя звяртаецца да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Латвіі, Летувы і Украіны з прапановай у бліжэйшы час правесці сумесную нараду паўнамоцных прадстаўнікоў і спецыялістаў, на якой:

— разгледзець пытанні аб будаўніцтве Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара /БЧНК/ і даручыць адказным службам выканаць тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне;

— аб стварэнні рэгіянальнага банка развіцця краін, які павінен узяць на сябе пытанні фінансавання прапануемага праекта і іншых магчымых праектаў і мерапрыемстваў, звязаных з эфектыўным выкарыстаннем энергарэсурсаў, развіццём энергетыкі, транспарту, сувязі і экалагічнай аховы ў Балтыйска-Чарнаморскім басейне.

Канферэнцыя лічыць, што яе правядзенне выклікана пошукам гаспадарчых рашэнняў краін БЧР і не накіравана супраць трэціх краін, а рэалізацыя праекта БЧНК не зніжае магчымасці паставак нафты з Усходу краінам Усходняй і Заходняй Еўропы.

Апошнім часам пытанні паставак нафты ў БЧР сталі не толькі эканамічнай праблемай, а і прадметам гандлю ў палітыцы.

Ва ўмовах адсутнасці дастатковай паліўна-здабываючай базы нацыянальная прыналежнасць тэрміналаў, нафправодаў, прадуктаправодаў і нафтаапрацоўчых заводаў з'яўляецца важным элементам гарантый незалежнасці і эканамічнага развіцця. У сувязі з гэтым канферэнцыя лічыць, што існуючы юрыдычны статус стратэгічных інжынерных камунікацый не павінен змяніцца. Нафтавыя магістралі ад Балтыкі да Чорнага мора ўзаемазвязаны і было б мэтазгодна і перспектыўна правядзенне ў гэтых адносінах узгодненых дзеянняў і палітыкі краін рэгіёна.

Канферэнцыя звяртае ўвагу парламентаў і ўрадаў на агульнасць праблем і інтарэсаў краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна і заклікае іх да больш цеснага палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва».

Таксама была прынята заява ў сувязі з пастановай Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі аб статусе горада Севастопаля. Удзельнікі канферэнцыі адзначылі, што гэтую «пастанову нельга расцэньваць інакш, як парушэнне Хельсінскіх пагадненняў, як пагрозу незалежнасці і суверэнітэту Украіны, стабільнасці і бяспекі на ўсходзе Еўропы».

**В.БОГУШ**

Рэпліка

# ПРЫ ГЭТАЙ УЛАДЗЕ ПОМНІКА НЕ БУДЗЕ

Міністэрства культуры, Дзяржбуд, Мінгарвыканкам, Саюз архітэктараў, Саюз мастакоў, Беларускі фонд культуры прынялі пастанову аб выніках рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект помніка ахвярам генацыду ў Курапатах. У пастанове прыгадваецца, што на сённяшні дзень праведзены два туры конкурсу.

На першы тур было пададзена 26 праектаў, з якіх у другі тур было адабрана 5 лепшых праектных прапаноў. У другім заказным туры прымалі ўдзел аўтары гэтых 5-ці праектаў і аднаго альтэрнатыўнага. Пасля абмеркавання гэтых праектаў з двума з іх былі заключаны дамовы на заказное праектаванне.

Але, на думку журы, праведзеныя два туры конкурсу і дадатковы мэтавы заказ не далі станоўчых вынікаў, таму арганізатары конкурсу лічаць неабходным абвясціць чарговы адкрыты конкурс на распрацоўку праекта «Мемарыял Курапаты» і вызначыць тэрмін падачы конкурсных матэрыялаў — 1 лістапада.

Такім чынам, мы вярнуліся туды, адкуль пачалі. Са студзеня 1989 года, калі быў абвешчаны конкурс, справа не зрушыла ні на крок. А, можа, гэтай уладзе не трэба помнік ахвярам бальшавіцкага тэрору?

**Н. К.**

З пошты "ЛіМа"

# КАЛІ БАЧЫЦЬ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО ХОЧАЦЦА БАЧЫЦЬ

Радуе вока афіцыйная эмблема нядаўняга з'езда беларусаў свету. Выкананая ў нацыянальным беларускім духу, яна закранае сэрца і таму, што як бы вяртае нашаму стольнаму гораду, няхай пакуль што і не на дзяржаўным узроўні, яго спрадвечнае імя. Надпіс «Менск 1993» на вялікіх выявах эмблемы, што красаваліся на фасадзе і сцэне опернага тэатра, нагадаў мне адзін з летніх дзён далёкага трыццаць дзевятага года.

Тады мяне здзівіў пачатак звычайнай перадачы Беларускага радыё. «Увага, гаворыць Мінск!» — данеслася з чорнай талеркі, якая вісела ў нашай хаце. Чаму не Менск, як гэта было дагэтуль? Дыктар памыліўся? Але ж і ў наступных перадачах сталіца рэспублікі зноў жа называлася па-расейску. Пазней даведаўся аб рашэнні Вярхоўнага Савета БССР, паводле якога Менск зрабіўся Мінскам.

З таго часу назва сталіцы Беларусі стала гучаць і пісацца аднолькава на дзвюх мовах. Інакш кажучы, старажытнае яе найменне было рэпрэсіравана. А вось дырэктар беларускай школы, дзе я тады вучыўся, гаварыў нам, што гэта — вынік дабратворнага ўплыву расейскай мовы на беларускую. Дарэчы, ён, былы партыйны работнік, не ведаў не толькі нашай мовы, але і гісторыі, якую выкладаў. Аб гэтым сведчыў яго «метад» навучання: браў ён школьны падручнік, літаральна перапісваў адпаведны раздзел у школьны ж сшытак, з якога потым чытаў нам, амаль не падымаючы вочы. А сапраўдныя настаўнікі, нацыянальна свядомыя беларусы, зведалі ў той час ганенні і рэпрэсіі.

Пападала і вучням старэйшых класаў. Добра запомніў, як гневаўся дырэктар школы, калі даведаўся, што хтосьці з іх нібы ў знак пратэсту супраць выцяснення з роднай мовы назвы «Менск» выразаў гэтае слова на школьнай парце. Яго абурыла не пашкоджанне дзяржаўнай маёмасці, што было б нядзіўна, а выразаная літара, стаўшая непажаданай. «Это, — крычаў нядаўні партфункцыянер, пачырванеўшы па самыя вушы, — отрыжка нацдемовщины!». Той парты, напэўна, даўно ўжо няма, але засталіся яшчэ людзі, якія былі сведкамі несправядлівасці, учыненай уладай. Некаторыя з іх бязвінна напакутаваліся ад сталіншчыны і, хвала Богу, дачакаліся рэабілітацыі. Цяпер яны спадзяюцца дажыць да таго светлага дня, калі будзе афіцыйна адроджана гістарычнае найменне сталіцы Бацькаўшчыны.

Ці здзейсніцца гэтая мара? Калі цяперашнія ўладатрымальнікі будуць слухаць «парады» аўтараў некаторых газетных матэрыялаў, якія не хочуць змен, супраць беларускага Адраджэння, — дык не, не здзейсніцца. Характэрны ў гэтых адносінах артыкул В.Дырынды «По-видимому, горсовет поторопился» /«Добры вечар» за 10 сакавіка г.г./. Тое, што выгадна для патрэбнай аўтару высновы, у ім выпінаецца, а факты, супярэчныя зададзенай схеме, — замоўчваюцца.

Заўважыўшы, што юрыдычна Менск стаў так называцца з 1 студзеня 1919 года /дзень абвяшчэння БССР/, В.Дырында сцвярджае: дэкларатыўнае рашэнне таго года «так и осталось не воплощенным в жизнь в полном объеме». І далей спасылаецца на надпісы на спартыўных узнагародных знаках 1937-1938 гадоў і рэпрадукцыі не названых газет, часопісаў, кніг «тех времен», на якіх «везде присутствует» або «явно прослеживается» слова «Минск». У гэтым жа, маўляў, могуць упэўніцца ўраджэнцы сталіцы, калі самі глянуць на свае метрыкі, школьныя атэстаты, дыпломы і розныя даведкі даваеннага часу.

Усё тут, здаецца, правільна, але не абышлося без хітрыкаў. Справа ў тым, што не звяртаецца ўвага чытачоў на мову друкаванай прадукцыі, дакументаў грамадзян, усякіх надпісаў. А менавіта ж у гэтым, як кажуць, закапаны сабака, паўтаруся, бо, па-беларуску наш горад тады называўся Менскам, а па-расейску — Минском. Каб пераканацца ў гэтым, трэба разгарнуць 39-ы том даваеннага выдання «Большой советской энциклопедии» і прачытаць толькі адзін першы радок артыкула, прысвечанага сталіцы БССР.

Таму няма нічога дзіўнага, што ў тагачасных дакументах, напісаных па-расейску, «везде присутствует слово «Минск». Трэба таксама мець на ўвазе тыя абставіны, што ў 30-х гадах ужо поўным ходам ішла татальная русіфікацыя краю. Тым не менш да ліпеня 1939 года ў беларускамоўнай перыёдыцы пісалі толькі «Менск», а ў рускамоўнай, незалежна ад месца выдання, само сабой, «явно прослеживался «Минск». І тут мне не патрэбна спасылацца на якіясьці невядомыя рэпрадукцыі, як гэта робіць аўтар артыкула, бо ў маёй калекцыі захоўваецца мноства арыгінальных нумароў усякіх газет розных часоў. Хачу асоба падкрэсліць, што газеты на польскай мове, якія выдаваліся ў 20-30-я гады на Беларусі, прытрымліваліся формы «Minsk». Тут, здаецца, ёсць над чым падумаць тым, хто не лічыць гэтую назву польскай.

Тое ж можна сказаць і пра кнігі ды часопісы. Дарэчы, факсімільныя выданні некаторых беларускіх кніг і брашур тых гадоў няцяжка зараз купіць у кнігарнях, кіёсках ТБМ. А арыгіналы шмат якіх згаданых выданняў экспануюцца ў музеях, на выставах. На іх старонках абавязкова прысутнічае «Менск».

Спадар Дырында крытыкуе тыў аўтараў публікацый, якія «видят только то, что им хочется видеть». На мой погляд, такі закід можна зрабіць яму самому. Аб гэтым сведчыць і заключная частка яго артыкула, дзе ён, спасылаючыся на дзве кнігі, падкрэслівае, што ў іх «название Менск не запечатлено ни на одной из многочисленных фотографий того времени». Што ж, давайце, пагартаем старонкі гэтых кніг, як нам параіў аўтар газетнага артыкула. Вось адна з іх — «Минск. Страницы жизни дореволюционного города». Зусім натуральна, што на саміх фотаздымках, змешчаных у ёй, наогул няма ніякіх надпісаў. Надрукаваныя ж пад рэпрадукцыямі больш ці менш падрабязныя іх апісанні зроблены на аснове даных, якія ёсць у музеях, архівах і г.д.

Іншая справа — кніга «Мінск на старых паштоўках /канец XIX—пачатак XX ст./». Паштоўкі, як вядома, выдаваліся і выдаюцца абавязкова з адпаведнымі подпісамі. На змешчаных у згаданай кнізе рэпрадукцыях паштовак подпісы, як правіла, на расейскай мове, але сустракаюцца і на іншых /на французскай, польскай, нямецкай, англійскай/, а некаторыя адразу на некалькіх мовах. Беларускай сярод іх, на жаль, няма. Таму і не магло з'явіцца на тых паштоўках слова «Менск». Аб гэтым, як і аб тым, што ў XIX ст. беларускі друк быў забаронены, што выданне менскіх відаў з подпісамі на нашай роднай мове да 1918 года не практыкавалася, В.Дырында не сказаў аніводнага слова. І, думаю, невыпадкова....

Не, гарсавет не паспяшаўся, прымаючы сваё рашэнне ў 1991 годзе аб перайменаванні сталіцы, як сцвярджаецца ў «Добрым вечары». Тады шэраг гарадоў Расіі і іншых рэспублік ужо паспелі вярнуць сабе свае гістарычныя імёны. З'явіліся прэцэдэнты і змены толькі адной-дзвюх літар у найменнях гарадоў. І калі ўжо ёсць патрэба кідаць каменьчыкі ў агарод менскіх дэпутатаў, дык я б зрабіў гэта не таму, што яны быццам неабдумана галасавалі за адмену даўняй пастановы Вярхоўнага Савета, а таму, што не праявілі настойлівасці ў давядзенні справы да лагічнага канца. Справа ж, безумоўна, не ў літары. «Менск, — сказаў аднойчы Васіль Быкаў, — гэта не проста змяніць адну літару, гэта — змяніць эпоху». Вось што палохае беларусафобаў, якім не дае супакою настальгія па «единой и неделимой»!

А канкрэтна мая прапанова такая. Калі хто «не хатит» жыць у Менску, дык няхай пакуль што застаецца ў Мінску. Інакш кажучы, можа, сёння досыць узаконіць напісанне «Менск» толькі па-беларуску, г.зн. аднавіць тое, што было да 29 ліпеня 1939 года? Бо поўнасцю рэабілітаваць гістарычную назву сталіцы Беларусі здолее толькі новы, нацыянальна свядомы дэпутацкі корпус, які, спадзяюся, зойме месца цяперашняга пракамуністычнага Вярхоўнага Савета.

Як бы там ні было, але пасля вялікага беларускага сходу наспела неабходнасць працягнуць размову на гэтую прызабытую тэму.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

Сустрэчы

# СЯБРЫ РАССТАЮЦЦА?

Курган дружбы, насыпаны некалі ў гонар сяброўства паміж народамі трох, як тады іх называлі, братніх рэспублік — Беларусі, Латвіі і Расіі, знаходзіцца якраз на мяжы гэтых дзяржаў. Усе гады курган быў своеасаблівым сімвалам сумеснай барацьбы трох народаў супраць агульнага ворага — фашызму. Штогод тут у першую нядзелю ліпеня праходзіла свята, на якім абавязковымі гасцямі заўсёды былі ветэраны мінулай вайны. На свяце заўсёды былі кірмашы, выставы, сустрэчы з пісьменнікамі, канцэрты.

Мне давялося некалькі разоў быць на гэтых святах. І я не магу сказаць, што ў памяці засталіся толькі пустэча шматслоўных афіцыйных выступленняў, пампезнасць, бадзёрыя маршавыя мелодыі духавых аркестраў. Не, было і іншае. Напрыклад, з аднаго таго свята я прывезла кнігу Албертса Бэлса і палюбіла гэтага пісьменніка, на другім набыла зборнік Рэгіны Эзэры і захапілася творчасцю гэтай пісьменніцы. А калі адкінеш усю пампезнасць і пустаслоўе, то прыгадаеш тое дзівоснае адчуванне, калі ты праходзіш па прыгожым мастку над вузкай рэчкай і ведаеш, што вось там, за гэтай рэчкай, пачынаецца Расія. А калі павернеш і пойдзеш напрасткі праз лес, то трапіш на латышскую зямлю, яшчэ трохі ўбок — і ты на нашай Верхнядзвіншчыне.

Лірыка? Настальгія? Гэтак было. Усё гэта адчувала твая душа, і ці варта ашукваць самога сябе, ахрышчваючы тыя святы толькі спараджэннем застою?

Сёлета свята праходзіла трыццаць чацвёрты раз.

— Ніколі не было гэтак цяжка яго рыхтаваць, як сёлета, — сказаў мне намеснік старшыні Верхнядзвінскага райвыканкама М.Якаўлеў. Справа ў тым, што сам Курган знаходзіцца на латышскай тэрыторыі, па ім цяпер праходзіць дзяржаўная мяжа, і да апошняга часу не было вядома, дазволіць Латвія правесці свята альбо не. Мы ўжо нават рыхтавалі запасны варыянт — правесці свята ў Верхнядзвінску.

Але латышскі ўрад усё ж даў згоду, праўда, папярэдзіўшы, што Латвія на афіцыйным узроўні адмаўляецца прымаць удзел у свяце. Прадстаўнікоў улады з Латвіі не было, але група ветэранаў мінулай вайны, якія ваявалі ў гэтых мясцінах, прыехала. Так што свята адбылося. Праўда, на мастку, што вядзе ў Расію, у гэты дзень стаялі суровыя амонаўцы, менш чулася латышскай гаворкі, не ведаю, ці купіў хто ў той дзень зборнік Бэлса альбо Эзэры.

Гутару з краязнаўцам з Верхнядзвіншчыны Антонам Бубалам.

— Сумна, — кажа ён. — Балюча. Я шмат падарожнічаў па тутэйшых мясцінах і зразумеў, як шмат у нас блізкага ў звычаях, традыцыях, побыце. На памежжы гэта адчуваецца асабліва востра. Я разумею, што ў нашым агульным мінулым было шмат не толькі прыгожага ды светлага. Цяпер я збіраю матэрыял для кнігі «Памяць» пра Верхнядзвінскі раён, знаёмлюся з архіўнымі дакументамі аб мінулай вайне. У іх сустрэў, напрыклад, аб выпадках, калі нашы так званыя партызаны займаліся марадзёрствам у латышскіх вёсках, а то і палілі іх. Было і гэткае. Але ж было і іншае. І вось я думаю: «Ці варта адракацца, перакрэсліваць адным махам наша агульнае мінулае? Ці, можа, усё ж варта шукаць нейкія шляхі да паразумення?»

Гэтыя пытанні не такія простыя, як могуць здацца на першы погляд. Безумоўна, сілком мілы не будзеш. Але ж і губляць старыя суседскія адносіны, не набыўшы ўзамен новых, балюча.

**І.ЖАРНАСЕК**

Памяркуем

# У ПЕКЛА ПАПЕРАД БАЦЬКІ

***Існуе армейскі анекдот пра тое, як прапаршчык злучыў прастору з часам: загадаў салдатам капаць канаву ад плота да абеду. Мне заўжды ўспамінаецца гэты анекдот, калі чую паведамленне расійскіх тэлекаментатараў пра чарговую сутычку сербаў і мусульман. Згодна з логікай, трэба было б казаць або пра сербаў і баснійцаў, або пра праваслаўных і мусульман. Уся складанасць у тым, што грамадзяне Босніі таксама сербы, толькі іншага веравызнання. Але з чаго б гэта раптам сродкі масавай інфармацыі Расіі пачалі спатыкацца ў логіцы і, як той герой анекдота, спалучаць неспалучальнае?***

Колькі год мы жылі ў цесных абдымках савецкай прапаганды, і нам ніхто ніколі не паведамляў, што ў сацыялістычнай Югаславіі, акрамя праваслаўных, ёсць мусульмане і католікі. Хаця людзі дасведчаныя і тады называлі СФРЮ Савецкім Саюзам у мініяцюры: свая Сярэдняя Азія, свая Прыбалтыка, свая Расія, у наяўнасці размежаванасць не толькі этнічная, але і канфесійная.

Пакуль быў маналітным СССР, датуль ліпела пярэстае дзяржаўнае ўтварэнне на Балканах. У сувязі з перабудовай, вызваленчым рухам Прыбалтыйскіх рэспублік і распадам «сацыялістычнага лагера» раскалолася і Югаславія. Першай падала афіцыйную заяву ды правяла рэферэндум этнічна цэласная Славенія. Не без цяжкасцей, але бяскроўна яна дабілася жаданага — незалежнасці. Гэтаксама адасобілася ад «старэйшай сястры» і Македонія. Горш атрымалася з Харватыяй: у свой час дыктатар Ціта пальцам правёў на карце межы /тады яны былі чыста адміністрацыйнымі, а не дзяржаўнымі/. Каталіцкую Харватыю адпускаць проста так не выпадала: Сербія траціла частку «сваёй» тэрыторыі разам з сербскім насельніцтвам. Летам 1991 года пачаліся ваенныя дзеянні, палілася кроў. «Парахавая бочка Еўропы» каторы раз рашыла пацвердзіць сваю назву.

З цэнтральных газет, «Комсомольской правды», у прыватнасці, доўгі час немагчыма было зразумець, хто з кім ваюе ў Югаславіі, а тым больш — за што. Рэпартажы спецыяльных карэспандэнтаў вызначаліся дзіўнай расплывістасцю і няпэўнасцю. Відавочна, расійскія вярхі самі не ведалі, як што павернецца, і не выпрацавалі лініі дыпламатычных паводзін. Ні пра якіх мусульман тады не згадвалася. Разбураныя гарады і сёлы, людскія страты, слёзы мацярок і сірот... Здавалася, на бедную Югаславію абрынулася нейкае стыхійнае бедства накшталт землятруса ці селя.

Тым часам бурныя падзеі адбываліся ў самім СССР: крывянілі старыя і новыя «гарачыя кропкі», пасля путчу бясслаўна сканала КПСС, адбывалася станаўленне новай расійскай улады, прайшоў парад суверэнітэтаў, так што за ўласнымі клопатамі было не да «сястры Сербіі».

Там жа палітычныя, нацыянальныя і канфесійныя супярэчнасці спляліся ў невераґодны клубок. Умяшалася сусветнае супольніцтва ды прымяніла супраць Сербіі санкцыі. Сама ў сабе раздзялілася Боснія. І хоць аб'ектыўнай інфармацыі па маскоўскіх каналах мы па-ранейшаму не атрымліваем, затое заварушыліся панславянскія сілы — як у Расіі, так і ў Беларусі. Наша тэлевізія, як папугай, паўтарае пра сербаў і мусульман. Падатлівыя, нахапаўшыя чужых думак беларусы саміх расіян апярэдзілі, стварыўшы афіцыйны камітэт у падтрымку сербаў і чарнагорцаў, правапераемнікаў былой федэратыўнай рэспублікі.

З аднаго боку — чаму б і не. Калі можна ўводзіць войскі ААН на тэрыторыю чужых дзяржаў, то хто забараняе ствараць камітэты ці рухі ў падтрымку каго заўгодна? Насцярожвае, аднак, тое, што за гэтым нібыта абарончым, гуманным рухам стаіць знаёмы, стары як свет лозунг «Нашых б'юць!»

Менавіта ім кіруюцца пэўныя грамадскія колы і палітыкі, калі праводзяць дзейсную лінію на раскол Малдовы і Украіны, калі мусіруюць пытанне аб парушэнні правоў рускіх у Эстоніі і Латвіі, калі імкнуцца звергнуць мяцежнага генерала Дудаева рукамі яго ж адураных суайчыннікаў. Там, дзе хоць у малой ступені закранута сфера расійскіх дзяржаўных ці нацыянальных інтарэсаў, не даводзіцца чакаць ні аб'ектыўнасці, ні маральнасці. Хто ўсвядоміў гэта — стараецца быць падалей ад усялякіх «славянскіх car бораў» і ім падобных арганізацый. Што ж, хай завуцца славянамі, калі ім гэта выгадна на сённяшні дзень, мы ж застанемся беларусамі. І, можа, пазбавімся-такі з цягам часу звычкі мітусіцца на «славянскіх базарах» ды лезці ў пекла паперад бацькі. І так далёка забеглі...

**Г. К.**

# МОЎНАЯ РЭФОРМА 1933 ГОДА

## ПРАТЭСТ БНТ У ВІЛЬНІ

Р.ПЛАТОНАЎ,
доктар гістарычных навук

***26 жніўня 1933 г. Савет Народных Камісараў БССР прыняў дэкрэт «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу» — у такім напісанні ён быў апублікаваны 28 жніўня. З таго дня прайшло 60 год. Аднак спрэчкі аб накіраванасці і мэтазгоднасці рэформы, ахапіўшай не толькі правапіс, а і мову ўцэлым, яе выніках, не сціхаюць і сёння.***

Сама па сабе патрэбнасць у зменах і спрашчэнні правапісу сумнення не выклікала. Аб гэтым ішла гаворка яшчэ на Акадэмічнай канферэнцыі па беларускім правапісе і азбуцы, праведзенай па ініцыятыве Інстытута беларускай культуры ў лістападзе 1926 г. у Мінску з удзелам многіх вядомых філолагаў-славістаў з рэспублік Саюза і шэрагу замежных краін. Было вядома, што апрацоўваюцца матэрыялы канферэнцыі, створаны камісіі. Справа, аднак, рухалася вельмі цяжка, з вялікімі перашкодамі. А з распачатай у канцы 20-х гадоў барацьбой супраць так званага беларускага нацыянал-дэмакратызму, калі да камісій праявілі зацікаўленасць асобы, прафесійны статус якіх не меў нічога агульнага з праблемамі мовазнаўства, напрамак яе карэнным чынам змяніўся. Тым не менш, рэформу чакалі.

У абвешчанай 28 жніўня пастанове надзвычайнымі, перш за ўсё, аказаліся самі прычыны, падставы зміненняў: «рашуча выгнаць з беларускага правапісу нацдэмакратычныя ўплывы і скажэнні», інакш кажучы, ліквідаваць вынікі «падрыўной шкодніцкай работы», якая праводзілася контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам «як на гаспадарчым, так і на культурным фронце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналогіі і правапісу»; разбурыць створаны нацыяналістамі «штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі»; поўнасцю падпарадкаваць беларускі правапіс «задачам выхавання працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму».

Па-другое, выклікалі неразуменне, трывогу тэрміны ўвядзення новага правапісу з усімі намечанымі ім зменамі — з 15 верасня, без усялякага матэрыяльнага забеспячэння, метадычнай і іншай літаратуры, перападрыхтоўкі выкладчыцкіх кадраў, без патрэбных тлумачэнняў і псіхалагічнай гатоўнасці людзей. Было бачна, што ініцыятары рэформы вельмі спяшаюцца.

Па-трэцяе, было таксама відавочна, што рэформа праводзіцца чыста адміністрацыйна-камандным метадам. Ад удзелу ў ёй аказаліся адхіленымі многія відныя вучоныя БелАН, спецыялісты-мовазнаўцы вышэйшых навучальных устаноў, вядомыя пісьменнікі. Не было папярэдняга абмеркавання яе прынцыпаў. Тых, хто стаяў за рэфармаванне беларускага правапісу на Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г., хаця і выказваў розныя погляды, хто прыняў удзел у распачатай працы, пазбавілі ў канцы 1930 г. акадэмічных званняў, асудзілі і выслалі за межы рэспублікі. Сярод іх Я.Лёсік, В.Ластоўскі, старшыня Правапіснай камісіі С.Некрашэвіч. Да працы над змяненнямі ў правапісе не быў запрошаны і адзін з найбольш падрыхтаваных у галіне беларускай філалогіі вучоны Б.Тарашкевіч, які жыў у Маскве.

Аб некаторых падрабязнасцях падрыхтоўкі рэформы можна прачытаць у Дакладной запісцы, якую 11 сакавіка 1933 г. накіраваў у культпроп ЦК КП/б/Б тадышні намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук І.Мацюкевіч. Інстытут мовазнаўства, пісаў ён, працаваў над пытаннем рэформы амаль год, «кожнае правіла вельмі доўга абгаварвалася, дыскутавалася і ўрэшце праект быў складзены». Апрача Інстытута, ён абгаварваўся яшчэ на акадэмічнай нарадзе, дзе прысутнічалі прадстаўнікі розных інстытутаў акадэміі. І далей: **«Праект набраны, але не надрукаваны. Прэзідэнт Акадэміі т.Горын друкаванне праекта адклаў да вырашэння гэтага пытання ў ЦК КП/б/Б. Трэба адзначыць, што Наркамасветы, ДВБ і інш. вельмі зацікаўлены, каб хутчэй было вырашана пытанне аб правапісе, аднак калі паўстала пытанне аб сумеснай рабоце Ін-та мовазнаўства з Наркамасветы па правапісе, дык НКА, баючыся тут нарабіць памылак, катэгарычна адмовіўся разам працаваць. Такія паводзіны заўважаюцца наогул з боку рада адказных працаўнікоў. Такім чынам, рэформаю правапісу да гэтага часу займаўся выключна Ін-тут мовазнаўства...»**

І.Мацюкевіч прапанаваў у гэтай сувязі зрабіць наступнае:

**1. Пераглядзець праект рэформы правапісу, складзены Інстытутам, у спецыяльнай камісіі.**

**2. Надрукаваць яго, разаслаць на месцы, абгаварыць на сходах рабочых, настаўніцтва, пісьменнікаў і г.д.**

**3. Арганізаваць абгаварэнне праекта ў друку.**

**4. Суміраваць пасля гэтага ўвесь матэрыял.**

**5. Склікаць Усебеларускую канферэнцыю прадстаўнікоў рабочых, настаўніцтва, партыйна-савецкага друку, пісьменнікаў з запрашэннем лінгвістаў з саюзных рэспублік, дзе канчаткова абгаварыць рэформу правапісу.**

Рэзалюцыя была такая: «Пад старшынствам Галадзеда сумесна з наркамасветы ў бліжэйшыя дні праект аб рэформе правапісу будзе разгледжаны. Прыняты адпаведныя меры». А ніжэй: «1. Знайсці праект правапісу. 2. Пацікавіцца, якія былі рашэнні ЦК. 3. Што пісалі аб гэтым Чарнушэвіч, Мацюкевіч». Рэзалюцыя была накладзена 2 мая.

Камісія бюро ЦК КП/б/Б, якую ўзначальваў старшыня СНК БССР М.Галадзед /у камісію ўваходзілі сакратар ЦК В.Шаранговіч, старшыня ЦВК А.Чарвякоў, нарком асветы А.Чарнушэвіч, віцэ-прэзідэнт БелАН Т.Домбаль, паэт, член Саюза пісьменнікаў і член ЦВК А.Александровіч/ 23 чэрвеня 1933 г. прыняла наступнае рашэнне:

**«1. Считать ненормальным, что до сего времени Президиум Академии Наук не выполнил постановления бюро ЦК от 11 апреля 1933 г. и не дал своего заключения по вопросу правописания белорусского языка, которое должно было быть дано в Комиссию ЦК... не позже 15 мая т.г., в связи с чем считать невозможным на сегодняшнем заседании Комиссии рассмотреть проект измененного правописания по существу.**

**2. Поручить Президиуму Академии Наук не позже 25 июня дать свое официальное заключение в виде постановления президиума Академии по проекту белорусского правописания...**

**3. Поручить тт. Домбалю и Чернушевичу совместно с культпропом ЦК в 2-х дневный срок разослать членам Комиссии бюро ЦК более полные материалы:**

**а/ старое правописание, которым в настоящее время пользуются в школах и учебных заведениях;**

**б/ проект нового правописания с подробным обоснованием необходимости изменений для того или другого правила правописания /исторический, научный материал/;**

**в/ решения и постановления партии и правительства по вопросам правописания, которые были изданы до настоящего времени.**

**4. Принять к сведению извещение тов.Чернушевича, что коллегия НК просвещения на 3-х заседаниях рассмотрела этот вопрос и вынесла свое официальное решение и что на этих заседаниях коллегии принимает участие и некоторые члены президиума Белорусской Академии Наук».**

Праект дэкрэта быў канчаткова сфармуляваны на пасяджэннях камісіі, якая працавала з 29 чэрвеня па 4 ліпеня 1933 г. Кожны пункт прымаўся галасаваннем у прысутнасці некалькіх запрошаных на пасяджэнні навуковых работнікаў і пісьменнікаў /акадэмік, педагог П.Панкевіч, дырэктар Інстытута мовазнаўства П.Бузун, намеснік дырэктара І.Мацюкевіч, галоўны рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі» М.Лынькоў, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства П.Юргелевіч і інш./ У парадку дня значылася слуханне зменeнага праекта беларускага правапісу, прадстаўленага Беларускай акадэміяй, Наркамасветы і Інстытутам мовазнаўства.

Ужо пасля апублікавання дэкрэта ў інтэрв'ю, дадзеным карэспандэнту Беларускага тэлеграфнага агенцтва, Т.Домбаль асабліва падкрэсліў ролю ў падрыхтоўцы рэформы беларускага правапісу Акадэміі і яе мовазнаўчага Інстытута. Аб рабоце Камісіі гаварылася мімаходам, што выклікала незадавальненне ў ЦК, і віцэ-прэзідэнту давялося даваць тлумачэнні. У тлумачальнай запісцы 2 верасня 1933 г. ён пісаў: **«Не упомянул подробно о работе Комиссии бюро ЦК КП/б/Б во главе с т.Голодедом и не перечислил всех ее членов, в частности, тт. Червякова, Шаранговича и др. Я считал, что это политически не целесообразно указывать, что не нужно открывать классовым врагам возможности атаки против руководящих товарищей, а я уверен, что в ближайшие дни фашистская и белорусская национал-фашистская печать начнет бешеную атаку, пытаясь дискредитировать все основы нового белорусского правописания».**

Адміністрацыйна-камандны, па сутнасці, закрыты падыход да падрыхтоўкі дэкрэта Саўнаркама, адчувальнае супраціўленне з боку Акадэміі не маглі не выклікаць пэўнай узбуджанасці грамадскасці рэспублікі, многія зразумелі старанна замаскаваны ў ім асіміляцыйна-русіфікатарскі сэнс. Каб сцішыць яе, заспакоіць праціўнікаў новага правапісу, забяспечыць рэформу ідэалагічнай падтрымкі, партыйна-дзяржаўныя структуры тэрмінова ажыццявілі шэраг захадаў і, трэба сказаць, не беспаспяховых. Падтрымка была атрымана ад пісьменніцкай арганізацыі і прэсы.

У снежні 1933 г. ад імя Інстытута мовазнаўства БелАН і Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў быў скліканы сход пісьменнікаў г.Мінска /праходзіў 11, 13 і 15 снежня/, які не толькі цалкам і поўнасцю адобрыў рэформу, але і абвастрыў яе накіраванасць супраць «контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны». Кожны з 18 прамоўцаў лічыў сваім абавязкам заявіць аб асабістай падтрымцы ажыццёўленых партыяй і ўрадам мер па разгроме агентуры нацыянал-фашызму ў літаратуры, мастацтве, мовазнаўстве. Аб сутнасці рэформы, аб тым, што яна дасць беларускай культуры, наколькі яна мэтазгодная, амаль не ўспаміналі. Сход, як тады ўжо стала абавязковым, прыняў прывітанне І.Сталіну, пад якім паставілі подпісы М.Клімковіч, Якуб Колас, Х.Дунец, М.Лынькоў, Я.Ліманоўскі, П.Броўка, П.Галавач, А.Александровіч, К.Крапіва, Я.Маўр, А.Куляшоў і іншыя пісьменнікі і паэты, акадэмік І.Замоцін, прафесар М.Піятуховіч.

У Беларускую Акадэмію навук 4 студзеня 1934 г. прыслаў ліст і Янка Купала, якога ў часе работы сходу ў Мінску не было. **«Рэформа правапісу, — пісаў ён, — што я мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, — з'яўляецца велізарным, правільным і сваечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пралетарскага інтэрнацыяналізма, пад сцягам якога толькі можа быць сапраўдны росквіт беларускай культуры».** Былі і такія словы: **«Мяне зусім не дзівіць тое выццё, якое падняла супраць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма, нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі».**

Між тым, да голасу беларусаў-мовазнаўцаў за межамі рэспублікі, якія ўбачылі ў рэформе акт, шкодны для нацыянальнай культуры, для яе самабытнасці, эксперымент, што вядзе да згубы індывідуальнасці мовы, парушае законы яе развіцця, трэба было б прыслухацца. Аб гэтым сведчыць і прапануемы ўвазе чытача Пратэст Беларускага навуковага таварыства ў Вільні супраць дэкрэта СНК БССР аб рэформе беларускага правапісу, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Ён быў прыняты 3І кастрычніка на надзвычайным агульным сходзе, скліканым спецыяльна для разгляду ўводзімай рэформы. Пісьменнікаў Мінска якраз збіралі для таго, каб адрэагаваць на негатыўную рэакцыю ў Заходняй Беларусі на апублікаваны дэкрэт СНК. Зусім невыпадкова ў Нацыянальным архіве рэспублікі побач з друкаваным тэкстам Пратэсту падшыты ў адной справе машынапісны пераклад яго на рускую мову, а таксама выtрымкі з іншых замежных публікацый. Янка Купала ў згаданым вышэй лісце ў Акадэмію навук выкрываў не толькі «нацдэмаў тут», але і «нацыянал-фашыстаў у Заходняй Беларусі» /Луцкевіч, Станкевіч і г.д./, якія служаць адзінай мэце — кінуць Савецкую Беларусь у падняволле сацыяльнае, нацыянальнае, культурнае.

З друкуемага Пратэсту бачна, што яго аўтары мелі на ўвазе іншае — даць рэформе навуковую ацэнку, разабрацца, ці адпавядае яна законам жыцця жывой народнай мовы, наколькі абароніць беларускую мову ад асіміляцыі, ці будзе спрыяць павышэнню моўнай культуры і г.д. Адказы амаль па ўсіх пунктах дэкрэта СНК былі адмоўныя.

Пратэст не пазбаўлены ад налёту палітызаванасці, характэрнай для таго часу. Але не гэта галоўнае ў ім. Сёння ён ужо — толькі неўлічаны факт нашай гісторыі.

Шасцюдзесяццю гадамі аддалены ад нас і дзень 28 жніўня, які вельмі многае змяніў у развіцці беларускай мовы, аказаўшы адначасова істотны ўплыў на агульны стан духоўнай культуры народа. У цяперашні час, калі крытычна ацэньваецца пройдзены шлях у галіне духоўнага жыцця і нацыянал-культурнага будаўніцтва, бачна, што рэформа 1933 г. дала набыткаў непараўнальна менш, чым прынесла страт. Беларуская мова шмат у чым страціла самабытнасць, намнога паменшылася яе супраціўляльнасць асіміляцыі. Таму так важна памятаць аб уроках гісторыі і не аддаваць забыццю перасцярогі тых, хто і ў рэспубліцы, і за яе межамі быў занепакоены лёсам роднай мовы.

Пратэст друкуецца з захаваннем асаблівасцей яго напісання.

### ПРАТЭСТ
### Беларускага Навуковага Т-ва проці дэкрэту Савету Народных Камісараў БССР аб рэформе беларускага правапісу

Савет Народных Камісараў БССР апублікаваў у менскім офіцыозе «Зьвязьдзе» з 28.VIII. N 189 /4733/ дэкрэт «Аб зменах і спрашчэннях правапісу». Дэкрэт гэты зьмяшчае 28 пунктаў, якія рэформуюць беларускі правапіс, і падае гэткія матывы рэформы:

«...Беларускі нацыянал-дэмакратызм, выходзячы з сваіх буржуазных контррэвалюцыйных мэт, праводзіў падрыўную шкодніцкую работу, як на гаспадарчым, так і на культурным фронце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналёгіі і правапісу. Нацыянал-дэмакратызм усімі мерамі і спосабамі імкнуўся адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і асьмешваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі. Існуючы беларускі правапіс значна засьмечаны ўказанымі нац-дэмаўскімі плынямі і таму падлягае зьменам».

«У мэтах рашучага выгнаньня з

(Працяг на стар.12)

Іван ШТЭЙНЕР

# СЦЮЖА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

## НОВАЯ АПОВЕСЦЬ В. БЫКАВА І ПРАБЛЕМА ВАНДРОЎНІЦТВА Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

«Ён хістка ступіў у снег. Пасля, не азіраючыся, пайшоў каля парасніку, не надта спрытна ўпраўляючыся з кійком... Трэба некуды дыбаць. Вось куды толькі?.. Бо хто ж яшчэ ім паможа...»

У чарговы раз пачынае адвечнае падарожжа па сваёй зямлі яе нібыта гаспадар. Куды праляжа яго шлях? Што зрывае яго з наседжаных мясцін? Сваё гняздзечка мае нават ластавачка, іншая дробная птушачка. «Птушыныя гнёзды бурыць нельга, вялікі то грэх. А вось чалавечыя...» Няма прыстанішча ў чалавека, вымушанага ў злую завею і сцюжу пакінуць цёплае сховішча /іменна не дом, не хату, не кубло, а якраз сховішча/ і выйсці насустрач сіверу лёсу, хутчэй за ўсё апошні раз у гэтым жыцці. Нават звер у такую пару мае бярлог. Няма толькі месца на гэтай зямлі Азевічу, як і не было яго Роўдзе, якога ўрэшце згадзілася прыняць толькі чорнае балотнае вока. Галгофа — вось фінал жыццёвага шляху Петрака і Сцепаніды; сціплы абеліск з далёка не ўсімі прозвішчамі загінуўшых — апошні знак бытавання маладзенькіх хлопчыкаў. Ці нават яшчэ страшней — равок у тумане людской памяці як плата за невядомае і нядзейсненае злачынства. Ніводзін з герояў В. Быкава апошніх часоў не знайшоў шчасця на роднай зямлі. І не толькі ў часы вайны. В. Быкаў шэрагам апошніх твораў на новым этапе алегарычна ўвасабляе класічную традыцыю вандроўніцтва беларусаў на роднай зямлі, якая становіцца шчодрай толькі тады, калі прымае родных дзетак у свае нетры.

«Ён парадкам ужо адышоўся ў начы, наперадзе выразна шарэў у снезе алешнік, як пачуў рух ззаду і азірнуўся. Па яговых слядах жвава бег чорны вялікі Ваўкалака — размашыста сігаў па снезе, пэўна ж, каб дагнаць чалавека... Пастаяўшы трохі, Азевіч ступіў колькі крокаў у напрамку да лесу, і Ваўкалака таксама нетаропка пайшоў па яговых слядах. Крыкнуць Азевіч не мог, што тут было рабіць? Уцякаць, ратавацца ці ісці з гэтым у лес?.. З наганам напагатове ён памалу патупаў да ўзлесся штораз азіраючыся. Ззаду за ім, не падбягаючы блізка, то бег, то прыпыняўся Ваўкалака. Чагосьці чакаў ад чалавека...»

Што ж чакае гэтая таямнічая і загадкавая істота нацыянальнай міфалогіі, злавесная цень якой суправаджае беларуса ў яго спрадвечных пакручастых вандраваннях па роднай зямлі? Аб чым пастаянна яна прымушае згадваць, пра што навявае жудасныя асацыяцыі?

У першую чаргу — пра наша спрадвечнае адчуванне часовасці на роднай зямлі, няўпэўненасці ў саміх сабе, вечнай залежнасці ад нейкага больш дужага ці нахабнага. Мы — не гаспадары гэтай зямлі. Падобная ідэя, на вялікі жаль, стала вызначальнай у беларускай літаратуры апошніх двух стагоддзяў /што і знайшло сваё ўвасабленне ў творчасці В. Быкава/, склалася ў адметную традыцыю, ля вытокаў якой стаяў славуты «Шляхціц Завальня» Я. Баршчэўскага, дзе ўпершыню і з'яўляецца вобраз ваўкалака. Беларуска-польскі пісьменнік не прымае новых парадкаў, якія без жалю разбураюць традыцыйныя ўстоі народа, адмаўляе сусвет, дзе ўсё прадаецца і купляецца, таму падае яго гісторыю ў алегарычна-міфалагічным плане. «Жыхары гэтага краю, спрадвеку пакутуючы, зусім змяніліся характарам; на іх твары заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасць. Як быццам не даваравшы будучаму лёсу ў гэтай юдолі плачу... У іх фантазіях увесь час блукаюць нядобрыя духі, якія, аднак, служаць злым панам, чараўнікам і ўсім непрыяцелям простага люду». Гэты свет жахлівы, бо ім кіруе Белая Сарока, восем злых духаў, што прыносяць людзям хваробы, шатаны і д'яблы са сваімі слугамі, чарнакніжнікі і іх лёкаі. Не адстаюць ад іх і рэальныя ўладары. Нейкі панок вырашае пабудаваць суконную фабрыку, мяркуючы здабыць залатыя горы. Аднак селянін у выніку мадэрнізацый дайшоў да жахлівай нэндзы, аб чым гаворыць поўная роспачы песня:

**Не будзем жыці,**
**Пойдзем блудзіці,**
**З леццяхудыя,**
**Паны ліхія**
**Кароў пабралі,**
**У двор загналі.**
**Нет хлеба, солі,**
**Нет шчасця, долі.**
**Поле пусцеець —**
**Няма чым сеяць.**
**Не будзем жыці.**
**Пойдзем блудзіці.**

У свеце твораў В. Быкава пануюць не фантастычныя ці міфалагічныя істоты, але для нас няма розніцы. Рэальныя кіраўнікі прывялі беларусаў да таго, што ўся нацыя стала вандроўнай. /У апавяданні Я. Баршчэўскага, дарэчы, «за адзін толькі год трацiна падданых кінулі свае хаты і пайшлі блукаць па свеце»/. Вось якой паўстае перад Азевічам яго збавіцелька: «была яна, мусіць, яшчэ і не дужа старая, але надта спакутаваная, цёмная з абвялага твару, выраз якога быў здаўна так знаёмы...» Знаёмы, бо такой жа паўстала яго маці, аднавяскоўцы /«ён азіраў іх да часу састарэлыя, нейкія спакутаваныя твары, і ні на адным не ўбачыў ні ўсмешкі, ні шчырае дабразычлівасці — хутчэй чаканне чагосьбоязнага і нядобрага»/, сястра, што не знайшла тут ні жаніха, ні шчасця і з'ехала недзе на шахты. Згаданую песню няшчасных прыгонных сялян можна з поўным правам назваць песняю назапечаных калгаснікаў.

Галоўнае, падкрэсліваюць такія непадобныя пісьменнікі, не ў самой крыніцы зла, не ў тым, хто ім распараджаецца. Зло схавана і ў самім чалавеку, і лёкаі, што служаць яму, падчас страшней гаспадара. Героі Я. Баршчэўскага, не вытрымаўшы экзамен на права быць чалавекам, становяцца цацкай у руках валадароў. Яны ўзрываюць старажытныя магільнікі, здымаюць кайданкі са шкілетаў, ганяюцца за скарбамі, служаць вужам і Сарокам, бурань святыні, урэшце, прадаюць сваю душу д'яблу. Ні слёзы, ні просьбы не маглі ўлагодзіць пана-чарнакніжніка, які вяршыў сваю волю, здзекуючыся з людзей без усялякай літасці.

Падпісалі свой закляты цырограф і Азевіч, і сын Роўды, і іншыя лёкаі рэальнага шатана. Ці не таму Дашэўскі ці хтось іншы можа іх лёгка прымусіць пераступіць цераз святыні — разбіць жорны, расправіцца з бацькам-ворагам. Ці не таму большасць з іх апранута заўсёды ў чорнае, а паэтычнай метафарай дзейнасці з'яўляецца чорны воран. Цмок /сапраўдны, як у Баршчэўскага, ці ўмоўны, як у Быкава/ патрабуе вернай службы, «бо калі ўгнявіш, дык ён спаліць табе хату і ўсё тваё майно». Праўда, у XX ст. ён быў крыху разумнейшы, дабро пакідаў, забіраў толькі душу. Ці не таму плодзяцца д'яблы і нечысць, бо кожны несамавіты ўчынак параджае сабе падобны. Але за кожны з іх той, хто ўчыніў, павінен несці вялікую адказнасць.

В. Быкаў не паказвае перадгісторыю Ваўкалакі, як і не тлумачыць, сапраўдны гэта пярэварацень ці проста велізарны сабака, што ўпадабаў чалавечую крою. Ва ўсякім разе, ён не стаў ім, як у Баршчэўскага, у выніку закляцця. Можа, як у славутым вершы Багрыма, хлопец нарэшце здзейсніць сваю мару: «у ваўкалака абярнуся з шчасцем на вас азірнуся». Як у А. Абуховіча: «буду вольным ваўкалакам, ты ж — на прывязі сабакам».

Ваўкалак Баршчэўскага нясе страх тым, хто не жыве па чалавечых законах: расла мая нянавісць да людзей, калі думаў пра іхнія блуд, несправядлівасць, незычлівасць да роўных сабе. Вырашыў шкодзіць ім ва ўсім...» Аднак паступова ён усведамляе /гэта ўсё ж такі быў чалавек у абліччы звера/ сваю памылку і шэрагам добрых учынкаў пазбаўляецца закляцця. Ці стане іншым Азевіч? Ці зможа ён служыць людзям? А можа, Ваўкалака, дастаўшы яго крыві, скіне чары і стане ўрэшце чалавекам? І так здзейсніцца яго жыццёвае прызначэнне. Бо гэта ў фантазіі народа беларускага, «якому заўсёды мроіцца чары і духі ў размаітых постацях, і ў кожным з гэтых істотаў свой абавязак».

Баршчэўскі бачыць усякаму прычыну ў адыходзе ад спрадвечных традыцый, сапсутасці нораваў, людской пысе. Сапраўды, у старажытнай літаратуры не было падобнага ўяўлення. Чалавек з дазволу Бога быў гаспадаром на запаветнай зямлі. І не толькі чалавек, але і рыбы, звяры, і нават пчолы, што баранілі «ульи своя», не былі чужымі ці лішнімі на ёй. Толькі тады, калі чалавек забыўся на сваё слаўнае мінулае, апаганіў косці продкаў, г. зн. страціў перспектывы развіцця, ён становіцца пілігрымам на роднай зямлі. «Нікчэмныя людзі! Прыйдзе час паднянцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!» Трагедыю народа ў XIX ст. яшчэ памятае хоць Плачка, якую ўжо людзі амаль не разумеюць. В. Каваленка пісаў, што з матыву асілка з мячом у руках, які карае рабаўнікоў і тых, хто не помніць славы продкаў, народзіцца тэма «Пагоні» М. Багдановіча. /Яшчэ адно яскравае ўвасабленне нашай велічнай вечнай вандроўкі. Невыпадкова словы «Дзе сляды вашы йдуць і куды?» прапанаваны ў якасці нацыянальнага гімна/. Трагедыю XX ст. не аплача ніхто. Бо шляхі, якія так балюча паказаў В. Быкаў, вядуць да знікнення, а пачуццё нацыянальнага самазахавання амаль знікла або растане ў мітусні блізкіх гадоў. «Што гэта за характар такі — незласлівы ці непераборлівы да дабра і да зла? Што гэта — сялянскае, жаночае? Ці нацыянальнае? Адкуль яно ўзялося, добра гэта ці не?»

«Кепска будзе» таму, хто народзіцца на гэтай зямлі. Такі вывад зрабілі яшчэ героі Ф. Багушэвіча, якія шукалі праўды ў судзе, у астрозе, нават на тым свеце, у чысцы. На абшарах Беларусі — ад зарослай травой крынічкі да срэбнаводнага Нёмана, ад балота са старымі бярозамі да шырокіх зялёных лугоў, ад лясной глушы да паплавоў — вандруюць героі Я. Коласа ў пошуках «Новай зямлі». Але дарэмныя спробы беларусаў знайсці сваю зямлю і песню. У самы разгар пошукаў дарогу Міхалу перабягае воўк, які раптоўна гіне ў хвалях зімовай рэчкі. Менавіта вочы звера-прывіда, напоўненыя жудасцю смерці, убачыць ён у хвіліны свайго трызнення-расстання з жыццём. /У хваравітым сне, бо знаходзіўся ўжо некалькі дзён у непрытомнасці, Азевіча ахоплівае страх, вядомы яшчэ з дзяцінства. «І ў той яго страх паступова ўваходзіў нехта знадворку, нехта варушыўся за вакном. Ягор бачыў за шыбінай цьмяную касмылявую морду, то, канешне, быў воўк. Ён стрыкаў вушамі, напружана зазіраў у акно невядома з якім намерам, можа, каб улезці ў хату». Пакутны дзіцячы страх, ад

Сярод кніг

# ПРА ВІЛІЮ, ВІЛЬНЮ І ШМАТ ШТО ІНШАЕ

Імя прафесара Віленскага універсітэта Чэслава Кудабы да мяне прыйшло ўпершыню ў Кушлянах, у Багушэвічавым дамку, з кнігі водгукаў. Тады ўжо мяне зацікавіла: хто ён, гэты чалавек, што змог, працуючы ў Віленскім універсітэце, скіраваць сваю душу ў Кушляны? Не сакрэт жа, што да нядаўняга часу шмат для каго з нашых пісьменнікаў, літаратараў, дзеячаў культуры Кушляны былі невядомым мацерыком. Нават тыя, хто пісаў пра Ф. Багушэвіча, доўга не маглі знайсці часу зірнуць хоць адным вокам на адзіную ацалелую з XIX стагоддзя пісьменніцкую сядзібу. А гэты змог ды яшчэ пакінуў і кранальны водгук. Зацікавіла і прозвішча: Чэслаў Кудаба: хто ён — беларус, паляк ці спольшчаны беларус, які працуе на Летуву?..

І вось кніга «Па Віліі» — на беларускай мове ў перакладзе з літоўскай — адказала на ўсе пытанні: і хто аўтар, і які абсяг яго захапленняў. Доктар геаграфічных навук, краязнаўца. Кніжка «Па Віліі» ў яго не першая. Перад гэтым былі «Марэнныя ўзвышшы Літвы», «Геаграфічныя падарожжы і адкрыцці», «Там, дзе цячэ Нёман», «Узгоркавая Жэмайція», «Ігналінскі край», «Узгоркавая Аўкштайція» і іншыя.

Кожная са згаданых кніжак вельмі дарагая Чэславу Кудабу. Але гэтая, «Па Віліі», яму, сыну беларуса з-пад Нарачы, з Кабыльніка, найдаражэйшая. Вельмі захацелася, каб яе прачыталі яго землякі на Радзіме, і ён робіць захады, каб кніжка выйшла на Беларусі. За пераклад з летувіскай мовы ўзялася дачка слыннай Зоські Верас Галіна Войцік, якая жыве ў Вільні і ведае не адну мову. Але, можа, аўтару варта было зрабіць самому пераклад свае працы? Тады мова кніжкі была б, пэўна ж, больш натуральнай. А так часам страчаецца і прыблізнае слова, і недакладнае. Часам побач з жывым словам суседнічае псеўданавуковы стыль. Але галоўнае — жаданне Чэслава Кудабы збылося, кніжка яго на яговай роднай мове выйшла.

Змест яе пераказваць няма патрэбы. Скажам толькі пра жанр — «падарожныя запісы». Гэтыя запісы і вызначылі змест. Асноўная дзейная «персона», як відаць з назвы — Вілія, яе прытокі. Метр за метрам апісвае Кудаба Вілію і яе берагі, навакольле на працягу ад вытокаў да Коўна. Нішто вартае з гісторыі, этнаграфіі, краязнаўства, культуры, літаратурнага жыцця не застаецца па-за ўвагаю вучонага-вандроўніка: валуны і капліцкі, драўляныя масткі і старыя масты, пераправы і паромы, гарадзішчы і могілкі, парогі і прыбярэжныя дубровы, гаі і бары, памятныя дрэвы і камяні, паданні і легенды, курганы. Шмат тут і з гісторыі Беларусі. Для мяне, прыкладам, адкрыццём было, што К. Тышкевіч, вядомы вучоны, караблі для свае вандроўкі ў 1857 годзе па Віліі пабудаваў у Лагойску. Не менш цікава, як ён пераправіў гэты флот, да вытокаў Віліі. Высвятляецца: прычакаў зімы і на спецыяльна прыстасаваных санях перавёз.

...Больш за трыста вёсак, мястэчак, гарадоў мінае Вілія. Яны, паводле трапнага вызначэння Генадзя Каханоўскага, аўтара невялікай прадмовы да кніжкі, «быццам пацеркі начэплены на блакітную нітку». І пра кожнае селішча — самае адметнае, самае характэрнае. Нездарма, скажам, прыязджаў Кудаба ў Кушляны. Пра іх і пра Багушэвіча, пра Смаргонь і слынную Смаргонскую акадэмію, пра Залессе і Агінскага ў кнізе — цэлыя старонкі.

Не менш цікавы расповяд пра Вілію і яе наваколле ў межах Вільні і за Вільняй. Тут для беларускага чытача цэлы малавядомы мацярык, які нам, беларусам, ведаць пажадана і трэба. У Вільні і яе наваколлях тварылася і наша культура. Подых нашай даўніны тут на кожным кроку і ва ўсім. У маляўнічых мясцінах Закрэта беларусы калісь любілі правіць адраджэнскія фэсты. А якое незабыўнае Купалле яны справілі на Віліі ў 1912 годзе! Караван лодак.

*Чэслаў Кудаба «Па Віліі». Падарожныя запісы. Мінск. «Полымя», 1992 г.*

якога нельга ніяк пазбыцца, як не пазбыцца ваўчынай пысы за цьмяным акном. Магчыма, здасца, што ў рэалістычным творы акцэнт на падобныя сцэны ўяўляецца празмерным, выпадковым. Аднак рэальнасць падчас больш фантасмагарычная, чым самая хваравітая фантазія /сын знішчае бацькоўскія жорны, г. зн. сімвал хлеба і жыцця, якім яго ўзгадавалі; настаўніку-беларусу задаюць пытанне: «во ты і вучыцель, і граматны, а чаму ты, браце мой, па-беларуску гаворыш?»; каб заняць хату гаспадара, яго робяць ворагам народа/. Дарэмна Міхал шле свой палымяны запавет дзецям і брату — няма роднай зямелькі беларусу на гэтым свеце. Ні новай, ні адвечнай.

Сымон-музыка вандруе з дзіцячых гадоў па гэтым свеце, але ні ў родным доме, ні ў хаце жабрака, ні ў карчме арандатара, ні ў палацы пана не знаходзіць супакою.

**Дык хіба ж мы праў не маем,**
**Сілы шлях свой адзначаць**
**І сваім уласным краем**
**Край свой родны называць?**

Закрадваецца нават крамольная думка, што яго шчасце і заключаецца менавіта ў вечнай вандроўцы. Тым болей, што яго апякун Апалон у асобных міфах паўстае як воўказабойца /А. Лосеў/. У казцы «Ноч, калі папараць цвіце» Я. Колас апавядае, што дзяцей беларускіх палёў і лясоў выхоўвалі так, каб «яны пакідалі сваіх бацькоў і ад бацькоўскіх звычаяў адракаліся. І гэта ім удавалася — пакідалі дзеці бацькоў сваіх да ішлі або на захад, або на ўсход, гледзячы па тым, дзе каму было лепей. Яны рабіліся слугамі суседзяў і ўжо стыдаліся прызнаваць сябе дзецьмі тутэйшых людзей». Ці не таму прысутны на гэтым сходзе заўсёды панура Ваўкалак, якому было наканавана чалавечае аблічча змяніць на ваўчынае, дае юнаку «словы гневу і абурэння, каб молатам білі яны па струнах сэрца таго, хто прадае сваю айчыну».

Матыў пілігрымства становіцца вызначальным у паэзіі Я. Купалы. Прычым не варта шукаць сюжэтнага супадзення ў паасобных творах, бо яго ўвасабленне набывае алегарычна-ўмоўную форму. Для Самога, што шукае зачараваны Скарб, варожым становіцца ўсё на гэтым свеце: і лес, і замчышча, і поле, не гаворачы пра русалак, начніц, кажаноў, духаў пушчы і іншую нячыстую сілу / «чэрці, ведзьмы, ваўкалакі Сходзяцца гуляць» /. А рэй у ім правяць дурнаваты Падростак, Вар'ятка, Сляпая. Ці не таму за свае пошукі Сам атрымлівае чарговую «ўзнагароду» — ссылку ў Сібір. «Беларуская доля такая ўжо, што і гаварыць не варта. Вось хаця б тая «вясна» народаў, аб якой так шмат яшчэ і цяпер гамоняць. Мо якому народу і прыйшла гэта вясна, але беларускі народ гэта «вясна народаў» так і не закранула» — скажа праз некаторы час народны пясняр у адной са сваіх шматлікіх публікацый. Апафеозам яго творчасці стануць славутыя «Паязджане». Адштурхоўваючыся ад класічнага народнага міфа аб заклятым вясельным поездзе, які ніяк не можа дастацца да дому, Янка Купала стварае абагулены вобраз народа, які не злым манатонным шэптам знахароў, а страшэннай рэальнасцю прымушаны вандраваць па сваёй роднай старонцы, не маючы мажлівасці ўзбіцца на цвёрды шлях вернай дарогі. Бо і сама дарога, нават узбітая, ідзе праз ноч, якая сыпле чары ўлева, управа, абстаўленая галінамі, што тырчаць нібы шкілеты; «злыдні зіркаюць у ночы». Перад намі глыбока нацыянальная паэтычная інтэрпрэтацыя класічнага сімвала-міфа, які вядомы як матыў скітальніцтва, пілігрымства, матыў Агасфера, што паходзіць з біблейскага падання аб пракляцці, закляцці за саўдзел у злачынстве. Легендарны Агасфер становіцца «вечным жыдам» у пакаранне за тое, што не дапамог Хрысту ў яго апошняй дарозе на Галгофу. За якія ж грахі быў пакараны беларускі народ? Каму ён не дапамог у апошняй дарозе? Да якога часу дзейнічае тое страшэннае пракляцце, у адпаведнасці з якім ён вымушаны быць ізгоем на роднай зямлі?

Гэтае пытанне, паўторым, было вызначальным для ўсёй беларускай літаратуры апошніх двух стагоддзяў. І не магло быць інакш, бо яно было вызначальным і для ўласнага лёсу яе стваральнікаў, жыццёвыя вандроўкі якіх часцей за ўсё суправаджаліся злавеснай ценню ваўкалака. Ян Баршчэўскі пасля вандровак навечна застаўся на Украіне; не знайшлося месца на Радзіме Ф. Савічу, П. Багрыму, Я. Чачоту, К. Каліноўскаму, Ф. Багушэвічу. Гэта толькі некаторыя імёны дзеячаў XIX ст., вымушаных доўгі час жыць за межамі роднага краю ці нават навекі злажыць там галаву. Амаль нічога не змянілася і ў нашым стагоддзі, хіба толькі тое, што вандроўкі беларусаў набываюць усяленскі размах. Але як і раней, беларусы могуць адно прасіць ці паміраць за чужыя ідэалы. Як А. Гарун, які не можна вярнуцца з Сібіры, бо на Беларусі валадарыць пачвара, што выйшла з дамавіны /«Па старонцы роднай здаўна Ваўкалакі ходзяць, Але ж пеўні не спяваюць, Слонка не ўзыходзіць!..»/. Не мог знайсці сваю «Бацькаўшчыну» К. Чорны, свой «Эдэм» Зм. Астапенка. Не адчулі сябе гаспадарамі гэтай зямлі ні Васіль Дзятлік, ні Карчы, ні Язэп Крушынскі, ні дзесяткі іншых, скручаных у «Вязьмо» герояў. Вырасла толькі колькасць імёнаў, якія сталі ахвярамі ценю. І спіс гэты працягваецца нават у нашыя дні, калі па абставінах, што не залежаць ад іх, вымушаны пакідаць родную старонку яе лепшыя сыны. На пэўны час падалося, што цень Ваўкалака саступіў ценю Чарнобыля, аднак /згадаем хоць сімвалічную драму-споведзь пра чорнага бусла В. Казько/ гэта проста мімікрыя адной і той жа жудаснай з'явы, якая пад уплывам нейкіх незразумелых каталізатараў значна паскорыла рэакцыю.

Сумныя думкі навявае аповесць В. Быкава. Але ёсць яшчэ зернейка надзеі на лепшае, якое, як агонь уначы ў славутым творы Я. Райніса, разгоніць гэтую спрадвечную цемру і асветліць беларусам шлях да Бацькаўшчыны. Бо што ж застаецца, акрамя надзеі?

*г. Гомель*

Гучыць Купалава песня «А хто там ідзе?» З берагоў чуваць: «Беларусы! Беларусы!»

Вандроўкі, падарожжы па Віліі з яе маляўнічымі берагамі калісь прываблівалі многіх. У 1897 годзе «тры дні і тры ночы» з Вільні да Коўна вандраваў па Віліі на чоўне і славуты Францішак Багушэвіч. З таго ліпеньскага падарожжа ён прывёз цэлую нізку вершаў-экспромтаў. Багушэвічава экіпа рабіла прыпынак у Кярнаве. Пра гэта нават здымак ацалеў. Мы бачым нашага песняра за сваімі падарожнікамі на адным з кярнаўскіх гарадзішчаў. На жаль, пра Багушэвічава падарожжа па Віліі ў кнізе ні слова...

У кнізе — россып звестак-перлін пра старыя бібліятэкі, карцінныя галерэі, двары і палацы, дзеячаў культуры, даўнейшых пісьменнікаў, гісторыкаў, этнографаў, фальклярыстаў, мастакоў, архітэктараў, імёны якіх цесна пераплецены з гісторыяй Беларусі, нашага краю. Цікавыя звесткі пра мастака і літаратара Артура Бартэльса /жыў пэўны час у Лагойску/, Ігната Ходзьку, Ю. Крашэўскага, мастака М. Сілівановіча і шмат каго іншых.

Кніжка Кудабы багата і з густам аздоблена: старымі гравюрамі і аўтарскімі здымкамі. Гэтыя здымкі трэба не проста глядзець, а чытаць. Яны нібы самастойны сюжэт у кнізе. Прыгледзьцеся да старажытнага малюнка «Гандляры драўнінай у вярхоўях Віліі». Ён даносіць да нас паставы нашых продкаў, іхнюю вопратку, прыродны гумар, усмешку, хітрынку. Усё ёсць на згаданай старой гравюры. І гэтак трэба глядзець кожны малюнак, кожны здымак. Аўтар дапамагае чытачу адчуць эпоху, параўнаць, як было даўней і як зараз, што засталося, што змянілася. Акурат так я прачытваю размешчаныя побач здымкі «У чоўне на рацэ — калісьці і цяпер».

Чытанне кнігі Чэслава Кудабы, паводле трапнага вызначэння Г. Каханоўскага, гэта таксама рамантычнае падарожжа. Уражанне такое, «нібыта сам плывеш па рацэ, зачараваны краявідамі, і слухаеш гісторыю». Прачытаўшы кніжку, вельмі хочацца пазнаёміцца з яе аўтарам, паслухаць яго беларускую мову. Тым больш, што рэцэнзент кніжкі зазначыў, што ў мове Кудабы чуваць налёт нарачанскай краёвасці. Хай жа гэты налёт не зводзіцца і часцей трапляе на старонкі беларускіх кніжак Кудабы.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

Круглыя сталы

# ЖАНР І ТВОРЦА

За «круглым сталом» Інстытута літаратуры імя Я. Купалы прайшоў абмен думкамі па праблеме «Жанр і творца». Уступнае слова сказаў В. Каваленка, які падкрэсліў несумненную актуальнасць разглядаемай праблемы для развіцця літаратурна-тэарэтычнай думкі ў рэспубліцы, выказаў сваё разуменне жанру не толькі як прэрагатывы формы, але і як «канкрэтна-наглядную матэрыялізацыю» светапоглядных уяўленняў мастака, увасабленне важнейшых жыццёвых сэнсаў».

З дакладам «Праблемы агульнай тэорыі жанру» выступіла маладая даследчыца Л. Ляўшун. Яна ахарактарызавала катэгорыю жанру як аб'ектыўна існуючы духоўны модус быцця, які ў літаратуры — праз аўтара, творцу, — знаходзіць мастацкае ўвасабленне пры дапамозе тых ці іншых выяўленчых сродкаў. Кожны твор, на яе думку, генетычна ўзыходзіць да свайго жанравага архетыпу, узору, які, аднак, не перашкаджае аўтару перадаць уласнае адчуванне чалавечага быцця.

Цікавыя даклады прывезлі госці з Чарапаўца /Расія/: прафесар мясцовага педінстытута Э. Дзяменцьеў і дацэнт А. Кірыкава. Першы ў дакладзе «Школьны класіцызм» і нацыянальныя літаратуры» гаварыў пра гістарычнае значэнне жанраў і традыцый антычнай класікі /т. зв. школьны класіцызм/ у развіцці еўрапейскіх літаратур XVIII—XIX стст., падкрэсліўшы значную ролю Беларусі і беларускай культуры ў пасоўванні «школьнага класіцызму» на ўсход, што дабратворна адбілася на станаўленні новай рускай літаратуры. А. Кірыкава, чый даклад «Смерць аўтара» і лёс рамана» быў з цікавасцю сустрэты аўдыторыяй, зрабіла плённую спробу асэнсаваць стан сучаснага рамана. Карыстаючыся канцэптуальным паняццем вядомага французскага літаратуразнаўцы Р. Барта «смерць аўтара», даследчыца змагла намаляваць дынамічную карціну творчых пошукаў у жанры сучаснага рамана.

Нямала свежых і тонкіхназіранняў знайшло адбітак у дакладзе В. Чамярыцкага «Асабіста-аўтарскае і агульнагістарычнае ў беларускіх летапісах», у якім аўтар засведчыў жанрава-стылявую пераемнасць і разам з тым арыгінальнасць гэтага раздзела нашай старажытнай літаратуры.

Сацыякультурная роля мастака-творцы была ў цэнтры паведамлення І. Бабкова, кідка названага «Смерць жанру» і лёс аўтара».

З іншых удзельнікаў «круглага стала» хацелася б адзначыць паведамленні З. Санюка, Г. Кісліцынай, Л. і С. Гараніных, а таксама выступленні і ацэнкі В. Жураўлёва, С. Лаўшука, Г. Твардовіч.

Вынікі размовы падвёў у заключным слове У. Гніламёдаў.

Дамоўлена, каб правядзенне «круглых сталоў» па тэарэтычных пытаннях развіцця нацыянальнай літаратуры і культуры зрабіць традыцыйным.

**У. Г.**

З архіваў

**Рыгор КРУШЫНА**

# САВЕЦКІ АПЕНДЫЦЫТ

Першая мая сустрэча з Янкам Купалам была ў 1927 годзе, у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь».

У пакоі рэдакцыі, здаецца, не было нікога. Сядзелі толькі Чарот і я. Аб нечым гаварылі. Раптам увайшоў Купала. Ён паздароўкаўся з рэдактарам і са мною. Паціскаючы маю руку, запытаўся:

— Як маецеся?

Запытаўся звычайна й проста, як быццам мы былі здаўна знаёмыя. Не памятаю, што я адказаў на гэта і аб чым ішла далей мова. Я сядзеў крыху збянтэжаны, але адначасна шчасліва ўзрушаны.

Пазней, калі я працаваў у розных рэдакцыях і ў Доме пісьменніка, сустрэчы з Янкам Купалам былі даволі частыя.

І вось адно прыгадваецца. Трагічны выпадак. Спроба Купалы скончыць жыццё самагубствам. Чуткі пра арышт і харакіры папаўзлі па ўсіх кутках Беларусі. Я быў у той час у Гомелі. У рэдакцыі мясцовай газеты «Палеская праўда» шапталіся:

— У Менску неспакойна. ГПУ мела намер забраць Купалу. Прыйшлі арыштаваць. Не здаўся — сабе жывот успароў... Нажом... Тым крывым нажом, якім карыстаюцца садоўнікі.

Шэпт быў — як страшная змова, усхваляваны, з абурэннем.

— Што? Не верыце? Людзі чулі, людзі бачылі. Купаліха з плачам прыбегла ў Дом пісьменніка. Яна галасіла: «Янка зарэзаўся!»

Чуткі раслі, шырыліся. Тыя, што прыязджалі з Менска, сведчылі:

— Але, гэта праўда.

Нарэшце, у менскіх газетах з'явіўся ліст самога Янкі Купалы. Гэта было спраставанне аб тым, што на Беларусі й за межамі яе ворагамі народа распаўсюджваюцца лжывыя чуткі. Янка Купала пісаў, што ён выйшаў з бальніцы пасля складанае аперацыі — хварэў на апендыцыт.

Ці можна паверыць гэтай заяве? Ці не прымусілі хворага падпісаць гэтае спраставанне? А, можа, нават тады й не ведаў — ляжаў яшчэ непрытомным у шпітальным ложку. Усё можа быць.

...Па нейкім часе я зноў у Менску. Там, каля Дома пісьменніка, спаткаў Янку Купалу. Прывіталіся. Ён стаяў, абапіраючыся на крывульку — задуменны й сумны.

— Спачуваю вам, — сказаў я. — Газеты пісалі, што вы нядаўна перанеслі цяжкую аперацыю.

— Так, гэта быў савецкі апендыцыт, — горка прамовіў Купала.

**Публікацыя І. КАЗАКА.**

З паэтычнай пошты

**Лявон СЛУЧАНІН**

# ДАРОГА НА ПАРНАС

## РАДЗЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

**Я ўсё сваё свядомае жыццё,**
**нягледзячы на колкае асцё,**
**не забываў дарогі на Парнас,**
**дзе пражываюць Апалон і музы,**
**з якімі скрозь яднаюць нас**
**надзейнага братэрства вузы.**
**Мяне скарыла муза Эрато,**
**адна з Багінь парнаскага плато,**
**што ўсе вякі, як матухна якая,**
**паэзію й паэтаў апякае.**
**Крутой была дарога на Парнас.**
**Пакрыць яе не дапамог Пегас.**
**І я карабкаўся, нібыта апантаны,**
**нягледзячы на голад, турмы, раны.**
**І толькі сёння муза Эрато,**
**адна з багінь парнаскага плато,**
**шпурнуўшы ў бездань д'ябальскае вета,**
**мяне благаславіла як паэта.**
**Сардэчная падзяка ёй за гэта!**

14.6.93 г.

Паэзія

Уладзімір СКАРЫНКІН

## У ПАДЗЕМНЫМ ПЕРАХОДЗЕ

**Ну вось яно — і горкае пахмелле!**
**На плошчах людных з марай аб свабодзе**
**Пілі мы ўсе дурманлівае зелле —**
**Прачнуліся ў падземным пераходзе.**

**Спакушаныя абяцаным раем,**
**Адну малітву: — Уратуй нас, Божа! —**
**З адчаем у вачах мы паўтараем,**
**Хоць нам Гасподзь наўрад ці дапаможа.**

**Нам прапануюць дзеці падзямелля**
**Рыззё купіць за долары і маркі.**
**Вакол цямрэча. І ў канцы тунеля**
**Пакуль не бліскае праменьчык яркі.**

**Мы сунемся ў барыг навідавоку,**
**Абмацваючы сінякі і траўмы.**
**Спыняюць — ледзьве не на кожным кроку —**
**Нас рукі жабракоў, нібы шлагбаўмы.**

## СВЯТОЕ МЕСЦА

*Маім землякам*
*Анатолю АЛТУХОВУ*
*і Мікалаю ФАМЧАНКОВУ*

**Калі ў жыцці ўсё менш святога,**
**Калі жыруюць гандляры**
**І ўчынкамі сваімі Бога**
**Ганьбуюць нават святары,**
**Паедзем на святое месца**
**Да вечных ісцін і святынь,**
**Дзе льецца сонечная меса**
**З бяздонных восеньскіх вышынь.**

**Калі пачне знутры свяціцца**
**Зара, як кафедральны храм,**
**Паспавядацца, прычасціцца**
**Абавязкова трэба нам.**

**Пачэсна, ды нялёгка несці**
**Крыж сейбіта і плугара.**
**Хоць вечарок на гэтым месцы**
**Вам адпачыць даўно пара.**

**Зрабіце, любыя, паслугу**
**Сваёй душы ў бяздушны час.**
**Пацір, які пайшоў па кругу,**
**Натхніць і абнадзеіць нас.**

**Начным кастром паазараем**
**Мы кроны сосен векавых**
**І неба зорнае над краем**
**Святых азёра і гор святых.**

**Святым святлом асвецяць блікі**
**Кусты, што ля балотца спяць.**
**Абліччы вашы, быццам лікі,**
**З цямрэчы будуць выступаць.**

## ДАЧКА ЧАКАЛА З ПАХОДУ ТАТКУ

*Паводле ўспамінаў Ганны Іванаўны АДАМЕНКІ — сястры-гаспадыні дома творчасці ўкраінскіх пісьменнікаў «Ірпень»*

**Дачка чакала**
**З паходу татку.**
**Калі адчыніць**
**Ён дзверы ў хатку,**
**Калі падыме**
**Да самай столі...**
**Няўжо ніколі,**
**Няўжо ніколі?**

**Яна прыпала**
**Шчакою к вязу.**
**Ёй вяз разгалы**
**Не даў адказу.**
**Калі прыснілася**
**Ёй казлянятка,**
**Прыйшоў з паходу**
**Дадому татка.**

**Не ейны татка —**
**Сваячкі Олі,**
**Падняў дачушку**
**Да самай столі.**
**Схіліла нізка,**
**Як чарацінка,**
**Сваю галоўку**
**Зноў сірацінка.**

**Як страшна цемра**
**Свой рот не шчэрыць,**
**Кладзецца ў ложак**
**Дачка і верыць:**
**І зноў прысніцца**
**Ёй казлянятка —**

Проза

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# Былічкі-небылічкі

***Гэтая жменя народных апавяданняў, ці былічак-небылічак, як вызначыў я іх жанр, збіралася не адзін год. Магчыма, некаторыя з карацелек, занатаваныя мною, ужо вядомыя шаноўнаму лімаўскаму чытачу. Але я ўпэўнены: жывое народнае слова, як і людская дасціпнасць і мудрасць, пачутыя і пераказаныя па-свойму, заўсёды знойдуць удзячнага чытача і слухача.***

***У. Я.***

## АХВЯРА

У Агарках вам кожны раскажа пра Грыгалюніса, хоць яго даўно няма на свеце.

От, бывала, расчыняюцца дзверы і проста з парога:

— Здароў, Іване! Ты чаму на печы ляжыш?

— А што мне рабіць?

— Хіба не бачыш, што ў хаце вады па калена?!

Зірне Іван: і праўда — патоп! Якое там ляжанне! Кумільгом з печы. Мацмац рукамі, а гліняны ток сухі.

Вось на якія штукі быў здатны Грыгалюніс.

Або такі выпадак.

Сядзяць на бервяне мужчыны. Гамоняць, дымяць сабе. Падыходзіць Грыгалюніс.

— Хлопцы, хачаце — у адзін канец бервяна залезу, а праз другі вылезу...

Бервяно доўгае: хто пры тоўстым зрэзе застаўся, хто да танчэйшага прыліп. Глядзяць — Грыгалюніс палез. Усё як мае быць: спачатку галава схавалася, потым тулава, ногі... Зусім знік! Неўзабаве вылазіць. Цэлы, жывы. І гэта ўсё на вачах у дзесяці нармальных здаровых чалавек! Як назваць такое штукарства: замарач? насланнё? Ці, можа, па-цяперашняму, па-сучаснаму — гіпноз?

Не стала Грыгалюніса ўвосень 41-га. Немцы расстралялі, хоць ён не быў камуністам ці актывістам. За што? А Бог яго ведае. Відаць, што быў не такі, як усе. У вёсцы доўга здзіўляліся: як ён пыл у вочы ім не пусціў? чаму не ачмурыў, не ўцёк?..

Ды праўду кажуць: ад смерці — не ўцячэш.

## СОЛЬ ПЕРАЕЛА

У аднаго гаспадара была надта скупая жонка. Чарку ад яго хавае, капейку заціскае. Вось аднойчы зірк яна ў акно — мужык з суседам валакуцца ў хату. Як дубцом хто сцебануў па бабе: у шкапчыку гарэлка стаіць! Знюхаюць і выхлябчуць, злыдні!.. Схапіла кабеціна бутэльку і ў сені. З сяней у камору. Крутнулася там, як ведзьма на памяле, і знайшла-такі, куды схаваць пляшку. Пад сала, што ў кубельцы ляжала, запхнула, нават вечкам не забылася накрыць. А сама за парог — толькі хвост мільгануў.

Уваліліся мужчыны ў хату. Ведаючы жончын нораў, гаспадар кажа:

— Спачатку закусь прынясу... Потым. дасць бог, і кропля знойдзецца!

Пайшоў ён у камору. Глядзіць — у кубельцы сала ледзь не дыбам ляжыць. Дастаў верхні кавалак, а пад ім — гарэліца рагоча!

Пачаставаў гаспадар суседа, а пустую бутэльку з тым самым папяровым коркам назад у кубелец паклаў. Жонцы нічагуткі не сказаў — ні ўвечары і ні назаўтра. Праз тыдзень ці два яна сама ледзь не за локці сябе кусала:

— Што ж я нарабіла, дурніца! Знайшла куды бутэльку хаваць!.. У кубельцы солі-солі... Не дзіва, што яна затычку пераела і ўся гарэлка выцякла.

## ЖАРЦІКІ

У нашага суседа Паўлюка ў гумне доўга стаяла дамавіна. Стары зрабіў яе сам, каб потым менш было клопату людзям. Зрэдку ён клаўся ў яе, як у калыску, і казаў сынам:

— Зараз пагляджу, каторы шкадаваціме мацней, калі памру...

Малодшы, Ванютка, ледзь не ўкленчваў перад бацькам, слёзна прасіў яго падняцца, ісці ў хату. А старэйшы, Пятро, жартуючы, казаў:

— Няхай ляжыць! Я векам накрыю, а ты бяжы па цвікі і малаток!

Паўлюк хуценька ўзграбаўся з дамавіны і моўчкі сунуўся з гумна.

Калі ён памёр, знайшлі тастамант. І што вы думаеце? Усю гаспадарку і грошы, нажытыя за доўгі век, стары адпісаў Ванютку. А Пятру — дулю з макам. Вось табе і жарцікі.

## КУРЫЦА

Скруціла ў адной хаце хвароба гаспадара. Лежма ляжыць, нават з ложка не падымаецца. Жонка і дактароў да яго і знахароў — пустое. Ні парашкі аптэкарскія, ні зёлкі загаворныя не памагаюць. А тут якраз у вёску цыганку прынесла. Ад хаты да хаты — сядзібу хворага чалавека таксама не абмінула. Толькі яна на парог — завойкала гаспадыня пра сваё гора.

«Э-э, дам я рады тваёй бядзе, — кажа цыганка. — Адмер два кавалкі палатна і пасцялі крыж-накрыж у хаце, каб хапіла з кута ды ў кут...»

Паслухалася гаспадыня, палезла ў куфар.

«А цяпер загарні ў палатно ладныя польцы сала, — вучыць далей цыганка, — і пакладзі ў ногі хвораму...»

Кабета завіхаецца — аж спатыкаецца. Прынесла з каморы сала, спавіла яго, як дзіця.

«Я буду адгаворваць, — зноў кажа цыганка, — а ты, каб зусім насланнё прагнаць, чорную курыцу яшчэ прынясі...»

Гаспадыня бягом у хлеў. Схапіла квахтуху, што сядзела на яйках, і ляціць назад. Ускочыла ў хату, глядзіць, а знахарка ў свой мех закручанае ў палатно сала кладзе. Тут і сляпы абурыўся б:

«Ты чаму грабеш чужое?!»

А цыганка як вылупіць вочы:

«Я ж у сала хворасць загнала! Бяду тваю з хаты панясу! Давай хутчэй курыцу, калі хочаш, каб гаспадар на ногі падняўся!..»

Бачыць гаспадыня: што ў мяшок цыганскі трапіла — назад ужо не вернецца. Шкада стала квахтуху. Не так нават квахтуху, як пакінутыя ў седале яйкі. Хоць самой цяпер куранят выседжвай. А пакуль яна так думала, цыганка за курыцу ўчапілася, да сябе цягне. Кабета квахтуху не адпускае, моцна за галаву трымае. Тузалі яны тузалі курыцу — нарэшце курыная галава ў гаспадынінай руцэ засталася, а тулава з крыламі ды нагамі разам з цыганкай за дзверы паляцела.

Толькі кабеціна разявілася ляманту нарабіць, глядзіць — вачам сваім не верыць. Мужык і праўда з пасцелі ўзгробся, на ногі падняўся. Яна да яго, а ён ёй кухталёў, кухталёў:

«Ах ты, дурніца! Ах ты, чорная курыца!..»

## ДЗЯДЫ І ЎНУКІ

— Мой дзед, як малады быў, хадзіў на вячоркі ў суседнюю вёску. Аднойчы хлопцы з гэтай вёскі згаварыліся пабіць чужака. «Добра, падужаемся... — кажа ім дзед. — Але спачатку дайце мне свае шапкі...» Некалькі смельчакоў паслухаліся. Дзед падышоў да хаты, дзе ладзіліся скокі, падняў яе за вугал адной рукою, паклаў шапкі на камень-рагавік і апусціў зруб: «Дастанеце свае брылі — тады і падыходзьце!» Пабачыўшы такую сілу, ахвотнікаў біцца — не аказалася.

— Мой дзед таксама дужы быў! — утачыўся ў гаворку яшчэ адзін унук. — Неяк зазлаваў ён на шкодлівую карову. Накінуў ёй на рогі вяроўку, перакінуў другі канец праз хату і зацягнуў рагулю на страху. Да самага коміна зацягнуў!

— У вас абодвух — што ў дзеда, што ў цябе — клёпак у галаве аднолькава! — смяюцца з выхвалякі людзі.

## РАГАТАЯ КОШКА

Аднойчы ўлетку нейкая цётка прыкінулася хвораю. Усе пайшлі на балота сена грэбсці, а яна вылежваецца сабе ў хаце. Да адной падушкі прытуліць вуха — войкае, да другой прыкладзе голаў — яшчэ мацней вохкае, маўляў, не падушка, а камень... Раптам чуе: на надворку куры лапочуць крыламі, гусі крычаць-гагочуць, сабака вішчыць! Што за ліха?..

Выбегла цётка з хаты на вуліцу — нікагуткі. Ні цыганоў, ні злодзеяў. А пер'я на падворку — як снегу насыпала. На цэлую падушку хтосьці пуху наскуб. Млосна стала цётцы, аж у горле сшэрхла. Схапіла яна вядро — і да калодзежа. Зірнула ў студню, а там вялізная рагатая кошка-прыблуда сядзіць.

«Вось хто тут гаспадарыў! — узрадавалася цётка. — Пасядзі, галубка, пачакай, зараз я пачастую цябе гусяцінай-курацінай...»

Схапіла на дрывотні ладную тычку і — да калодзежа. Сядзіць госця, не ўцякла. З калодзежа не надта фыркнеш. Узялася цётка ямчэй за тычку і давай з усёй сілы пароць прыблуду. А котка раптам мі-і-ільгець па тычцы ўгору — і ўселася кабеціне на галаву. Аслупянела цётка, вочы ад страху вытарашчыла, а заенчыць, каб ратавалі, баіцца. Кіпцюры ў кошкі — што цвікі, моцна пад скураю сядзяць. Падкасіліся ногі ў кабеціны, асунулася яна, як мяшок, на зямлю. А кошка скокнула праз плот і паджгала ў блізкі лес.

З таго дня цётка ўжо не адлежвала бакі, усе хваробы з яе выгнала лясная госця — рысь.

## ЧОРТ

Раней я часта лавіў рыбу на жыўца, ці на строжні, як у нас кажуць. Строжні — гэта рагулькі, на якія намотана жылка з усім астатнім начыннем. Аднойчы ўзяў цесцеву лодку і пакіраваў у бок могліц. Думаў спыніцца на плёсе і накідаць там строжняў. Я з маленства люблю·

Вытокі

# ЗБЕРАЖОНАЯ ЛЮБОЎ

## ПРА ФЕСТЫВАЛЬ, І НЕ ТОЛЬКІ

***Вечар. Заняткі, лічы, скончыліся, але вучылішча не змаўкае да позняга часу. З класаў чуваць звонкі голас трубы, пасажы фартэпіяна, гукі скрыпкі. У камернай зале — урок па фальклоры, хаця звычайнай размовы ці лекцыі не чуваць. Хутчэй гэта рэпетыцыя фальклорнага ансамбля Маладзечанскага музычнага вучылішча. Сёлета ў студзені нечакана для саміх вучняў ды іхняга настаўніка — Зоі Русель — на конкурсе-фестывалі дзіцячых і юнацкіх калектываў у Маскве яны атрымалі дыплом першай ступені. Для сціплай навучальнай установы такі поспех — не вельмі частая з'ява.***

**— Зоя Францаўна, як далася перамога, як пачуваліся, даведаўшыся пра рашэнне журы?**

— Спачатку адчулі неспадзяванае ўзрушэнне, потым вялікую радасць. А ехалі ў Маскву мы, спадзеючыся на тое, што свет не без добрых людзей, а казак не без долі. Будзь што будзе. Сабралі ці не апошнія сілы і эмоцыі перад выступленнем са сваімі «Калядкамі». «Ваісціну, адвагаю і пекла пройдзеш», — дадаў тады нехта. Потым, вольныя, патрапілі на Красную плошчу і нечакана для сябе пачалі калядаваць, спяваць /было акурат свята Ражства Хрыстова/. Хутка вакол сабраліся людзі і зрабіліся не проста гледачамі, а ўдзельнікамі дзеяння, ішлі ў скокі, падпявалі песні. А нейкая бойкая дзяўчына нараўне са студэнтамі заспявала прыпеўкі і нават адну сходу склала пра ансамбль... Усцешна, што ў Маскве мы набылі гэтак неабходную нам падтрымку, калі вельмі вядомыя спецыялісты адзначылі ў нашым выступленні самабытнасць, уменне перадаць аўтэнтычнасць бытавання фальклору. Гэтае прызнанне надало нам сілы і ўпэўненасць. Адным словам, там добрая рада, дзе шчырая парада.

**— Што адкрывае ў будучым для вас гэты поспех?**

— Са шчасцем і ў грыбы добра хадзіць...

«Абы тавар — купец будзе», — падхапілі вучні адказ сваёй кіраўніцы. Гледзячы на знаёмыя твары, я думала, што не надта й часта яны свецяцца такой шчырай усмешкай, асабліва на ўроках, дзе ставяць адзнакі і на якія ісці не заўсёды хочацца. Што зробіш, іхні ўзрост імкнецца лепей жартаваць, чым гараваць. Можна было падзівіцца, як дасціпна студэнты здолелі ўплесці ў сваю гаворку мудрасць народную з прымаўкамі. Паведамілі таксама, што і песні на святах спяваюць не толькі сучасныя, якімі захапляюцца равеснікі: абавязкова ўспомняць і старадаўнюю, што вывучылі на ўроках па фальклоры.

Потым у размове з З.Русель высветлілася, што фестываль быў арганізаваны цэнтрам народных традыцый «Россия» і Нацыянальным Фондам Садзейнічання ЮНЕСКА. Узрост удзельнікаў ад 14 да 20 гадоў. Конкурс праводзіўся па 4-х жанрах: фальклорныя ансамблі, ансамблі песні і танца, аркестры ды ансамблі народных інструментаў і харэаграфічныя калектывы. У кожным жанры прысуджаліся дыпломы І-й, 2-й і 3-й ступені. Уладальнікі дыпломаў 1-й, 2-й ступені ўдзельнічалі ў заключным гала-канцэрце на сцэне вядомай залы «Россия». А праходзіў конкурс у Маскоўскім тэатры юнага гледача і ацэньваўся высокапрафесійным журы: старшыня — В.Усцінава, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору імя Пятніцкага; намеснік — М.Калінін, мастацкі кіраўнік Акадэмічнага рускага народнага аркестра імя Осіпава. У складзе журы былі вядомыя фалькларысты Маскоўскай кансерваторыі і Музычнай акадэміі імя Гнесіных.

**— А як вы трапілі на конкурс?**

— Даведаліся выпадкова з аб'явы па тэлепраграме «Астанкіна». Захацелася новых уражанняў. І — выпрабаваць сябе. Беднаму часам і астрогу не боязна. Беларусаў добра сустракалі. З гэтага года фестываль выйшаў за рамкі ўсерасійскага, запрашаліся калектывы з блізкага замежжа: Украіна, Беларусь. Тры дні, якія мы былі там, тэрмін невялікі, але ж госць як госць, а валакіты досыць. На жаль, убачыць іншыя выступленні не ўдалося: конкурс праходзіў пры зачыненых дзвярах. Вядома, шкада, што пакуль ні ў Міністэрстве культуры, ні ў Саюзе музычных дзеячаў Беларусі, ні ў абласных і раённых упраўленнях культуры не ўзнікла такая ідэя, як у Расіі, — правесці свой аналагічны фестываль, каб выявіць маладыя сілы, асабліва ў традыцыйным фальклоры як значнай частцы нашай нацыянальнай культуры.

Можа, маленькаму беларускаму ансамблю і пашанцавала, што маладзечанцы проста самі паехалі «ў Маскву па песні» і не давялося прабівацца праз бюракратычныя заслоны? Наогул, даследчыкамі аўтэнтычнага фальклору адзначаюцца тры законы яго існавання: самаарганізацыя, самарэгуляцыя і самакіраванне. Калі ж дбаць пра яго захаванне, то не абысціся без арганізаванай падтрымкі. Адзін з яе відаў — ансамблі, скіраваныя на сур'ёзнае вывучэнне народнай традыцыі. У той самы час, калі газеты пішуць аб праблемах моладзі, пра адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці і культуры, З.Русель і такія ж, як яна, энтузіясты знаходзяць і ўжо знайшлі выйсце. Гэта шлях канкрэтных спраў і практычных дзеянняў, а не размоў і дэкларацый. Бо наша ганарлівасць, як хвароба, не дае паўнацэнна жыць. Вось калі забяспечыць большую падтрымку дзіцячым і юнацкім калектывам, студыям, гурткам, фестывалям — загучыць слова бацькоўскае і пальецца песня родная. Можа, тады не спатрэбяцца нежыццяздольныя ўказы аб тым, каб перавесці ў



*На здымку: ансамбль «Калядкі»*

# «ПАГАНСТВА ЦІ ХРЫСЦІЯНСТВА?»

## СПЕКТАКЛЬ «ЗВОН — НЕ МАЛІТВА» НА СЦЭНЕ ТЭАТРА ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Як і ўсялякі народ, беларусы маюць патрэбу ў міфалагізацыі сваёй гісторыі. Для адчування нацыянальнай паўнаважкасці, пачуцця ўласнага гонару неабходна трымаць у запасе ідэалізаваных напалову гістарычных, напалову легендарных Герояў, у народнай памяці прыхаваных, а таксама комплекс трагічных і меладраматычных сюжэтаў, з імі звязаных. Кожная нацыя жадае мець сваю Марыю Антуанету, Д'Артаньяна, князя Ігара, Макбета, Рычарда III. На стварэнне такога міфалагізаванага пантэона працуюць гісторыкі, літаратары, музыканты, драматургі. Чым больш таленавіта мастацтвам будуць апрацаваны легендарныя сюжэты, тым больш у іх шанцаў стаць здабыткам і іншых народаў.

Наша мастацкая міфалагізацыя гісторыі толькі пачынаецца. У культуры паступова вызначаюцца ўстойлівыя імёны: Ефрасіння Полацкая, Рагнеда, Францішак Скарына, М. Гусоўскі, К. Каліноўскі і іншыя. Часцей менавіта імёны, а не сюжэты. Мастацтва займаецца, галоўным чынам, стварэннем гераізаванай галерэі партрэтаў дзеячаў беларускай гісторыі, даследаваннем іх дзейнасці, укладу ў нацыянальную скарбніцу і не вельмі клапоціцца аб стварэнні небанальнай «драматургіі» іх жыцця. Справа не столькі ў нежаданні карыстацца інтрыгай. Размова, хутчэй, аб адсутнасці іншага, не эпічнага, а драматычнага погляду на жыццё. Можа, час да канфліктнага погляду яшчэ не надышоў?

Мусіць, найбольш «сюжэтны» абрыс для нас сёння мае Рагнеда: за яе імем адразу паўстае не толькі ідэя патрыятычнай адданасці зямлі продкаў, але і няўдалая спроба забойства князя Уладзіміра, размашыстыя пераходы князёўны ад бескампраміснага паганства да манаства. Невыпадкова Рагнеда зрабілася галоўнай гераіняй спектакля «Звон — не малітва» па п'есе І. Чыгрынава на сцэне тэатра імя Янкі Купалы.

Гістарычны спектакль — найбольш моцны сродак у справе міфалагізацыі гісторыі, таму што прызначаны шырокай аўдыторыі і адкрывае мінулае ў жывых малюнках. Іншая гаворка, што, ствараючы манументальныя сцэнічныя палотны, іх аўтары не заўсёды ўлічваюць скіраванасць глядацкага ўспрымання менавіта на драматычны сюжэт. Гістарычны спектакль на нашай сцэне зазвычай арыентуецца на стварэнне статычнага эпічнага вобраза героя на нейкім абагульненым фоне, які толькі падкрэслівае значэнне яго дзейнасці, а не на развітую інтрыгу.

Спектакль купалаўскага тэатра «Звон — не малітва» цікавы тым, што ў ім ёсць спроба адлюстраваць мінулае ў яркім сюжэце.

Рагнеда жыла ў скрутную часіну, якую перыядычна перажываюць людзі. Тая часіна сваёй нестабільнасцю нагадвае дзень сённяшні. Рагнеда на ўласным лёсе зведала злом свядомасці, знішчэнне традыцыйных каштоўнасцей /паганская вера бацькоў адрынута, а новая рэлігія Хрыста навязваецца палітыкамі зверху/. Мо таму праз тысячагоддзе асабліва прыцягвае позірк сваіх нашчадкаў?

Але Рагнеда, якая паўстае на сцэне, аніяк не суадносіцца з нашым існаваннем. У яе душы няма характэрных для сучаснага чалавека пераломнага часу ваганняў, няўстойлівасці; гэта цэльная гераіня. Таму размова ў спектаклі «Звон — не малітва», які створаны рэжысёрамі В. Раеўскім і Г. Давыдзькам, не пра сучасны стан душы і наогул не пра сучаснага чалавека, а пра ідэальнага героя нацыянальнага пантэона.

Калі прыгадаць вядомую думку аб тым, што жывая гісторыя — гэта не рух у далячынь стагоддзяў, а набліжэнне мінуўшыны да сучаснасці, знішчэнне мяжы паміж мінулым і рэчаіснасцю, то ў дачыненні да спектакля купалаўцаў гэтая мяжа, наадварот, устанаўліваецца. Зрэшты, тэатр неяк хістаецца: вобраз часу 10-га стагоддзя відавочна суадносіцца аўтарамі спектакля з сённяшнім днём, а вось трактоўка герояў падпарадкоўваецца іншым мэтам.

Паганства і хрысціянства — дзве сілы, між якіх заціснуты чалавек у пастаноўцы купалаўскага тэатра. Наша двухсэнсоўнае шараханне напрыканцы XX стагоддзя ад адраджэння беларускага фальклору, а з ім сумесна і элементаў паганства да хрысціянства і культуры хрысціянства — адбіліся на спектаклі, дастаткова двухсэнсоўным з погляду драматургіі і разумення «пераломнага» часу. Гаворка не пра адпаведнасць сцэнічнай версіі рэальным падзеям мінулага. Суадносіць праўду і мастацкі вымысел — справа гісторыкаў. Тэатр і драматург маюць права на ўласную трактоўку гістарычных падзей. Гаворка пра іншае. Тэатр услед за І. Чыгрынавым сам над сабой павесіў Дамоклаў меч выбару: ён процістаўляе дзве рэлігіі, але ніводнай не аддае перавагі. У інтэрпрэтацыі падзей аўтары спектакля нібыта не могуць выбраць, на бок якой веры паўстаць: народнай паганскай, спрадвечна беларускай ці хрысціянскай, прывезенай з Візантыі і Кіева.

Па-свойму мае рацыю Рагнеда, якая сцвярджае, што нельга забываць сваіх старых бацькоўскіх багоў. Па-свойму маюць рацыю Ізяслаў і Уладзімір, якія спадзяюцца, што з надыходам хрысціянства гісторыя зменіць свой крывава-чырвоны плашч... Кан'юнктура сённяшняга часу таксама двухсэнсоўная: беларускае Адраджэнне быццам бы мае на ўвазе вяртанне паганскіх культаў, абрадаў, багоў; тысячагоддзе хрысціянства на Беларусі, пакуты ў гады савецкай улады патрабуюць сцвярджэння і замацавання ўласных каштоўнасцей.

Але такі асцярожны, нявызначаны погляд аўтараў спектакля на гісторыю магчыма было б разглядаць як пазіцыю, калі б у спектаклі ішла гаворка пра пераацэнку маральных каштоўнасцей, пра набыццё новага стану чалавекам. Спектакль жа купалаўцаў зыходзіць з традыцыйнага для славянскага этнасу недаверу да чалавека, як вышэйшай каштоўнасці, і працяты славянскай марай аб веры. Без яе не мысліцца існаванне чалавека і народа. Як гаворыць у спектаклі Рагнеда, менавіта вера адрознівае чалавека ад жывёлы...

Падпарадкоўваючыся гэтаму покліччу традыцыі, мы і сёння марым пра нейкую агульную ідэю, адзіную веру, што напрыканцы XX стагоддзя выдае на ўтопію.

У спектаклі процістаўляюцца два лады жыцця, дзве веры. З аднаго боку — экзатычныя лахманы ведуна, начны, няпэўны кудзебны паўшэпт, варажба, паганскія пакрыёмствы на фоне шкуры мядзведзя; з другога — аблічча Маткі Боскай, белае і чорнае адзенне хрысціян і чысты гук званоў праваслаўных храмаў.

Сцэнічная сімволіка начной цемры — дзённага святла, драўлянага руна і іконы выглядае пэўным чынам лапідарна, таму што супрацьстаянне гэтае, хутчэй, дэкаратыўнае. І Пярун, што падымаецца з-пад зямлі ў вэлюме, кадзіва пад рытуальныя скокі, і новы Бог — разам патрабуюць ахвяраў, і нічога не скранаюць у людзях. Сутнасць народа, сутнасць чалавека застаецца нязменнай: Ізяслаў /Ю. Пацына/ прымае новую веру з палітычных меркаванняў, таксама як і яго славуты, жорсткі і разважлівы бацька Уладзімір Кіеўскі /В. Белахвосцік/.

Рэлігіі процістаўлены сваёй арнаментальнасцю, экзатычным антуражам. Таму з такой сур'ёзнай рытуальнай захопленасцю разыгрываюцца ў спектаклі эмацыянальна

адначассе навучальныя ўстановы на беларускую мову. Дарэчы, не надрукаваўшы падручнікаў і метадычнай літаратуры, нават не ўключыўшы беларускую мову для вывучэння ў вучэбныя планы I курса музычнага вучылішча...

Канечне, можна прымусіць вывучыць мову. Ды толькі, можа, трэба змяніць тактыку? Выклікаць схаваную, збержоную генетычна ў людзях павагу і любоў да сваёй шматпакутнай гісторыі і духоўнай спадчыны. Каб прывабіла песня хараством, слова — выразнасцю, а прымаўка — розумам.

**— Але вернемся да спраў ансамбля. Немалаважнае для іх ажыццяўлення — грошы. Як, напрыклад, фінансавалася паездка?**

— Калі б не дапамога нашага дырэктара Р.Сарокі /ён вылучыў сродкі з агульнага бюджэту вучылішча/, студэнцкай стыпендыі нам бы не хапіла, — падкрэслівае З.Русель. — Дзе б мы шукалі якіх спонсараў? Яны ў нас даюць нядружныя ўсходы. Каб стаць Мамантавым ці Марозавым, трэба, апроч грошай, мець багаты асабовы свет, непакоіцца не толькі за сябе. А гэта пакуль што «не па кішэні» многім прадпрымальнікам. Аднак, пераняўшы вопыт германскага горада-пабраціма Эслінгена, гарадская ўлада Маладзечна падаравала мільён музычнаму вучылішчу. За што вялікае дзякуй. Шкада толькі, што аднаго мільёна надоўга не хопіць.

**— Ансамбль набыў ужо немалы вопыт. Не так даўно адзначыў 10-годдзе. Зразумела, што поспех — не выпадковасць...**

— Вядома, лягчэй карыстацца гатовай методыкай. Такой у мяне не было. Распрацоўвала ўсё сама. Спачатку арыенцірам для мяне быў ансамбль Д.Пакроўскага. Назапасіліся сцэнарыі: «Калядкі», «Вяснянкі», «Валачобныя», «Вячоркі», «Вяселле» і інш. У асноўным усё на мясцовым фальклорным матэрыяле. Практычная форма заняткаў мне здалася самай прымальнай для факультатыву «Фальклор», адзначанага ў новых навучальных планах. Хацелася, каб гэта быў не спосаб навучання, а самастойная творчасць студэнтаў. Сёлета нашы выпускнікі аддзялення «Тэорыя музыкі» рыхтавалі свае фальклорныя праграмы да дзяржаўнага экзамена, які праводзіўся ўпершыню. Плануецца прысваенне ім кваліфікацыі «кіраўнік ансамбля народнай музыкі». Спадзяюся, што некаторыя з іх прадоўжаць нашу агульную справу ўжо на прафесійнай аснове.

**— Вы перадаяце традыцыі сваім вучням. А вам ад каго яны дасталіся?**

— Вытокі — у маёй роднай вёсцы Шутавічы, дзе я вырасла. Таксама ў нашым сямейным ансамблі Шутовічаў. Фальклорны ансамбль, які я са сваёй маці стварыла там яшчэ ў пачатку 60-х гадоў, існуе і цяпер. Калі бываю ў вёсцы — спяваю з мясцовымі жанчынамі. Была яшчэ адна асоба, якой я буду ўдзячная ўсё жыццё: Лідзія Саулаўна Мухарынская. Інтэлігентнейшы, высокаадукаваны чалавек. Яе ведалі і за межамі Беларусі як выдатнага навукоўца-фалькларыста. Помніцца, калі я прыйшла да яе на заняткі /я тады вучылася ў кансерваторыі/ і пачала спяваць песні, твар яе засвяціўся, на вачах былі слёзы. Мяне гэта вельмі ўразіла і застанецца ў памяці на ўсё жыццё. Напэўна, вось гэтую шчырую любоў да беларускай песні павінна і я перадаць сваім вучням.

**— А ці былі ў вас цяжкасці пры стварэнні ансамбля?**

— Нават у родным вучылішчы спатрэбілася даказваць права такога ансамбля на існаванне. Былі і ёсць праблемы з інструментальнай групай. Доўгі час не мелі сваіх касцюмаў /на выступленні пазычалі, дзе маглі/, ніякай фінансавай падтрымкі. Выкладчыкі харавога і вакальнага аддзяленняў баяліся, што іх студэнтам парушаць акадэмічную пастаноўку голасу. Даводзілася выслухоўваць і крыўдныя дакоры: «Вы ж не ансамбль Надзеі Бабкінай». /Дарэчы, знакаміты ансамбль рускай песні, як і камерны хор У.Мініна, Квартэт імя Бетховена, калісьці пачынаўся са студэнцкай лавы/. Для мяне вельмі жаданым было разуменне маёй справы. Прыкра было ўсведамляць, што адны пануюць, а другія гаруюць, пакуль не зразумела, што памочнікаў і аднадумцаў трэба шукаць самой. Таму ў апошні час і ёсць невялікая падтрымка ад некаторых калег і адміністрацыі вучылішча.

**— Як вы сумяшчаеце мэту навучання і праблему захавання традыцыйнага фальклору?**

— У нашых умовах, калі склад ансамбля пастаянна абнаўляецца /пакідаюць выпускнікі, прыходзіць першы курс/, сцэнарый — гэта як сямейная традыцыя, што складвалася стагоддзямі і якую асвойвалі людзі, пражываючы жыццё. Мы асвойваем сцэнарый за некалькі ўрокаў, як навучальную дысцыпліну. Аднак потым кожны можа імправізаваць, праявіць свае магчымасці, сваю прыроду і характар. Цікава назіраць, як, захапляючыся, студэнты паступова ўжываюцца ў дзеянне, як бы прымерваючы яго да сябе, а потым і адчуваюць сваім. Асабліва гэта відавочна ў час канцэртных выступленняў. Працэс гэты нагадвае спосаб існавання фальклору ў натуральных жыццёвых умовах. Можа, і спадабаўся наш ансамбль на конкурсе ў Маскве за тое, што сцэнічныя «Калядкі» не выглядалі штучнымі, не былі мадэрнізацыяй народных традыцый, якую часта назіраеш у калектывах мастацкай самадзейнасці.

Хвала, канешне, тым бабулькам, што дасталі з куфраў свае старыя строі ды данеслі да нас песні мінулага. Толькі ж усе звонкія святы раней правіла моладзь, а старыя і сталыя толькі дапамагалі ды падпявалі і не надта каб ішлі ў скокі. Калі ў тэлевізійных «Вячорках» глядзіш абрад зборнай суботы, чыста дзявочы, а замест юных сяброўак маладой бачыш старых бабуль, то неяк робіцца прыкра і крыўдна: чаму ж наша моладзь гэтага не ведае? Але зараз крыху павінны суцешыцца сэрцы тых, хто хварэе за зберажэнне музычнага беларускага фальклору, бо ёсць моладзь, якая пераймае традыцыі, пачынае любіць і адчуваць іх неабходнасць у сваім жыцці. Аднымі словамі любоў да роднае культуры моладзі не прышчэпіш. Ды маладыя цяпер мала словам давяраюць. А як адчуюць цягу сваёй душы, так і застануцца ў ансамблі без прымусу.

Зразумела, што жыццё і творчасць Зоі Русель ды ейнага ансамбля выходзяць на праблемы, важныя для многіх. Фальклор быў узведзены ў статус раўнапраўнай часткі агульнай культуры ці не на пачатку мінулага стагоддзя. Для нашага часу характэрныя розныя ўзроўні звароту да яго. Гэта і «грозная» хваля своеасаблівай моды на стварэнне калектываў народнай музыкі рознай якасці і сутнасці. Гэта ўсё больш глыбокія даследчыя працы разгалінаваных напрамкаў: музычна-тэарэтычныя, этнаграфічныя, сацыялагічныя і г.д.

Але сёння ўзнікла яшчэ адна вострая неабходнасць, акрамя захаплення знешняй экзотыкай фальклору і глыбінным вывучэннем яго невялікай колькасцю інтэлектуалаў-даследчыкаў. І гэтая вострая неабходнасць датычыць кожнага з нас, бо знітаваная з жаданнем адраджэння духоўнасці ў нашым хворым грамадстве. Патрэбна маральнае асэнсаванне духоўнай спадчыны. Наноў адкрыць у зместах песень, у абрадах і святах, казках і прымаўках асновы народнай педагогікі, этыкет, ацэнку дабрыні і злачынства, смех з глупства і павагу да мудрасці. Пазбавіцца ад фальшу. У гісторыі нашай скарыстаць вопыт памылак, у летапісах старадаўніх знайсці ісціну таго, што ў цяжкія гадзіны людзі ядналіся, дапамагаючы адно аднаму, каб выжыць. Як усё проста! І як складана...

**Наталля КУЛІКОВА**

*г.Маладзечна*

---

моцныя сцэны паганскіх скокаў, ахвяраванне Анэі /І. Паплаўская/, якая пакорліва і бяссільна ў апошні раз узмахнула тонкімі рукамі і правалілася пад зямлю ў абдымках драўлянага Бога. Таму так строга-ўрачыста зроблена пасвячэнне Ізяслава...

Кульмінацыяй дзейства паводле задумы пастаноўшчыкаў, напэўна, павінна была зрабіцца эфектная сцэна, дзе смяротна паранены хрысціянскі пастыр /Ф. Варанецкі/ падае на шкуру мядзведзя і сцягвае яе цяжарам цела, адкрывае за ёй лік Боскай Маткі. Але пафас «выпакутаванага хрысціянства» набывае дэкаратыўнае адценне...

Магчыма, варта было б угледзецца, паспрабаваць зразумець, як магло хрысціянства прыжыцца на полацкай зямлі, зрабіцца не палітычным адзеннем, а натуральным духоўным асяроддзем славян. Праз вобраз Рагнеды, напрыклад. Дзве выканаўцы гэтай ролі — А. Ельяшэвіч і Л. Давідовіч — спавядаюць адзін аскетычны малюнак ролі. Рагнеда купалаўцаў ніколі не плакала, але ніколі і не ўсміхалася. Строгі, нібы застылы ў масцы журбы і самаадрачэння яе твар, павольнасць рухаў, статуарная пластыка — усё нагадвае ажыўшую св. Марыю. Унутраны свет гэтай жанчыны нібы застыў у часе. Гаркота страт, помста, любоў да зямлі продкаў — усё адбілася на сурова-ганарлівай масцы твару. Але яе аскетычнасць, самаахвярнасць, адданасць ідэі, у дадзеным выпадку — ідэі патрыятызму, дзеля якой самых блізкіх людзей не шкада, — духоўны масток да разумення фанатызму, мужнасці і стойкасці ранніх хрысціян. Гэта тыя душэўныя складнікі, якія потым прывядуць непрымірымую князёўну ў манастыр, пра што ў спектаклі наогул няма гаворкі. Сцэнічная нітачка вобразнай сувязі: раз'юшаная мядзведзіца, на якую палюе Ізяслаў, сімвал усяго цёмнага ў людзях, — Рагнеда-Боская Матка, — аказваецца чыста візуальнай думкай, не падмацаванай змястоўна і сцэнічна /мастак Б. Герлаван/. Рагнеда так і застаецца ў спектаклі застылым суровым партрэтам халаднаватай і помслівай князёўны.

Куды важней для пастаноўкі вобраз «раскрыжаванага», распятага ў розныя бакі чалавека смутнага часу. Фон «паганскіх» сцэн — распятая на вяроўках шкура мядзведзя. Фон хрысціянскіх сцэн — такі ж расцягнуты лік Боскай Маткі. І тое і другое — сімвал чалавечай душы, якую рвуць на кавалкі ды цягнуць у розныя бакі. Але галоўныя героі — Рагнеда, Ізяслаў, Анэя, Уладзімір — цэльныя, не ўтрапёныя людзі. Таму гэты візуальны сімвал зноў-такі мае дачыненне толькі да нас з вамі, гледачоў, суадносіцца з нашай свядомасцю.

У спектаклі «Звон — не малітва» няма адкрыццяў у галіне сучаснага пражыцця гісторыі, няма сітуацыі «духу на ростанях». Тэатр нібы страшыцца пакінуць чалавека сам-насам, хоць такую магчымасць дае кожнаму скрутная часіна. Больш за тое, і сцэнічная мова яго, з выкарыстаннем бэлек, вяровак, шкур, ледзь рытуалізаваных мізансцэн — не новая. Мы сустракалі падобнае рэчавае асяроддзе ў спектаклях паводле Распуціна, Шэкспіра, «дэтэктыву каменнага веку» Валодзіна. Паэтыка яго традыцыйная для тэатра апошняга дзесяцігоддзя. Нават эфектнае з'яўленне абліčча Маткі Боскай у сцэне забойства святара — у нейкім сэнсе чакалася, таму што пазначкай спектакляў Б. Герлавана нярэдка выступае нейкая адна моцная нечаканая сцэнаграфічная трансфармацыя — ці то разлом дому ў «Страсцях па Аўдзею», ці высвечаныя фотастужкі ў «Радавых».

І ўсё-такі «Звон — не малітва» глядзіцца амаль на адным дыханні. У ім адчуваецца высокая сцэнічная культура, чысціня стылю. Галоўнае, што трымае ўвагу гледачоў — гэта не разважанні аб гісторыі, хрысціянстве, пераломным часе, а яркі, захапляючы сюжэт, інтрыга, амаль меладраматычныя павароты дзеяння: Ізяслаў і Анэя кахаюць адно аднаго, але іх хочуць разлучыць, Анэю — выбіраючы ў ахвяру Перуну, а сына Рагнеды — выпраўляючы да бацькі ў Кіеў. На жаль, драматургічна ўсе лініі п'есы не сцягнуты да гэтага асноўнага сюжэта, а ў другім акце аб ім наогул забываюцца. Гледацкая ўвага рассейваецца па дробязях, а палітычныя размовы грэзнуць у чаканні... кінутай развязкі.

У спектаклі ёсць такія цудоўныя сцэны, як спатканне закаханых Анэі і Ізяслава /у ролях дэбютавалі выпускнікі Беларускай Акадэміі мастацтваў/. Тонкая пачуццёвасць і першае каханне з яго абвостраным перажываннем кожнага імгнення перадаецца не банальна, а, скажам, як лёгкае дакрананне доўгіх валасоў Анэі, якая гушкаецца на арэлях, да грудзей Ізяслава. Пацалунак у спектаклі — цэлая гама перажыванняў, увасобленых пластычна: Ізяслаў «узлятае» па канаце і павольна спускаецца галавой долу да Анэі, як бы пазбаўлены цялеснасці, а Анэю, нібы ў сне, сама зямля перакочвае насустрач каханаму. Эмацыянальныя токі гэтай мізансцэны перадаюць хвалі, летуценні, адчуванні, ваганні пачуццяў, а не стандартныя абдымкі ды пацалункі.

Ізяслаў — Пацына — перадусім воін і паляўнічы, які цудоўна валодае сваім целам; што да душэўнай рухомасці, то, магчыма, не яго віна, што «драматургія» яго пераходу ад веры бацькоў да чужой рэлігіі не вельмі абгрунтавана і нічога не змяняе ў вобразе здрадзіўшага маці княжыча-паляўнічага. Анэя — Паплаўская запомнілася сваёй ломкасцю, безабароннасцю, чысцінёй, нейкай дзіцячай адданасцю, нават ахвярнасцю ці то ў каханні — да Ізяслава, ці то ў паслухмянасці жорстка разважліваму Холаду /М. Кірычэнка/.

Фінал спектакля, напэўна, задумваўся як заканчэнне сімвалічнага палявання Ізяслава на мядзведзіцу: маўляў, ці ж магчыма знішчыць усё цёмнае, страшнае, раз'юшанае ў людзях. Але тое, што ён выракся ідэі матчынай помсты і веры, неяк не стасуецца з вобразам Героя. Героя з яго не атрымліваецца. Фінальныя сцэны эмацыянальна не перакрываюць эпізод ахвяравання Анэі і таму застаюцца ў пэўнай пустаце.

Вопыт гістарычнага спектакля на сцэне тэатра Янкі Купалы, магчыма, не ва ўсім удаўся. Але ён, думаю, вельмі цікавы для гледачоў, і перспектыўны як нейкая ступень у новым для тэатра кірунку. Чамусьці за французскім, ці ангельскім «гістарычным раманам», «гістарычнай драмай» /А. Дзюма, В. Скот/ бачыцца нешта захапляючае, з неверагоднымі прыгодамі, моцнымі страсцямі, глыбокім роздумам аб жыцці. Для нас пакуль што гістарычны спектакль — гэта нешта пампезна-павучальнае і сумнае.

Як зрабіць, каб гісторыя была не толькі палітызаваным узорам для павучання і пераймання, а і неверагодна цікавым «востравам скарбаў»? Вядома, і ў нас тое-сёе робіцца, і ёсць выключэнні — напрыклад, гістарычныя творы К. Тарасава, У. Арлова, некаторых іншых пісьменнікаў. «Звон — не малітва» — таксама сцэнічны крок у гэтым кірунку. Гэта асабліва важна, таму што гістарычная тэматыка сёння — найбольш распаўсюджаная.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

---

Асцярожна: кіч!

# ПАЎКРОКА ДА ПАРОДЫІ

Перш чым сёння наведацца ў кіно, трэба добранька падумаць. Надзейней за ўсё параіцца са знаёмымі ці пазваніць спецыялістам. Метадыстка аднаго са сталічных кінатэатраў, помню, развесялілася: не хочаце на штатаўскі з трыма зорачкамі, паглядзіце нашу камедыю. Праўда, яна таксама з элементамі эротыкі...

Ну, «элементы» не самае страшнае, вырашыла я і пайшла на «Чортавы лялькі» — фільм акцыянернага таварыства «ВИТТ», створаны, як прынята казаць, на базе кінастудыі «Беларусьфільм».

Мясцовае рэкламнае выданне «На экранах Беларусі» /N 4/ без ценю ўсмешкі распавядае пра вартасці гэтай «захапляючай вострасюжэтнай стужкі», якую паставіў рэжысёр Ю. Рыбчонак. Мне ж давялося пашкадаваць пра дарма патрачаны час: «наш» камедыйны баявік аказаўся бессаромнай падробкай пад «іх» не лепшую кінапрадукцыю. Пры жаданні і пэўнай карэкціроўцы з яго магла б атрымацца неблагая пародыя. Л. Кураўлёў, дарэчы, пародыю і іграе. Усе астатнія акцёры — хто што ўздумае, у выніку чаго галоўнай гераіняй фільма стала Пані Эклектыка.

А сюжэт стужкі такі. Сем прыгажунь з усіх куткоў свету аб'ядноўваюцца, каб знішчыць банк Клоцвіда. Зусім не банкноты іх спакушаюць: у банку захоўваецца «біялагічны матэрыял» лепшых мужоў сучаснасці. Дачка мільянера з Афін ні з кім не жадае дзяліць свайго жаніха, перспектыўнага вучонага Жана-Люка Вержэ, і таму пускаецца ў авантуру. Кампанія падбіраецца што трэба: руская спартсменка-парашутыстка /ветрам занесла/, «жрыца кахання» з Італіі /выратавалі ад суцэнёра/, кітаянка, паклонніца Бруса Лі /сама прыбілася/, спявачка з Сінгапура /прымусілі/ і г. д.

Уся інтэрнацыянальная тусоўка лёгка знайшла агульную мову — як у прамым, так і ў пераносным сэнсе — ды бравіруе рускім блатным слэнгам /толькі песні па-англійску — для праўдападобнасці/. Апрабаваныя камедыйныя сродкі, накшталт падзенняў у люк ці ў ваду, трошкі эротыкі ў якасці «вабіка», пагоні, прыёмы кунг-фу — нічога, здаецца, не ўпушчана са звыклага арсеналу амерыканскай кінаіндустрыі. Са свету па нітцы — беднаму кашуля...

І такі вось характэрны дыялог напрыканцы. Адна з «лялек» пытаецца ў тоўстага дзядзечкі з СССР:

— А вы будзеце сумаваць па радзіме?

— А пайшла яна!.. — красамоўна адмахваецца закаханы пан-спартсмен. Сатыра гэта на сучасныя норавы ці проста гумар па-савецку — я так, прызнацца, і не зразумела.

Праўда, «Беларусьфільм» зрабіў прагрэсіўны крок у сэнсе выкарыстання беларускіх артыстаў. /І «на базе» да чаго-небудзь абавязвае!/ Купалаўцы, спадобіўшыся ўвагі, пайшлі стужцы толькі на карысць: уражвае Т. Пузіноўская, удала патрапляе ў тыпаж М. Кірычэнка...

Мне не давялося бачыць папярэдніх фільмаў таварыства «ВИТТ». Дапускаю, што іх узроўню пазайздросціць сам Феліні. Але што да «Чортавых лялек», то ў іх, на мой погляд, гарманічна паяднаны поўная мастацкая бездапаможнасць з чыста кан'юнктурным разлікам «пацэліць у яблычак». Лепей бы не «стралялі», далібог...

**Г. ЗІНКЕВІЧ**

---

# НАШ КАЛЯНДАР

70 гадоў Людміле ГАНЕСТАВАЙ, заслужанай артысткі рэспублікі. Пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі працавала артысткай хору Белтэлерадыё, затым, да 1980 г., — салісткай ДАВТа. Аматары оперы ведалі яе як стваральніцу шэрагу драматычных і трагедыйных вобразаў, сярод якіх Марыся ў «Міхасі Падгорным» Я.Цікоцкага, Наташа ў «Русалцы» А.Даргамыжскага, Маргарыта ў «Фаўсце» Ш.Гуно і інш.

●

Мікалаю КРАСОЎСКАМУ — 60. Саліст балета і педагог, заслужаны артыст рэспублікі, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу артыстаў балета, ён увасобіў на сцэне ДАВТа партыі Мікалая, Князя /«Мара» і «Выбранніца» Я.Глебава/, Спартака /аднайменны балет А.Хачатурана/, Цібальда /«Рамэа і Джульета» С.Пракоф'ева/, Прынца /«Лебядзінае возера» П.Чайкоўскага/ і інш. Арганізатар і мастацкі кіраўнік Мінскага народнага эстрадна-харэаграфічнага ансамбля «Чараўніцы».

●

З дня нараджэння Міколы ШЫШКІНА — 75 гадоў. Спявак і артыст эстрады, заслужаны артыст рэспублікі, у свой час быў папулярны як аўтар і выканаўца надзённых мініяцюр, фельетонаў, гумарыстычных апавяданняў, куплетаў і рэпрыз. Выступаў у друку па праблемах эстраднага мастацтва на Беларусі.

*У першыя пасляваенныя гады праблема бежанцаў і перамешчаных асоб набыла для Савецкага Саюза вялікае сацыяльна-эканамічнае, палітыка-ідэалагічнае і прапагандысцкае значэнне. Гаворка ішла аб вяртанні на радзіму каля 7 млн. савецкіх грамадзян, прымусова вывезеных гітлераўцамі з СССР ці добраахвотна пакінуўшых тэрыторыю краіны пад страхам пакарання за вольнае ці нявольнае супрацоўніцтва з нямецка-фашысцкім акупацыйным рэжымам, а таксама па іншых палітычных, ідэалагічных, рэлігійных і асабістых матывах. К канцу другой сусветнай вайны большая частка гэтых людзей знаходзілася на тэрыторыі Нямеччыны і Аўстрыі.*

*Савецкі ўрад быў вельмі зацікаўлены ў тым, каб рэпатрыіраваць мільёны сваіх грамадзян і ўключыць гэтую масу працаздольнага насельніцтва ў працэс пасляваеннага адраджэння. Акрамя гэтых эканамічных і нават меркантыльных прычын сталінскі рэжым меў на ўвазе таксама міжнародныя палітыка-ідэалагічныя меркаванні на карысць як мага хутчэйшай і больш поўнай рэпатрыяцыі сваіх «падданых». Пад маскай «добраахвотнага» вяртання савецкіх людзей у «камуністычны рай» сталінскае кіраўніцтва жадала набыць сабе ў свеце вобраз дэмакратычнага і гуманнага ўрада, пад апеку якога быццам бы жадаюць з усіх сіл вярнуцца добрасумленныя грамадзяне, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. Вось такім чынам, цынічна і крывадушна, таталітарная сістэма выкарыстоўвала любоў кожнага чалавека да сваёй Бацькаўшчыны, яго свяшчэннае права жыць на роднай зямлі.*

# СТАЛІН І РЭПАТРЫЯНТЫ

## ГІСТОРЫЯ ВЯРТАННЯ САВЕЦКІХ ЛЮДЗЕЙ ДА «КАМУНІСТЫЧНАГА РАЮ»

Пры дапамозе розных сродкаў — абяцанак і пагроз, хлусні і прымусу — сталінскі рэжым даволі паспяхова ажыццяўляў рэпатрыяцыю. У савецкай зоне акупацыі ў Нямеччыне савецкія органы асаблівых клопатаў з ёю не мелі. Пасля пэўнай фільтрацыі, якая павінна была выявіць здраднікаў, што супрацоўнічалі з гітлераўцамі, людзей адпраўлялі ў Саюз. Складаней вырашаліся справы ў лагерах для бежанцаў і перамешчаных асоб у зонах акупацыі заходніх саюзнікаў, якія былі арганізаваны ЮНРА /Адміністрацыяй дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый/, дзе людзі забяспечваліся харчаваннем, прытулкам, вопраткай, медыцынскім абслугоўваннем. Савецкія рэпатрыяцыйныя місіі, якія фарміраваліся за кошт супрацоўнікаў дзяржбяспекі, наведвалі гэтыя лагеры разам з супрацоўнікамі ЮНРА і прасілі ўсіх савецкіх грамадзян вяртацца ў СССР. Было шмат прыкладаў, калі бежанцы насуперак уласнай волі накіроўваліся ў савецкія лагеры.

У выніку прымусовай і добраахвотнай рэпатрыяцыі к канцу 1946 г. на радзіму вярнулася 4 млн. 980 тыс, савецкіх грамадзян. З 380 тыс. грамадзян БССР, якія былі вывезены ў Нямеччыну, рэпатрыіравалася больш за 200 тыс. Да першага студзеня 1953 г. у СССР вярнулася з улікам папярэдняй лічбы 5,5 млн. савецкіх грамадзян. Тым не менш, значная колькасць тых, што апынуліся ў час вайны ў Нямеччыне, не пажадала рэпатрыіравацца. Таму Савецкі ўрад прыкладаў вялікія намаганні, каб пры дапамозе ААН і яе спецыялізаваных устаноў забяспечыць па магчымасці максімальнае вяртанне сваіх грамадзян.

Дыскусіі па праблемах бежанцаў і перамешчаных асоб набылі напружаны характар, пачынаючы з 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН /студзень—люты 1946 г./. Дэлегацыя СССР унесла праект рэзалюцыі па пытанні аб бежанцах, у якім Эканамічнаму і Сацыяльнаму Савету /ЭКАСАС/ рэкамендавалася пры распрацоўцы мерапрыемстваў па гэтым пытанні кіравацца наступнымі прынцыпамі: дапамагаць хутчэйшаму вяртанню бежанцаў на радзіму; бежанцам, не жадаючым вяртацца на радзіму, на новым месцы жыхарства можа быць аказана дапамога толькі са згоды ўрада той краіны, грамадзянамі якой яны з'яўляюцца; у лагерах для бежанцаў не дазваляць прапаганды супраць вяртання на радзіму; стварыць асобны міжнародны орган па справах бежанцаў. Відавочна, што гэтыя прынцыпы зыходзілі з пэўнага падыходу савецкага кіраўніцтва да праблемы бежанцаў: не дазваляць у лагерах «антырэпатрыяцыйнай» прапаганды. Менавіта так Савецкі Саюз разглядаў дзеянні адміністрацыі лагераў, бежанскіх арганізацый і заходніх сродкаў масавай інфармацыі, якія засцераглі жадаючых вярнуцца ў СССР, папярэджваючы аб тым, што на радзіме іх чакаюць не расрасцёртыя абдымкі Савецкай улады, а надзейная ізаляцыя і старанная праверка ў спецкантынгентах НКУС. Савецкі праект рэзалюцыі імкнуўся таксама пазбавіць неварачэнцаў усялякіх законных падстаў для жыхарства ў заходніх краінах і захаваць над імі юрысдыкцыю Савецкага ўрада.

Прадстаўнік ЗША ў Трэцім камітэце Э.Рузвельт /удава прэзідэнта Ф.Рузвельта/ прадставіла свой праект рэзалюцыі, які прадугледжваў наступнае: не прымушаць да вяртання на радзіму пры ўмове кансультацыі з зацікаўленымі ўрадамі; не процідзейнічаць выдачы і пакаранню ваенных злачынцаў. Э.Рузвельт сказала, што значная колькасць бежанцаў не жадае вяртацца дадому таму, што «разыходзіцца ў поглядах з урадамі», якія кіруюць у пэўных краінах. У выніку Генеральная Асамблея зацвердзіла рэзалюцыю, у аснову якой ляглі прапановы ЗША, але якая ўлічвала і пэўныя пазіцыі СССР.

У ходзе работы 2-й часткі 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі /верасень—снежань 1946 г./ дэлегацыя БССР выступіла з рэзкай крытыкай праекта Статута Міжнароднай арганізацыі па справах бежанцаў /IPO/, які, па яе думцы, не адпавядаў інтарэсам хутчэйшага і разумнага вырашэння праблемы бежанцаў. Савецкія дэлегацыі СССР, УССР і БССР выказаліся супраць палажэнняў праекта статута, згодна з якім IPO павінна была садзейнічаць перасяленню бежанцаў з краіны, якія не з'яўляліся краінамі іх паходжання. Беларускі дэлегат В.П.Смоляр заявіў, што брытанскія і амерыканскія акупацыйныя ўлады і іх урады парушаюць суверэнныя правы ўрадаў, грамадзянамі якіх з'яўляюцца бежанцы і перамешчаныя асобы. Беларуская дэлегацыя абараняла прапановы СССР да праекта Статута IPO, у якіх рэкамендавалася аказваць дапамогу па каналах IPO толькі тым асобам, што ўваходзілі ва ўзброеныя фарміраванні непрыяцеля, якія пажадаюць вярнуцца на радзіму. На справе гэта азначала тое, што, напрыклад, уласаўцы маглі атрымаць дапамогу ад IPO толькі ў тым выпадку, калі яны пажадаюць вярнуцца ў СССР, дзе іх разглядалі як здраднікаў і ваенных злачынцаў.

Такім чынам, пазіцыя «савецкага блоку» ў адносінах да стварэння спецыялізаванай арганізацыі па справах бежанцаў змянілася на працягу 1946 г.: калі на пачатку работы 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі ён выступаў за яе стварэнне, то потым — ужо супраць. Праблема бежанцаў стала адной з першых праблем, якія выклікалі на форуме ААН абвастрэнне адносін паміж былымі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі.

Супрацьлеглыя падыходы ўсходняга і заходняга блокаў да гэтага пытання выявіліся на 2-й сесіі Генеральнай Асамблеі /1947 г./. К гэтаму часу, як пісаў дзеяч беларускай эміграцыі А.Калубовіч, увесь свет убачыў жахлівы лёс невядомай дагэтуль у гісторыі прымусовай рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян, калі большая яе частка была выдадзена ўрадамі ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі ў рукі Сталіна. Тым не менш, савецкая дыпламатыя не пераставала сцвярджаць, што заходнія дзяржавы перашкаджаюць рэпатрыяцыі, прадстаўнік БССР Л.І.Камінскі, напрыклад, ацаніў як бяздоказныя выказванні Э.Рузвельт аб тым, што амаль усе перамешчаныя асобы, якіх налічвалася каля I млн. чалавек, не жадаюць вяртання на радзіму. Беларускі дэлегат назваў паклёпам тэзіс аб тым, што гэтыя асобы не жадаюць вяртацца па палітычных, рэлігійных і іншых перакананнях і што ўсе рэпатрыянты на радзіме праследуюцца. «Адзіны шлях выратаваць жыццё і здароўе гэтых людзей, абараніць іх правы — гэта вярнуць іх на радзіму», — патэтычна сцвярджаў Камінскі.

Беларуская дэлегацыя падтрымала праект рэзалюцыі СССР, які прадугледжваў спыненне вярбоўкі перамешчаных асоб для выкарыстання на работах у іншых краінах, «аздараўленне» абстаноўкі ў лагерах бежанцаў у акупацыйных зонах ЗША і Англіі, заахвочванне рэпатрыяцыі. Аднак ён быў заблакіраваны заходняй большасцю. Заходнія саюзнікі, іх урады і грамадскасць пераканаліся, што з боку Савецкага Саюза праводзіцца прымусовая рапэтрыяцыя. У пачатку 1947 г. спыніла сваю дзейнасць ЮНРА. Яе замяніла IPO, якую заснавалі заходнія дзяржавы і ў якой не было савецкіх прадстаўнікоў. Савецкія місіі перасталі наведваць лагеры бежанцаў, і прымусовая рэпатрыяцыя з боку СССР скончылася.

З праблемай бежанцаў было шчыльна звязана пытанне аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў. Адпаведная рэзалюцыя была прынята 13 лютага 1946 г. Генеральнай Асамблеяй ААН па ініцыятыве БССР. На 2-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя БССР патрабавала ад урадаў ЗША і Англіі выканання гэтай рэзалюцыі. Але ў выступленні беларускага прадстаўніка М.Ф.Дзячко было настолькі шмат эмоцыі і ярасных патрабаванняў адплаты ваенным злачынцам, наколькі не хапала строгай юрыдычнай аргументацыі. Таму прадстаўнік Вялікабрытаніі Х.Шоўкрос абвінаваціў дэлегацыю БССР у парушэнні існуючага парадка вядзення пасяджэнняў, у «партызанскіх метадах».

Дзячко на пленарным пасяджэнні Асамблеі 31 кастрычніка 1947 г. заявіў, што ўрад БССР мае спіс вялікай колькасці нямецка-фашысцкіх злачынцаў і іх памагатых, якія ўчынялі злачынствы на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Адзначалася, што пераважная іх большасць да цяперашняга часу не была адшукана і працягвае заставацца непакаранай. Частка з іх укрываецца ў лагерах для перамешчаных асоб, частка бесперашкодна жыве ў заходніх зонах Нямеччыны і Аўстрыі, дзе ствараюцца варожыя БССР арганізацыі. У іх ліку былі названы «Беларускі нацыянальны камітэт» у Мюнхене і «Беларускі камітэт» у Рэгенсбурзе. Дзячко паведаміў, што з дзейнасцю гэтых «камітэтаў» звязаны прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, «кат беларускага народа» Р.Астроўскі, а таксама члены БЦР Ф.Кушаль, А.Калубовіч, С.Станкевіч, І.Дашкевіч, якія пад заступніцтвам акупацыйных улад вядуць работу сярод перамешчаных асоб беларускай нацыянальнасці за невяртанне на радзіму.

Калі прадстаўнікі ЗША і Вялікабрытаніі патрабавалі прадставіць ім юрыдычныя доказы здзейсненых гэтымі і іншымі асобамі злачынстваў на тэрыторыі Беларусі, беларуская дэлегацыя не змагла прадставіць неабходныя дакументы. Акрамя спісу ваенных злачынцаў, аб якім неаднаразова казаў міністр замежных спраў БССР К.В.Кісялёў на міжнародных форумах і які ва ўстаноўленым парадку не быў перададзены заходнім дзяржавам, урад БССР не меў строга дакументаваных і аформленых адпаведна міжнароднаму праву доказаў учынення злачынстваў пэўнымі асобамі на тэрыторыі Беларусі. Невыпадкова, што ў якасці матыву адмовы ў выдачы ваенных злачынцаў улады ЗША і Вялікабрытаніі спасылаліся на недахоп доказаў вінаватасці той ці іншай асобы.

Што датычылася «Беларускага камітэта» ў Рэгенсбурзе, які ў заяве ўрада БССР ад 8 лютага 1947 г. быў названы «фашысцкім» і дзейнасць якога патрабаваў спыніць беларускі ўрад, то ён уяўляў сабой размешчаны ў амерыканскай зоне беларускі лагер для перамешчаных асоб. На нарадзе намеснікаў у Савеце міністраў замежных спраў СССР, ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі /люты 1947 г./ прадстаўнік ЗША Р.Мэрфі ў сувязі з упамінаннем «Беларускага камітэта» заявіў, што ён патрабуе спецыяльнага расследавання з мэтай пацвярджэння правільнасці думкі ўрада БССР аб тым, што там ёсць фашысцкія злачынцы. Мэрфі таксама падкрэсліў, што інфармацыя аб гэтым камітэце не была перададзена беларускімі ўладамі амерыканскаму боку. Яна не была перададзена ЗША і ў далейшым.

2-я сесія Генеральнай Асамблеі прыняла праект рэзалюцыі Вялікабрытаніі, згодна з якім устанаўлівалася новая працэдура выдачы ваенных злачынцаў. Урады краін, дзе былі ўчынены злачынствы, павінны былі нанава падаваць заявы аб выдачы ваенных злачынцаў і прадстаўляць вычарпальныя юрыдычныя доказы ўчынення злачынстваў. 6 славянскіх краін і Эфіопія галасавалі супраць гэтага праекта. На сесіі не атрымала падтрымкі і пазіцыя дэлегацыі БССР аб тым, што пад маскай «палітычных злачынцаў» хаваюцца ваенныя злачынцы. Большасць членаў ААН указала на неабходнасць адрозніваць паняцці «ваенны злачынец» і «палітычны злачынец». Гэта азначала, што савецкай дыпламатыі не ўдалося стварыць міжнародна-прававую базу для выдачы ваенных злачынцаў адпаведна сваім намерам.

Думка палітычных колаў беларускай эміграцыі адносна лёсу асоб, якія супрацоўнічалі з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на Беларусі /калабарантаў/, а потым апынуліся на Захадзе /усіх іх Савецкі ўрад лічыў ваеннымі злачынцамі/, была выказана ў мемарандуме Генеральнай делегатуры БЦР у Нямеччыне да кіраўніцтва ФРГ /верасень 1955 г./. У дакуменце ўказвалася, што на Захадзе апынуліся пераважна тыя асобы, якія працавалі ў самаўрадавых беларускіх установах і якія змагаліся супраць бальшавікоў у 1941—1945 гг. «Усе гэтыя людзі з'яўляюцца прынцыповымі праціўнікамі бальшавіцкага таталітарнага рэжыму і таму іх прымусовая рэпатрыяцыя ў СССР была б не гуманітарным актам, а ганебным бесчалавечным злачынствам», — падкрэслівалася ў мемарандуме. Выказвалася ўпэўненасць, што ні нямецкія палітычныя колы, ні шырокая грамадскасць не стануць на гэты шлях.

З абвастрэннем халоднай вайны пазіцыі Савецкага Саюза і Захаду па праблеме бежанцаў сталі супрацьлеглымі. Сталінскі рэжым выключаў магчымасць для бежанцаў і перамешчаных асоб самастойна і добраахвотна вырашаць пытанне аб сваім далейшым лёсе, патрабуючы іх поўнай і хутчэйшай рэпатрыяцыі.

Аднак ЭКАСАС у 1949 г. прыняў рэзалюцыю, згодна з якой галоўнай задачай IPO з'яўлялася ўжо не вяртанне людзей на радзіму, а рассяленне іх нанова ў іншых краінах. Галоўным аргументам заходняга блоку пры галасаванні гэтай рэзалюцыі было нежаданне бежанцаў

вяртацца на радзіму.

За перыяд з 1 ліпеня 1947 г. па 31 жніўня 1949 г. IPO рэпатрыіравала 66 тыс. чалавек. У іншых краінах было расселена каля 600 тыс. бежанцаў і перамешчаных асоб. На стану на люты 1949 г. у СССР не вярнулася 120 тыс. савецкіх грамадзян з Прыбалтыкі, 74 тыс. украінцаў, каля 4 тыс. беларусаў, больш за 4 тыс. рускіх. Беларускі прадстаўнік на 9-й сесіі ЭКАСАС /жнівень 1949 г./ заявіў, што ўрад БССР не спыніць сваіх патрабаванняў да IPO і прэтэнзій да ўрадаў да таго часу, пакуль апошні бежанец з Беларусі не вернецца на радзіму. Але гэтае сцвярджэнне аказалася простай рыторыкай.

Беларуская дэлегацыя выказалася ў падтрымку праекта рэзалюцыі СССР, прапанаваўшага, каб IPO і ўрады краін-членаў ААН, на тэрыторыі якіх знаходзяцца бежанцы і перамешчаныя асобы, прадставілі Генеральнаму сакратару ААН поўную інфармацыю аб гэтых асобах, уключаючы самыя дакладныя анкетныя даныя. Прадстаўнік ЗША выступіў супраць такіх прапаноў, абгрунтавана матывуючы гэта тым, што яны могуць быць выкарыстаны для прыцягнення да адказнасці адпаведна з заканадаўствам СССР і краін Усходняй Еўропы сваякоў бежанцаў і перамешчаных асоб, якія пражываюць у гэтых краінах. Савецкія прапановы былі адхілены.

Назапашаны беларускай дэлегацыяй вопыт і дыпламатычная актыўнасць у справе бежанцаў, мерkаванні савецкага знешнепалітычнага кіраўніцтва пры падзеле працы паміж дэлегацыямі СССР, УССР і БССР стварылі падставы для таго, каб беларуская дэлегацыя ўнесла на разгляд 4-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН /1949 г./ праект рэзалюцыі аб бежанцах і беспадданых. У ім рэкамендавалася дзяржавам-членам ААН поўнасцю завяршыць рэпатрыяцыю перамешчаных асоб і бежанцаў на радзіму на працягу 1950 г.; прапанавалася ўрадам краін-членаў ААН, на тэрыторыі якіх меліся азначаныя асобы, і IPO прадставіць Генеральнаму сакратару ААН поўныя звесткі аб такіх асобах на іх тэрыторыі, а таксама інфармацыю пра ўмовы іх жыцця. Але праект рэзалюцыі БССР не атрымаў падтрымкі.

На 5-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя БССР двойчы ўносіла праект рэзалюцыі аб бежанцах і беспадданых. Ён у асноўным паўтараў яе прапанову на 4-й сесіі, але быў складзены ў больш катэгарычным тоне. У прыватнасці, прапанавалася адзначыць невыкананне ўрадамі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі і іншых краін рэзалюцыі ад 12 лютага 1946 г. аб садзейнічанні рэпатрыяцыі. Натуральна, што ў такім выглядзе беларускі праект не мог быць прыняты заходняй большасцю.

I студзеня 1951 г. было створана Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў /УВКБ/, маючае сваёй мэтай ажыццяўленне міжнароднай прававой абароны бежанцаў і перамешчаных асоб і забеспячэнне пастаяннага ўрэгулявання праблем бежанцаў. У 1952 г. спынціла сваё існаванне IPO. У рэзалюцыі ААН аб стварэнні УВКБ і яго статуце было асобна агаворана, што дзейнасць Вярхоўнага камісара не павінна мець палітычнага характару. Тым не менш СССР, УССР і БССР галасавалі супраць утварэння УВКБ і адмовіліся ўдзельнічаць у яго працы. Савецкі Саюз крытыкаваў ЗША і іншыя дзяржавы Захаду за тое, што яны ў парушэнне статута УВКБ імкнуліся выкарыстаць яго каналы і сродкі ў сваіх палітычных мэтах. Па гэтых прычынах СССР, УССР і БССР не падпісалі Канвенцыю аб статусе бежанцаў, прынятую ў 1951 г. заходнімі краінамі, адпаведна якой да катэгорыі бежанцаў былі аднесены і перамешчаныя асобы.

На 6-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя БССР унесла праект рэзалюцыі аб бежанцах і апатрыдах /асобах без грамадзянства/ і праблемах дапамогі бежанцам. Яна зноў прапанавала адзначыць невыкананне ўрадамі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі і некаторых іншых краін рэзалюцыі ад 12 лютага 1946 г.; асудзіць палітыку, якая праводзілася IPO і праводзіцца УВКБ, накіраваную на падмену рэпатрыяцыі прымусовым перасяленнем перамешчаных асоб у іншыя краіны; асудзіць спробы ЗША і іншых краін Захаду ўсялякімі спосабамі вербаваць перамешчаных асоб для падрыўной і дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі СССР і краін «народнай дэмакратыі»; рэкамендавала ўрадам прадставіць Сакратарыяту ААН поўныя звесткі аб бежанцах і перамешчаных асобах на тэрыторыі іх краін.

Дадзены праект рэзалюцыі БССР спасціг лёс двух папярэдніх.Нават нейтральна настроеныя краіны не маглі пагадзіцца з прапанoвай асудзіць палітыку спецыяльных органаў ААН — IPO і УВКБ. Усе тры праекты абыходзілі маўчаннем карэннае пытанне: чаму грамадзяне СССР не жадаюць вяртацца на радзіму? Яны не былі і не маглі быць накіраваны на ўхіленне прычын, якія перашкаджалі рэпатрыяцыі, паколькі гэтыя прычыны караніліся ва ўнутранай прыродзе сталінскага таталітарнага рэжыму. Беларускай дыпламатыі не хапала пачуцця рэалізму, калі запар на трох сесіях Генеральнай Асамблеі ўносіліся ўсё больш «асуджаючыя», усё больш бескампрамісныя, больш канфрантацыйныя праекты рэзалюцый.

У сярэдзіне 50-х гадоў у сувязі з прыходам да ўлады новага савецкага кіраўніцтва і пацяпленнем міжнароднага клімату пазіцыя Савецкага Саюза па праблеме бежанцаў стала больш рэалістычнай. На 10-й сесіі Генеральнай Асамблеі дэлегацыя СССР двойчы ўносіла праекты рэзалюцый па дакладзе Вярхоўнага камісара — 5 і 10 кастрычніка 1955 г. Яна прапанавала ажыццяўляць наступныя мерапрыемствы для хутчэйшага вырашэння праблемы бежанцаў: 1/ даручыць Вярхоўнаму камісару заахвочваць і садзейнічаць хутчэйшаму вяртанню перамешчаных асоб і бежанцаў у краіны іх паходжання, кіруючыся пры гэтым прынцыпам добраахвотнасці; 2/ заклікаць урады краін, на тэрыторыі якіх знаходзяцца бежанцы і перамешчаныя асобы, правесці сярод іх неабходную растлумачальную працу ў мэтах хутчэйшага добраахвотнага вяртання на радзіму, а таксама садзейнічаць інфармаванню гэтых асоб аб законах аб амністыі ці вызваленні ад адказнасці; 3/ прапанаваць Вярхоўнаму камісару працягваць вышукваць іншыя рашэнні, акрамя вяртання на радзіму, для тых бежанцаў, якія адмаўляюцца добраахвотна вяртацца ў краіны іх паходжання.

Прапановы СССР сведчылі аб некаторых яго новых падыходах да вырашэння праблемы бежанцаў. Надавалася належнае значэнне працаўладкаванню бежанцаў і перамешчаных асоб у новых краінах іх жыхарства, прызнаваўся прынцып добраахвотнасці рэпатрыяцыі, а таксама неабходнасць пошуку іншых, акрамя рэпатрыяцыі, рашэнняў праблемы бежанцаў. Дэлегацыі СССР, УССР і БССР у сваёй прапагандысцкай рабоце сярод бежанцаў маглі абапірацца на ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 17 верасня 1955 г. «Аб амністыі савецкіх грамадзян, якія супрацоўнічалі з акупантамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг.» Савецкая ініцыятыва мела пэўны прапагандысцкі поспех, аб чым сведчыла вяртанне ў СССР у гады «адлігі» невялікай колькасці былых савецкіх грамадзян, а таксама грамадзян ці іх нашчадкаў былой Расійскай імперыі. Аднак асноўная маса бежанцаў і перамешчаных асоб знайшла другую радзіму ў заходніх краінах.

Што датычылася савецкай ініцыятывы, то яна зноў не знайшла падтрымкі. Чарговая няўдача савецкай дыпламатыі ў справе бежанцаў вымусіла кіраўніцтва СССР зняць гэтае пытанне з ліку прыярытэтаў савецкай знешняй палітыкі. Далейшая яго гальванізацыя не абяцала Савецкаму ўраду дыпламатычных і прапагандысцкіх поспехаў. Ён павінен быў быць задаволены тым, што ўсё ж такі значная колькасць савецкіх грамадзян вярнулася на радзіму. Што датычыла тых, хто не пажадаў вярнуцца, то ў савецкага кіраўніцтва, камуністычнай прапаганды быў ужо вычарпаны ліміт прывабных і спакуслівых заклікаў да суайчыннікаў, каб неяк заманіць іх у СССР.

**У.СНАПКОЎСКІ,**
**гісторык**

Выставы

# «НЯМІГА» Ў ЧАСЕ НЕСТАНДАРТНАГА МЫСЛЕННЯ

Група мастакоў, што аб'ядналіся пад назвай «Няміга-17», заявіла аб сабе ў 1986 годзе. Тады яны ўзялі на шчыт ідэю адраджэння мастацкай традыцыі 20-х гадоў, але паступова кола эстэтычных прыярытэтаў пашыралася. Нацыянальнае і наднацыянальнае ў мастацтве авангарда, узаемасувязь гэтых пачаткаў на сучасным этапе — мабыць, асноўнае, што яднае мастакоў у творчых пошуках.

На выставе «Нямігі-17», што адносна нядаўна праходзіла ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі, адразу кідалася ў вочы палярнасць настрояў, інтанацый твораў экспазіцыі. З аднаго боку, змрочныя, нават жудаснаватыя карціны Сяргея Кірушчанкі, у якіх часта гаворка ідзе пра барацьбу светлых і цёмных пачаткаў /прычым апошнія, як правіла, бяруць верх/: «Смерць аленя», «Забойства белага быка». З другога боку — мажорныя, жыццесцвярджальныя палотны Зоі Літвінавай: «Захавальнік жыцця», «Цвіценне», «Тая, што сустракае світанак».

У С.Кірушчанкі нават такі «нейтральны» жанр, як нацюрморт, нясе адбітак песімізму — «Чорны нацюрморт». З цэмры палатна, як вязні з цямніцы, бачны прадметы і драпіроўка. У гэтым свеце няма месца не толькі радасці, але нават усмешцы. Што тычыцца жывапіснай манеры, то ў нейкай меры яна нагадвае прыёмы нямецкага экспрэсіянізму, з яго падкрэсленай эпатажнасцю і глыбокім унутраным перажываннем.

Палотны Леаніда Хобатава стылістычна, а часам і канцэптуальна блізкія работам Кірушчанкі. «Лёс» — так называецца карціна, якая выяўляе ці то жабрака, ці то вандроўнага музыканта, які зарабляе на жыццё ігрой на гармоніку. Гэта сплаў абагульнення і канкрэтных назіранняў, эмацыянальнага выказвання і роздуму мастака аб лёсе тых, хто застаўся «за бортам жыцця». Было б на выставе толькі гэтае палатно Л.Хобатава, яно ўжо стала б з'явай. Тым больш прыемна, што мастак паказаў і іншыя свае работы, якія выключаюць выпадковасць і сведчаць аб плённасці яго творчага метаду. У карцінах Хобатава пачуццёвае ўспрыманне, узятае з антычнае міфалогіі, спалучаецца са, здавалася б, несумяшчальнай традыцыяй мастацтва прымітывістаў, з яго простай, эмацыянальнай адкрытасцю. Усё гэта выглядала б эклектычным, каб не было асаблівай яднаючай паэтычнай інтанацыі: «У чаканні вясны», «У палоне пяці дзеваў».

У жывапісна-дэкаратыўных, нават манументальных палотнах Мікалая Бушчыка пануюць гарызантальныя рытмы. Колер для яго не столькі фізічная характарыстыка нейкага асобнага прадмета, колькі ў цэлым уласцівасць прасторы. Гэтыя эмацыянальна насычаныя гарызанталі зрадні розным па сіле вятрам ці нават сферам, што акаляюць Зямлю. Дзве-тры паставы, абрысаваныя па контуры і празрыстыя ўнутры, не робяцца галоўнымі дзейнымі асобамі. Растваранасць, пагружанасць чалавека ў цішыню, якая пануе ў прыродзе, і яе душэўнае перажыванне пакідаюць сэнсавую падаплёку карцін М.Бушчыка. Урокі постімпрэсіянізму, успрынятыя скрозь жывапісныя навацыі пачатку XX стагоддзя, знайшлі тут сваё выяўленне.

Тры жывапісныя карціны Альгерда Малішэўскага /1922 — 1989/, выстаўленыя арганізатарамі ў прасторы паміж лесвіцамі, г. зн. насупраць ўваходу ў экспазіцыю, падкрэсліваюць значэнне яго творчасці, асобы для ўсіх удзельнікаў выстаўкі. Намечаныя ў яго прынцыпы жывапіснага асяроддзя, якое пад пэндзлем мастака ператвараецца ў неўтаймоўную стыхію і робіць з карціны непаўторны «перл стварэння», развіў А.Кузняцоў у сваіх палотнах «Падрыхтоўка да свята», «Легенда старога возера», «Песня салаўя».

Яркія палотны Зоі Літвінавай актуалізуе супрэматычныя памкненні Казіміра Малевіча. Адкрытыя колеры, звядзенне шматстайнасці форм да геаметрычных элементаў, што адразу ўзмацняе іх знакавасць, прастата і яснасць задачы — усё гэта ў поўнай меры заявана. Выкарыстанне пазалоты надае карцінам ўрачыстую сілу, а манера выяўлення — манументальнасць гучання. Некаторыя вобразы, напрыклад, птушкі, звяры, перагукваюцца з іх трактоўкай у скульптара Галіны Горавай, для якой птушка — самы важны рамантычны і адухоўлены сімвал.

Своеасаблiва трактуе чалавека Тамара Сакалова. Для яе гэта падстава падаць яго за ідалападобную істоту з нагамі-калонамі і кубападобнымі чляненнямі цел. Насычаны сіні колер, які пакрывае некаторыя фігуры, узмацняе ўражанне іх ірэальнасці.

Мяркую, што выстава дасягнула сваёй мэты — звярнае ўвагу гледачоў на праблему формы ў выяўленым мастацтве, на пошук мастацкага сэнсу ў самых розных праявах фантазіі. Зараз у нашым грамадстве /праўда, вельмі марудна/ ідзе працэс рэабілітацыі нестандартнага мыслення. Выстава «Нямігі-17» — наглядны таму прыклад.

**Ігар ПЯРЭРВА**

# СЛОВА РАЗВІТАННЯ

18 ліпеня на 74-м годзе жыцця памёр былы дырэктар Дома творчасці пісьменнікаў імя Я.Коласа ў Каралішчавічах, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Васіль Цімафеевіч Крывароцька. Крыху больш за два гады папрацаваў Васіль Цімафеевіч на гэтай пасадзе, але пісьменнікі, члены іх сем'яў запомнілі яго, як чалавека добрай і вялікай душы, як цудоўнага арганізатара і гаспадарніка, сумленнага і самаадданага сябра пісьменнікаў.

Паўсядзённы клопат пра тых, хто прыязджаў у Дом творчасці працаваць ці адпачыць, клопат аб тым, каб было ўтульна ў жылых пакоях, каб было смачна ў сталоўцы, каб былі найлепшыя ўмовы для творчай працы літаратараў, — усё гэта складала сэнс жыцця Васіля Цімафеевіча.

Пішу гэтыя радкі з цяжкім пачуццём незваротнай страты. Пішу дзеля таго, каб тыя, хто адчуваў у свой час дабрату і клопат Васіля Цімафеевіча, ведалі, што няма больш гэтага цудоўнага чалавека, і яшчэ раз успомнілі яго добрым словам. Пішу, каб сказаць на развітанне ад усіх, каму пашчасціла знацца з гэтым цудоўным чалавекам, слова ўдзячнасці за ўсё, што ён зрабіў для пісьменнікаў, каб сказаць: «Бывай, наш друг, наш добры чалавек!»

**В.ВІЛЬТОЎСКІ**

# «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» НА ЧУЖЫНЕ

## ДА 70-ЫХ УГОДКАЎ З ДНЯ ВЫХАДУ Ў СВЕТ КНІГІ ЯКУБА КОЛАСА

Ва ўсведамленне многіх пакаленняў беларусаў паэма Якуба Коласа «Новая зямля» ўвайшла як вялікі нацыянальны твор, прасякнуты нязгаснай любоўю да роднай старонкі і свайго народа, яго багатай духоўнай спадчыны. Можа, таму беларусам, дзе б яны ні апынуліся, гэты хрэстаматыйны шэдэўр заўжды дапамагаў узвысіць чалавечую годнасць, крышталізуючы патрыятычныя пачуцці да сваёй мілай Айчыны.

**О, родны край, о край пакуты,**
**Нягодай цяжкаю прыгнуты,**
**Калі ж ты збудзеш сваё гора,**
**Што і цяпер там, як і ўчора,**
**Як і даўней, цябе знішчае**
**І горкім смуткам авявае?..**

Найчасцей такі пранікнёны зварот праяўляўся ў часіны глыбокіх жыццёвых узрушэнняў, калі лёс кідаў у вір стыхіі падзей часу. Па сведчанні прадстаўнікоў беларускай студэнцкай эміграцыі 20—30-х гадоў, яны ўжо ў самой назве паэмы «Новая зямля» бачылі і ўсведамлялі сімвал беларускага нацыянальнага Адраджэння. І гэтая думка, сцвярджаў І.Дварчанін, «узрастае ўсё болей і болей. Пачынаецца хваравітая цяга да «Новае зямлі» і шуканне яе».

Беларускіх эмігрантаў у Празе вельмі захаплялі абразкі з побыту сялян, «дзяцей прыроды». А яшчэ іх кранала, як праўдзіва і дасціпна падаецца аўтарам вясковае жыццё, раскрываецца душа самога селяніна, малюнкі беларускай прыроды.

Вясковыя клопаты, прыход вясны і лета заўжды хвалявалі тых, хто знаходзіўся ўдалячыні ад сваёй Бацькаўшчыны.

Значнай падзеяй у духоўным жыцці беларусаў на чужыне з'явілася мюнхенскае эмігранцкае выданне «Новае зямлі» Якуба Коласа, якое выдавецтва «Бацькаўшчына» ажыццявіла ў 1952 годзе. Яно мела прывабны выгляд. З густам яго аздобіў Міхал Наўмовіч. Паэме папярэднічае ўступны аналітычны артыкул Р.Склюта. Характарызуючы трэцяе савецкае выданне «Новае зямлі» 1934 года, даследчык адзначае, што ў тэксце, апрача правапісу, адбыліся «дробныя змены», некаторыя з іх прыводзяцца. Аднак той, хто ведае складанасці таго часу, разумее, што такія «змены» былі неабходны. Пра гэта вымушаны быў гаварыць сам Я.Колас у прадмове: маўляў, «паэма «Новая зямля» з яе асноўным мэтаімкненнем бясспрэчна гучыць дысанансам нашай эпосе, эпосе пабудовы сацыялізму, эпосе калектыўнай працы. Тэндэнцыі ўласніцтва, паложаныя ў аснову паэмы, асабліва выпінаюцца на фоне калгаснага будаўніцтва сённяшняга дня».

Тым не менш, «Новая зямля» знаходзіла ў народных масах «ўсё большае водгулле». Яна знайшла ўдзячнага чытача і сярод нашае сённяшняе эміграцыі. І тут яна ўспрымалася, бадай, «старою», бо «старою зямлёю», «старым краем» завуць суайчыннікі сваю дарагую Бацькаўшчыну. Паэма Якуба Коласа адкрывала ім «старую зямлю» як найлепей.

Бібліяграфічны даведнік Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе», выдадзены Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Йорку ў 1985 годзе, дазваляе сцвярджаць, што мюнхенскае выданне «Новай зямлі» Якуба Коласа паклала пачатак актыўнай папулярызацыі гэтага класічнага шэдэўра беларускай літаратуры на эміграцыі. Асобныя ўрыўкі з гэтай паэмы пачалі рэгулярна ўключацца ў рэпертуар канцэртаў-ушанаванняў Коласаўскіх угодкаў і літаратурных вечарын, розных культурных імпрэзаў. Характэрна, што прапагандыстамі звычайна тут выступалі беларускія паэты, навукоўцы, святары, былыя настаўнікі і работнікі культурна-асветнага фронту.

Адным з такіх прапагандыстаў «Новай зямлі» стаў паэт Уладзімір Клішэвіч. Сілу Коласавай «Новай зямлі», яе паэтычнага радка, інтанацыі і простага, мудрага зместу ён упершыню адчуў, калі разам з Тодарам Лебядою, Масеем Сяднёвым, Кастусём Суднікам і іншымі сваімі равеснікамі з літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута савецкімі спецорганамі быў высланы ў Сібір, а пасля на Калыму. Ратавалі думкі аб роднай зямлі, аб далёкай любай Бацькаўшчыне. Ратункам прыходзілі ў памяць незабыўныя радкі «Новай зямлі» Я.Коласа.

Пра гэта У.Клішэвіч расказаў у рэфераце на публічнай Акадэміі перад суайчыннікамі ў Лос-Анжэлесе ў часе ўшанавання 3-х угодкаў смерці Якуба Коласа 16 жніўня 1959 года. Ён не толькі згадаў пра гэта, але і прачытаў асобныя ўрыўкі з паэмы.

Высока ацаніў «Новую зямлю» Масей Сяднёў, які гаварыў, што «Колас для нас нагэтулькі ж вялікі, наколькі вялікімі з'яўляюцца Гётэ, Дантэ, Байран». Хораша гаварыў пра «Новую зямлю» і Яўхім Кіпель, які быў асабіста знаёмы з Якубам Коласам. Сваімі ўражаннямі аб гэтым творы дзяліўся і Пётра Сыч, афіцэр-беларус, удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіно.

Гэты хрэстаматыйны твор сваёй ідэйнай накіраванасцю, рытмікай, замілаванасцю да Айчыны зрабіў уплыў на многіх патрыётаў, якія апынуліся на чужыне. Дастаткова сказаць, што з Коласавай «Новай зямлёю» пераклікаюцца шматлікія творы Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Алеся Змагара, Рыгора Крушыны, Уладзіміра Дудзінскага, Янкі Золака, Міхася Кавыля, Алеся Салаўя, Сяргея Ясеня і шэрагу іншых таленавітых літаратараў замежжа.

«Новая зямля» Якуба Коласа моцна ўразіла кампазітара Міколу Равенскага. Пралог паэмы з раздзела «Леснікова пасада» пад назовам «Мой родны кут» ён паклаў на музыку. Гэты пранікнёны дуэт для жаноцкіх галасоў хораша выконвае ансамбль «Васілёк». Песня «Мой родны кут» ёсць і ў рэпертуары Данчыка.

Коласаўскія вобразы мілага, роднага краю знайшлі адлюстраванне ва ўсведамленні беларусаў-мастакоў. Так, Уладзімір Шыманец, які жыве ў Францыі, стварыў карціну «Леснічоўка ў Акінчыцах», а таксама шэраг прац, прысвечаных іншым памятным мясцінам вялікага песняра. Постаць Якуба Коласа і яго «Новая зямля» захапляюць і мастачку Лілі Бурнос з далёкага аўстралійскага горада Адэлаіда.

Хочацца верыць, што новы юбілей «Новай зямлі» Якуба Коласа паслужыць больш цесным стасункам нашых суайчыннікаў са сваім родным краем, паспрыяе таму, «каб новы свет жыцця саткаць, заспакаенне сэрцу даць і разагнаць яго трывогі», каб стаць Беларусі вольнай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай.

**Леў МІРАЧЫЦКІ**

Выдадзена эміграцыяй

# УСЁ ПРА КУПАЛУ І КОЛАСА

Яшчэ ў 1985 годзе Беларускі Інстытут навукі і мастацтва /БІНіМ/ у Нью-Йорку выдаў бібліяграфію «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе» /укладальнікі Вітаўт і Зора Кіпелі/. Пра яе і цяпер згадаць не позна. Кніга ахоплівае даволі вялікі перыяд, пачынаючы з публікацый газеты «Наша Ніва» і канчаючы выданнямі 1984 года. Складаецца яна з трох частак: «Янка Купала», «Якуб Колас», «Працы пра Купалу і Коласа». Першая і другая частка маюць аднолькавую будову /складаюцца з сямі раздзелаў/: 1/ Купалавы /Коласавы/ творы; 2/ творы пра Купалу /Коласа/; 3/ пераклады Купалавых /Коласавых/ твораў; 4/ творы Купалы /Коласа/, пакладзеныя на музыку; 5/ творы Янкі Купалы /Якуба Коласа/ на кружэлках і істужках; 6/ Купала /Колас/ у мастацтве: партрэты, паштоўкі, плакаты; 7/ з рукапіснае спадчыны Янкі Купалы /Якуба Коласа/.

Укладальнікі, як яны самі адзначаюць ва «Уступе», імкнуліся ахапіць тое, што не ўлічвалася ранейшымі бібліяграфіямі: каб не згубілася. Яны пастараліся занатаваць усё тое, што пісалася пра Купалу і Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе. Па меры магчымасці ўлічана, што гаварылася аб паэтах у беларускім друку былой Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы, Чэхаславакіі і Савецкай Беларусі. Улічана таксама і тое, што друкавалася на замежных мовах.

Кожная старонка гэтай працы дае шмат новага і цікавага. Давайце і мы перагорнем асобныя з іх. Адкрыем першую частку — «Янка Купала» і яго раздзел «Купалавы творы». Чытаем: «Адна Купалава прамова». Аказваецца, гэта «адна з рэдкіх Купалавых прамоў, якую ён сказаў на ўрачыстым банкеце 24 чэрвеня 1920 г. у Менску з нагоды 15-цігодняга юбілею ягонае творчасці», што перадрукавана яна газетай «Бацькаўшчына» ў 1954 годзе, з тэксту Я.Карскага /Беларусы, т.3, вып.3, 1922/. Прамова сведчыць, што Купала верыў у свой народ і ягоную будучыню: «Змагайся і стань вольным, беларускі народ!»

А вось верш Я.Купалы «Памяці Т.Шаўчэнкі» /«Ад гасцінца да гасцінца»/. Яго передрукавала ў 1909 годзе з газеты «Наша Ніва» адна з найстарэйшых украінскіх газет у ЗША «Свабода». Як адзначаюць складальнікі, «гэта першы раз беларуская мова сустракаецца ў друку ЗША».

Возьмем, напрыклад, зборнік выбраных твораў «Спадчына», што быў падрыхтаваны і выдадзены БІНіМам у 1955 годзе. Кніга складаецца з 13 раздзелаў, у ім шмат твораў, што былі забаронены ў Савецкай Беларусі. Акрамя таго, у зборнік уключаны біяграфічны нарыс на англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай мовах, а таксама грунтоўны агляд «Жыццёвы і творчы шлях паэта», напісаны Ст.Станкевічам.

Асабліва багаты раздзел «Творы пра Купалу». Ён пачынаецца з рэцэнзіі Владака з Казіміроўкі «Жалейка, песні Янука Купалы» на першы Купалаў зборнік «Жалейка» /1908 г./, заканчваецца 1983 годам і змяшчае каля 600 назваў артыкулаў, рэцэнзій, нататак, лекцый, прамоў, вершаў і г.д. Перадаць змест усяго матэрыялу, вядома, немагчыма, хочацца толькі засяродзіць увагу на адным творы Я.Купалы — п'есе «Тутэйшыя». У 1929 годзе з'яўляецца артыкул «Беларускі нацыянал-фашызм і нацыянал-дэмакратызм», у якім А.Некрашэвіч крытыкуе п'есу, а ў 1930 годзе ўжо ў кнізе «Беларускі Першы Дзяржаўны тэатр 1920—1930» не толькі крытыкуе, але і адзначае, што п'еса была знята з рэпертуару «з прычыны пратэсту савецкае грамадскасці». Крытыка таго часу абрынулася на творчасць Я.Купалы дзевятым валам. Так, у часопісе «Маладняк» за чэрвень—ліпень 1930 года М.Аляхновіч бэсціць Я.Купалу за «нацдэмаўскія ўхілы» /«На аванпастах пралетарскай літаратуры»/, а Я.Дораг у артыкуле «25 год творчае працы» /«Чырвоная Беларусь»/, аналізуючы творчасць Я.Купалы, — за палітычныя погляды: «Янка Купала не здолеў адгукнуцца на рэвалюцыю». У артыкуле Канакоціна «Абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі» Купалава творчасць разглядаецца як нацдэмаўская.

У раздзеле «Пераклады Купалавых твораў» занатаваны пераклады твораў на англійскую, іспанскую, італьянскую, латышскую, нямецкую, французскую, а са славянскіх — на польскую, расійскую, славацкую, славенскую, украінскую і чэшскую мовы. Якія творы перакладаліся? Пераважна вершы, урыўкі як з вялікіх, так і з твораў малых форм, артыкулы, выступленні. Ёсць цэлыя зборнікі твораў, але іх няшмат. Патрэбна таксама адзначыць, што многія пераклады на замежныя мовы выдаваліся ў Менску або ў Маскве.

У чацвёртым раздзеле «Творы Купалы, пакладзеныя на музыку» змешчана 69 назваў, сярод іх: «А зязюля кукавала», «А хто там ідзе?», «А ў бары, бары», «Годзе», «Каб я была перапёлкай», «Курган», «Марш моладзі», «Мова родная», «Не загаснуць зоркі ў небе» /тэкст пакладзены на музыку М.Янчуком у якасці нацыянальнага гімна/, «Паўстань, народ» /«Свайму народу»/, «Роднае слова», «Я ад вас далёка» і інш.

Пяты раздзел «Творы Янкі Купалы на кружэлках і істужках» невялікі — усяго 13 назваў. Сюды ўключаны і радыёперадачы. Напрыклад, «На куццю» — гэта дэкламацыя забароненай у Савецкай Беларусі Купалавай паэмы «На куццю». У адрозненне ад папярэдняга раздзела тут указаны не толькі аўтары музыкі, але і выканаўцы /вакалісты, хоры/.

Шосты раздзел «Купала ў мастацтве: партрэты, паштоўкі, плакаты» ўключае ілюстрацыі да твораў /«А хто там ідзе?», «Гусляр», «Песня званара»/, рысункі /«Вязынка», «Хата Купалы», «Дом, дзе радзіўся Янка Купала»/, партрэты.

У раздзеле «З рукапіснае спадчыны Янкі Купалы» занатаваны ўласнаручныя рукапісы твораў «Безназоўнае», «Курган», «... О так! Я — пралетар!..», «Памяці Вінцука Марцінкевіча», «Хаўруснікам», якія «дагэтуль не друкаваны». Пад кожным рукапісам указваецца, дзе ён захоўваецца зараз.

Гэтак жа падрабязна і дэталёва разглядаюцца і творы Якуба Коласа.

І апошняя частка бібліяграфіі — «Працы пра Купалу і Коласа». Гэта агляды, каментарыі і рэцэнзіі, артыкулы, нарысы, рэпартажы, манаграфіі, інфармацыі, успаміны. Тут жа даюцца спісы падручнікаў і чытанак, у якія ўвайшлі творы Я.Купалы і Я.Коласа, што друкаваліся пасля 1945 года «для беларускіх дапаўняльных школ на эміграцыі».

Вельмі цікавым для чытача будзе звязаны з дзейнасцю Я.Купалы і Я.Коласа «Каляндар». Вось некалькі прыкладаў.

1914 год. Чытаем: «Места Вільня, зала «Сокал». Упершыню там была пастаўлена п'еса Янкі Купалы — «Паўлінка». А.Бурбіс выконваў ролю Пранціся. Пасля паказу адбылося прыняцце і Янку Купалу быў падараваны залаты гадзіннік».

1932 год — «Імем Я.Купалы названа бібліятэка-чытальня ў Порта-Алегра ў Бразіліі. Бібліятэка кіруецца беларуска-ўкраінскімі арганізацыямі».

1934 год — «Сакавік. У Вільні Антон Луцкевіч рабіў рэферат на тэму «Недрукаваныя і недакончаныя творы Янкі Купалы».

1936 год — «5-ы нумар беларускага літаратурна-навуковага часопіса «Калоссе», які друкаваўся ў Вільні, быў прысвечаны творчасці Якуба Коласа».

1983 год — «29-га снежня 1982 — 2-га студзеня 1983 у Сіднэі адбылася 5-ая Сустрэча беларусаў Аўстраліі, якая была прысвечана стогадоваму юбілею Купалы і Коласа. Асноўны рэферат аб творчасці паэтаў зрабіў а.А.Надсан з Лондана».

Нават з кароткага агляду можна зрабіць вывад, што шматгадовая праца Зоры і Вітаўта Кіпеляў з'яўляецца велізарным укладам у агульнае беларусазнаўства. Яна дапаможа новым даследчыкам знайсці затаптаныя сцяжынкі да творчасці нашых слаўных суайчыннікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**Г.ХАТКЕВІЧ**


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 22.07.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12